



Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

12 КРАСАВІКА 2002г. № 15 - 16/4149 - 4150 КОШТ 290 РУБ.










# Ажылі вобразы дзяцінства

*У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбылася выстава народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, якая прадстаўляе поўны цыкл ілюстрацый да кнігі Якуба Коласа “Новая зямля”.*

*Каля дзесятка выданняў вытрымала паэма “Новая зямля” з часу яе напісання. Але апошняе выданне яе, задуманае і здзейсненае Беларускім фондам культуры па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам яго старшыні У.Гілепа, не магло стаць шараговым. Выдадзена паэма была на трох мовах, што стала для Фонду культуры добрай традыцыяй. Так, першай кнігай з серыі сусветна знакамітых раманаў у вершах быў “Пан Тадэвуш” А.Міцкевіча (ілюстрацыі В.Шаранговіча), другой — раман А.Пушкіна “Яўгеній Анегін” (ілюстрацыі А.Кашкурэвіча). Трэцяй — бессмяротны твор Якуба Коласа на беларускай, польскай і рускай мовах, які праілюстраваў народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч. 91 акварэльны малюнак — такі вынік яго паўтарагадовай працы. Зусім невялікі тэрмін, каб давесці работу ад першых накідаў да канчатковага варыянта. Тым больш, што коласаўская “энцыклапедыя сялянскага жыцця” не дазваляе вольнасці ў трактоўцы, абстрагаванасці і фармальных падыходаў. Канкрэтыка быту, якая суправаджае чытача на працягу ўсіх трыццаці раздзелаў паэмы, можа быць выкладзена ў такім вялікім шэрагу ілюстрацый толькі з канкрэтнай пазнавальнасцю ў дэталях. Знайсці разнастайнасць вобразнага раду ў ілюстрацыях, дзе сам тэкст дае чаргаванне краявідаў, бытавых сцэнак з удзелам некалькіх герояў, партрэтаў, было задачай надзвычай складанай.*

*Уся гэта праца разгортвалася і ажывала на маіх вачах. Колькі высілкаў было пакладзена, колькі напружаных дзён было праведзена ў майстэрні, калі мастаку даводзілася літаральна штодзень маляваць новую акварэль па эскізах. І памылкі павінны былі быць выключаны, на іх выпраўленне ўжо не хапіла б часу. Натуральна, ілюстрацыі нельга назваць проста экспромтам, у іх адчуваецца моцная рука і валоданне матэрыялам, вялікі мастакоўскі і жыццёвы вопыт, шчырая ўпэўненасць, што акрамя яго, магчыма, сёння ніхто не возьмецца за складаную працу ілюстравання гэтага твора. І яшчэ — ажыўшыя ўспаміны дзяцінства, якое мастак правёў у вёсцы з адметнай назвай Качаны ў азёрным нарачанскім краі. Там, дзе былі такія ж запамінальныя краявіды, такія ж каларытныя працавітыя мужчыны, прыгожыя жанчыны і такія ж мары аб сваёй “новай” зямлі, якой, на жаль, ім так і не давялося дачакацца. Урэшце, як і сялянам Якуба Коласа, нездарма ж паэт пасля дванаццацігадовай працы над кнігай закончыў яе менавіта смерцю расчараванага ў жыцці Міхала...*



— З гэтай паэмай я пазнаёміўся яшчэ ў дзяцінстве, раней, чым з вершамі Якуба Коласа, якія праходзілі па школьнай праграме. Звязана гэта было з тым, што мая мама сама любіла паэзію і музыку. Я меў добрую памяць і ўсю паэзію запамінаў лёгка. Я не “зубрыў”, як гэта часта здаралася ў школе, а проста чытаў і адразу мог пераказаць верш. Пасля вайны кніг было мала, якім чынам мне патрапіла ў другім ці трэцім класе паэма Коласа, я цяпер ужо не памятаю. Але, па вечарах, калі мама многа прала і вышывала, яна заўсёды прасіла мяне пачытаць. І Коласава паэма ёй падабалася, часам мог і бацька прыслухацца, які быў далёкі ўвогуле ад паэзіі. Я чытаў маме раздзелы па чарзе, чытаў і па два разы, запамінаў на памяць. Хутка сталі мяне прасіць пачытаць Коласа і вясковыя мужыкі. А што такое вясковы лад? У святочныя дні, калі мужыкі паснедалі, выпілі па чарцы самагонкі, збіраліся на прызбе. Яны з задавальненнем слухалі маё чытанне і весела рагаталі. А смяяліся таму, што было вельмі падобна на іх жыццё. І хоць яны мелі сваю зямлю, але зусім мала і кожны марыў пра добры свой кавалак. І напісанае ў паэме ім было вельмі блізкім. Гэта былі 50-я гады калі, яшчэ ў Заходняй Беларусі не арганізаваліся калгасы і лад быў менавіта сялянскі. Жылі, працавалі, гулялі святы, збіраліся ў госці, як гэта апісваў Колас. Калі браць па вялікім рахунку, ідэя мець свой кут, свой кавалак зямлі застаецца для сённяшніх “мужыкоў”, адарваных ад сваёй зямлі калгасным існаваннем, таксама актуальнай.

*( Заканчэнне на стар. 10 — 11 )*



## КОЛА ДЗЁН

***Здаецца, нарэшце прыйшла вясна, а з ёй веснавыя клопаты. У кожнага свае...***

### РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне, згодна з якім XI Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар" у Віцебску ў гэтым годзе будзе праходзіць з 19 па 25 ліпеня. Згодна з дакументам, зацверджаны арганізацыйны камітэт маючага адбыцца фестывалю. Яго ўзначаліў віцэ-прэм'ер краіны Уладзімір Дражын. У склад аргкамітэта ўвайшлі — памочнік прэзідэнта Беларусі, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Іван Карэнда, старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка, Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін, міністр культуры Леанід Гуляка, прадстаўнікі міністэрстваў культуры Расіі і Украіны, кіраўнікі дыпламатычных місій гэтых краін у Беларусі і іншыя афіцыйныя асобы.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

З 23 па 26 красавіка ў Мінску пройзе міжнародная выстава "Сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі". У адрозненне ад папярэдніх гадоў, калі ў выставе бралі ўдзел толькі друкаваныя выданні, сёлета да выставы далучацца і электронныя СМІ. На выставе будзе прадстаўлена ўкраінская і расійская прэса.

### ДАЛУЧЭННЕ ТЫДНЯ

На пленуме Беларускага саюза моладзі прынята канчатковае рашэнне, згодна з якім маладзёжнае выданне "Чырвоная змена" далучаецца да газеты "Звязда". Гэты нялёгкі выбар для калектыву выдання і заснавальніка ў асобе саюза моладзі даваўся рабіць пасля таго, як даўгі "Чырвонай змены" розным прадпрыемствам перавысілі 60 мільёнаў рублёў. Грошы на сённяшні дзень не такія ўжо і вялікія, але і такіх няма на выданне газеты. У новай іпастасі газета захавае сваю назву і лагатып. Праўда, яшчэ не вырашана, як "Чырвоная змена" будзе выходзіць — укладышам у "Звяздзе" ці самастойным штотыднёвым дадаткам са сваім падпісным індэксам...

### ПАТРАБАВАННІ ТЫДНЯ

З 1 красавіка краіны Еўропы забаранілі пасадку ў сваіх аэрапортах тым самалётам, якія не адпавядаюць іх нормам узроўню шумоў і экалагічнай бяспекі. У нашай краіне толькі чатыры самалёты ТУ-154 М адпавядаюць патрабаванням Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі.

### ПАЧАТАК ТЫДНЯ

Шмат прайшло часу з таго дня, калі ў нашай краіне пачалі гаварыць пра свой марскі флот. Праўда, усяго пра некалькі марскіх караблёў, хоць гэткія размовы вядуцца даўно. Магчыма, ужо нешта ў нас на моры і ёсць, а магчыма, і нічога пакуль што няма. Але, відаць, да канца гэтага месяца ў нас з'явіцца першы беларускі сухагруз класа "рака-мора". З пачатку навігацыі ён будзе хадзіць па Дняпры ў порты Чорнага мора і перавозіць прадукцыю "Беларуськалію".

### ПРЫБЫТАК ТЫДНЯ

На 10 працэнтаў у красавіку даражэе тэлефонная сувязь. Падаражанне тлумачыцца тым, што ў "Белтэлекама" малы прыбытак, які з пачатку года склаў 1,7 млн. долараў. Лічба не такая ўжо і малая, але, відаць, яе не хапае, каб тэлефонная сувязь працавала як мае быць і далей...

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Адразу на 25 працэнтаў павысіліся цэны на білеты ў міжгародніх аўтобусах. А ў прыгарадных — аж у паўтара раза. Няслаба...

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

Не за гарамі сяўба. Для таго, каб яна прайшла больш-менш нармальна, банкі нашай краіны павінны выдаткаваць сельскай гаспадарцы 40 млн. долараў крэдытаў. Аднак, гэтыя грошы змогуць атрымаць не ўсе, бо амаль палова калгасаў і саўгасаў яшчэ дагэтуль не сплацілі леташнія пазыкі.

### РОСТ ТЫДНЯ

Людзі, якія даўно не атрымоўваюць зарплату, зразумела, рана ці позна перастануць плаціць кватрплату. За тых, хто не плаціць кватрплату, рана ці позна возьмуцца ЖЭСы, якія, дзякуючы кватэраплацельшчыкам, і жывуць, у сваю чаргу не атрымаюць зарплату і не купяць прадукцыю тых, хто не плаціць за кватэру. Словам, замкнутае кола. У такім коле на сённяшні дзень знаходзіцца нямала жыхароў нашай краіны. І гэтае кола расце. На сённяшні дзень неплацельшчыкаў налічваецца 15 працэнтаў. Лічба немалая. Дык як гэтую лічбу зменшыць? Мяркуючы па ўсім, што адбываецца ў нашай краіне, ніхто не ведае...

### ЧАРГА ТЫДНЯ

На сённяшні дзень у нашай краіне ў чарзе на ўстаноўку тэлефона стаіць 440 тысяч чалавек, у тым ліку 20 тысяч — у Мінску. На гэтым тыдні адбылося падключэнне да тэлефоннай сеткі трохмільённага абанента.

### ЦЭНЫ ТЫДНЯ

• У сярэднім на 2,5 працэнта павялічыліся розлічныя цэны на гарэлку і спірт. Напрыклад, "Крышталь-100" падаражэў з 2758 да 2827 рублёў без кошту посуду, шампанскія і пеністыя віны захавалі сваю цану. Але не аднымі спіртнымі напоямі жыве чалавек...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Развіццю дзіцячай літаратуры, неабходнасці скаардынаваць намаганні выхавання маладога пакалення на лепшых узорах айчыннай класікі было прысвечана пасяджэнне "круглага стала" "Пісьменнік. Бібліятэка. Чытач", арганізаванае секцыяй дзіцячай літаратуры СБП і Міністэрствам інфармацыі пры ўдзеле супрацоўнікаў дзіцячых бібліятэк г.Мінска, што адбылося ў канферэнц-зале Дома літаратара. Са змястоўным і грунтоўным дакладам выступіла дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк Ліна Сачко. Міхась Пазнякоў, Яўген Каршукоў, Уладзімір Паўлаў, Іван Курбека, Алесь Савіцкі, Мікола Чарняўскі, Таццяна Мушынская, Уладзімір Ліпскі, Павел Місько, Міхась Кенька, Ніна Галіноўская, Маргарыта Яфімава і іншыя гаварылі пра стан літаратуры для дзяцей, неабходнасць якаснага паляпшэння твораў, адрасаваных выхаванцам дзіцячых садкоў і школьнікам. Намеснік кіраўніка галоўнага упраўлення развіцця выдавецкай дзейнасці Міністэрства інфармацыі Алена Савельева расказала пра выдавецкія планы выпуску ў свет неабходнай літаратуры.У нашай рэспубліцы няма, на жаль, ні Дома дзіцячай кнігі, ні Рэспубліканскай дзіцячай бібліятэкі, якія б займаліся вывучэннем попыту на такую літаратуру, у вышэйшых навучальных установах не выкладаецца курс дзіцячай літаратуры, не аднаўляюцца наяўныя бібліятэчныя фонды, бо кнігі робіцца ўсё даражэйшымі і даражэйшымі і бібліятэкі не заўсёды маюць магчымасць набыць неабходнае. Удзельнікі "круглага стала" абмеркавалі і прынялі праект пастановы па распрацоўцы дзяржаўнай праграмы выдання дзіцячай літаратуры.

•

З мэтай увекавечання памяці выдатнага беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і Літаратурнай прэміі імя Мележа, СБП са згоды Мінскага гарвыканкама пры падтрымцы Міністэрства культуры мяркуецца вырабіць і ўстанавіць мемарыяльную дошку з тэкстам адпаведнага зместу на доме па праспекце Ф.Скарыны ў Мінску, дзе жыў аўтар шырокавядомых раманаў "Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца".

**М.Р.**

# У Доме дружбы

10-годдзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Турцыя была прысвечана ўрачыстая вечарына, што адбылася днямі ў Доме дружбы. З вітальнымі словамі да прысутных звярнуліся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Турцыя ў Рэспубліцы Беларусь спадарыня Шуле Сайсал, намаганнямі якой багата робіцца для плённага развіцця двухбаковых адносін на карысць нашых краін, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Турцыя спадар Санджар Азсой, старшыня таварыства Беларусь—Турцыя Сяргей Касцючэнка, прадстаўнікі міністэрства замежных спраў. Як падкрэслілі выступоўцы, супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Турцыяй мае добрыя перспектывы. У выкананні вакальнай групы "Чысты голас", салісткі Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Вікторыі Курбацкай, дзіцячага вакальна-эстраднага калектыву "Буслік", студэнтаў і аспірантаў Беларускай акадэміі музыкі і музычнага каледжа прагучалі беларускія і турэцкія песні, творы В.Моцарта, Г.Вяняўскага, Д.Шастаковіча. Пад назвай "Непазнаная тайна Усходу" экспанаваліся графічныя творы мастачкі Алены Байдаковай.

**М.Р.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Хочацца спяваць

"Ці да песень?" — запытаецца. Адкажу, згадаўшы старажытную мудрасць: "Не загіне горад, у якім ёсць свята". Не загіне народ, у якім жыве песня. Якому хочацца спяваць. Спяваць не пазычанае, не перайманае: сваё. Зрэшты, словы словамі... А на справе?

А справа — спраўдзілася. Ініцыятыву Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры — арганізаваць Рэспубліканскі фестываль-конкурс выканаўцаў беларускай народнай песні — падтрымала Міністэрства культуры, улучыўшы новую імпрэзу ў асноўны план сваёй працы. Фестываль-конкурс атрымаў назву "Галасы Радзімы". Яго першы тур правялі ў лютым абласныя ўпраўленні культуры, дамы народнай творчасці. Фінал адбыўся пры канцы сакавіка ў сталіцы, у Маладзёжным тэатры эстрады.

Конкурсным праслухоўванням папярэднічала прэс-канферэнцыя з удзелам арганізатараў і прадстаўнікоў журы.

"Спрабуем упершыню вывесці маладых салістаў-народнікаў на сцэну, каб дапамагчы выяўленню іх здольнасцяў, прафесійнай арыентацыі, што ўрэшце пасадзейнічае развіццю народнапесеннай творчасці", — зазначыў Мікалай Кузьмініч, прарэктар БУКа, намеснік старшыні аргкамітэта. Сярод задач — узбагачэнне рэпертуару лепшымі ўзорамі народнай песні, павышэнне ўзроўню выканальніцкага майстэрства і сцэнічнай культуры пачаткоўцаў ды прафесійных спевакоў, папулярызацыя беларускай народнапесеннай творчасці, далучэнне грамадства да яе традыцый.

Спаборніцтва праводзілася па трох намінацыях: "профі" (выканаўцы з адпаведнай спецыяльнай адукацыяй), "навучэнцы" (прадстаўнікі спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва), "аматары" (асобы без прафілюючай адукацыі). Удзельнікі — ва ўзросце ад 16 да 30. Як удакладніў Станіслаў Дробыш, загадчык кафедры беларускай народнапесеннай творчасці БУКа, старшыня журы, кожны з іх рыхтаваў па тры вакальныя творы. Гэта беларуская народная песня ў арыгінале, без суправаджэння (аўтэнтыка); яшчэ адна беларуская народная песня, таксама а капэла, але ў апрацоўцы; песня беларускага кампазітара пад жывы акампанемент канцэртмайстра (інструментальнага ансамбля) ці ў суправаджэнні фанаграмы "мінус 1".

Журы ацэньвала выканаўчае майстэрства ды сцэнічнае ўвасабленне песеннага вобраза, выстаўляючы балы на індывідуальных аркушах, незалежна, без нейкай калегіяльнасці, — зусім як арбітры ў фігурным катанні. І вось — вынік. Лаўрэатамі 1-й ступені і уладальнікамі самых высокіх грашовых узнагарод (па 200 тыс. рублёў) названыя педагог адной з мінскіх гімназій Наталля Корань, студэнтка БУКа Рэната Руднева ды саліст ансамбля "Бяседа" Валянцін Кірыленка. Сярод іншых лаўрэатаў і дыпламантаў — салісты-аматары Таццяна Храменка, Сяргей Шкурдзе, навучэнцы Паліна Смолава, Сяргей Мядзведзеў, Вольга Краўчуковіч, "профі" Таццяна Бейма, Наталля Конюх, Юлія Шашок, Сняжана Кішко...

Спіс, як гаворыцца, можна працягваць, можна спыніцца на шматкроп'і. Галоўнае — які будзе працяг лёсу пераможцаў ды і самога фэсту-спаборніцтва?

Кароткая размова з М. Кузьмінічам пераканала, што І Рэспубліканскі фестываль-конкурс "Галасы Радзімы" ладкаваўся не марна і задуманы з перспектывай. Навучэнцы, адзначаныя журы, будуць мець ільготы пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры. Плануецца канцэрт пераможцаў на сцэне Маладзёжнага тэатра эстрады, а таксама іх тур па Беларусі (калі дазволяць фінансы). Белвідэацэнтр здымаў фільм пра новую імпрэзу: на першым Нацыянальным тэлеканале мае адбыцца яго паказ.

"Галасы Радзімы" вырашана збіраць-праслухоўваць-судзіць праз кожныя два гады. Хаця сёлетнія ўдзельнікі фэсту настолькі задаволеныя і ўзрушаныя падзеяй, што гатовыя зноў і зноў выступаць. Хоць зараз. Хочацца людзям спяваць...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# "Лісты часу" ў Магілёве

Неўзабаве ў Магілёўскім мастацкім музеі адбудзецца адкрыццё выставы Віктара Альшэўскага "Лісты часу". Гэта не паўтор экспазіцыі, якая год таму была прэзентавана ў Мінску цэнтрам "Жылбел". Сам аўтар успрымае новую выставу як своеасаблівае падсумаванне творчых набыткаў, нездарма ж ён вырашыў прадставіць на выставе творы розных гадоў. Карціны мастака не заўжды выклікалі адназначныя меркаванні ў творчым асяродку, але пры гэтым усе вызначалі іх несумненную таленавітасць, прафесійнасць, запамінальную і надзвычайную каларытнасць. Вялікія памеры, манументальныя вобразы, увага да сімвалічных дэталяў і, галоўнае, імкненне выйсці за межы традыцыйнай плоскасці карціны, пабудаваць прастораву рэч без аглядкі на крытыкаў і недобразычліўцаў — усё гэта характарызуе мастака як моцную творчую асобу.

Віктар Альшэўскі "цягне" як вучоны сакратар добрую частку працы ў Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і пры гэтым лёгка адгукаецца на новыя праекты. Так, нядаўна адбылася выстава ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, у якой удзельнічалі трое мастакоў (В.Альшэўскі, У.Панцялееў, Л.Журавовіч), якія родам з мясцін В.Бялыніцкага-Бірулі. Новая выстава Віктара Альшэўскага ў Магілёве абяцае быць падзеяй для горада. Пасля ж яе закрыцця мастак, магчыма, зноў вернецца ў цішыню майстэрні, каб праз нейкі тэрмін парадаваць гледача новай нечаканай мастацкай знаходкай.

**Н.ШАРАНГОВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Каму, як не ім?

Да ганаровых званняў у сферы творчасці можна ставіцца па-рознаму. Але калі ўжо ёсць такая завядзёнка — ганараваць лепшых, дык няхай дастойныя ўшаноўваюцца своечасова. Чым раней, тым лепей. Каб фармулёўка "ў сувязі з..." не ўспрымалася паблажлівым намёкам на пэўную дату ў асабістым календары ўшанаванага.

Дваіх цудоўных салістаў папулярнага ў сталіцы тэатра, Дзяржаўнага музычнага, у народзе вядомага як проста "аперэта", ганаравалі, відаць, таксама "ў сувязі з..." Падзея прыемная, радасная, чаканая. Доўгачаканая: магла быць і раней. Бо каму дарыць афіцыйнае прызнанне, каго яшчэ называць заслужанымі артыстамі Беларусі, як не гэтых спевакоў і акцёраў, адданых мастацтву, свайму тэатру, сваёй публіцы, якая, дарэчы, даўно ведае ды шануе іх імёны, іх майстэрства! Яны, цяпер ужо й сапраўды заслужаныя артысты Валянціна Пятліцкая ды Віктар Бажэнаў, пацвердзілі свой прафесіяналізм, годны творчы ўзровень і працавітасць у прэм'еры сёлетняга сезона — "Лятучай мышы" Ё. Штраўса. Абое тут — на першых ролях, а В. Пятліцкай давялося, да таго ж, выканаць працу рэжысёра абнаўлення спектакля, вернутага ў рэпертуар пасля шматгадовага забыцця. Трымайце марку, Артысты!

**С. Б.**

ІМПРЭЗЫ

# "Многая лета!" музею

Знаёмы адрас: Музычны завулак, 5. Мы былі тут у студзені, калі ў гэтым аднаўленым кутку Верхняга горада спраўляў ўваходзіны Дзяржаўны музей тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. А нядаўна менская сядзіба музаў, пра якую "ЛіМ" распавёў 25.01.2002 года, зноў збірала гасцей.

Нагодай для гэтай сустрэчы стаўся традыцыйны рытуал, неабходнасць якога дырэктар музея Зінаіда Кучар патлумачыла прыкладна так. З даўніх часоў існуе хрысціянскі звычай — не засяляць будынак, пакуль не зроблена асвячэнне яго кутоў. Наваселле музея адбудзецца, напэўна, ужо ў красавіку, калі ў залах з'явяцца першыя экспанаты. За кожным экспанатам — людзі, іх праца, веды, жывая душа і лёс... Музей інфармуе, дае веды. Але чаго вартыя веды без духоўнай і душэўнай асновы?

Абрад асвячэння будынка з благаслення мітрапаліта Філарэта правёў пратаерэй Віктар Белякоў. У малітвах удзельнічаў хор праваслаўнага брацтва архістрціга Міхаіла. Хорам кіруе дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Алена Дзехціеўская.

Такое часта здараецца ў культмінацыйныя хвіліны гучання высокай музыкі: падчас харавых спеваў хмарнае неба на імгненне праяснілася — і промні сонца зазірнулі ў вокны музейнай залы, кранулўшы лёгкімі блікамі светлыя сцены, кінуўшы залацістыя іскры на металічную аздобу дзвярэй...

Ва ўжо асвечаных сценах адбыўся канцэрт харавой музыкі. Цудоўны калектыў, яркі саліст — Андрэй Кулінковіч, багаты рэпертуар, у якім прадстаўлены самыя розныя пласты праваслаўнай спеўнай культуры... Узнятая над будзёншчынай, душа нібы мкнула на покліч прасветленых, чыстых малады галасоў. (Дарэчы, пацвердзіліся акустычныя вартасці музейнай залы, нібыта ўявнчаный высокім храмавым купалам).

У той дзень місіянерская праца хору праваслаўнага брацтва архістрціга Міхаіла і кіраўніцы калектыву А. Дзехціеўскай была адзначана граматай, падпісанай мітрапалітам Філарэтам і ўручанай дырэктарам мінскага Міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў Ларысай Густовай.

А калекцыя рэліквій музычнай і тэатральнай культуры папоўнілася унікальным экспанатам: дырэктар Дзяржаўнага архіва-



музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка перадала сваім калегам віншавальны адрас легендарнай артысткі, спявачкі Ларысы Александроўскай ад вядомых беларускіх мастакоў. Расчытацьрасшыфраваць удалося пакуль толькі 25 подпісаў, пакінутых на старонках вялізнай адраснай папкі. Так што падарунак музею — гэта яшчэ і "цвёрды арэшак" для даследчыкаў. Жыццё ў новым доме па Музычным завулку пачынаецца прыгожа і змястоўна.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

*На здымках: падчас абраду*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Дажывём да любові

На мінулым тыдні ў Мінску адбыліся дзве прэм'еры дакументальных фільмаў. На жаль, у бліжэйшы час мы не ўбачым іх у нашым пракаце: у першым выпадку з-за асобы рэжысёра, у другім — з-за асобы героя стужкі.

Чацвёртага красавіка ў Беларускім саюзе кінематаграфістаў можна было паглядзець новую карціну Ю. Хашчавацкага "Дажывём да любові...". Пасля вострага фільма "Богі сярпа і молата", прысвечанага рускай праваслаўнай царкве, вядомы беларускі рэжысёр звярнуўся да лёсаў кінутых дзяцей. Фільм "Дажывём да любові...", які зроблены сумесна з кінавідэастудыяй "Таццяна", склалі маналогі непаўналетніх бяздомных, іх бацькоў, а таксама людзей, якія не пабаяліся дапамагчы кінутым дзецям (прынамсі, адна з таццян і аўтараў сцэнарыя стужкі Ірына Пісьменная некалі дала прытулак "сіраце"). Ю. Хашчавацкі даводзіць, што нашым дзецям не хапае ўсяго толькі любові, якая можа зрабіць іх шчаслівымі...

У нядзелю ў Музеі беларускага кіно вядомы беларускі мастак Алесь Пушкін разам з рэжысёрам Ірынай Волах прадставілі сумесную відэастужку "WWW. PUSHKIN. BY".

"Сам матэрыял здымаўся чатыры дні, акурат да выбараў прэзідэнта, а восьапрацоўваўся шмат месяцаў," — адзначыў аўтар сцэнарыя А. Пушкін. Рэжысёра-дакументаліста І. Волах зацікавіў у А. Пушкіне не барацьбіт, а мастак, мысліцель і філосаф (толькі напрыканцы стужкі на экране прамільгнуць фотаздымкі з нашумелага перформансу мастака ля Адміністрацыі прэзідэнта). "WWW. PUSHKIN. BY" — гэта фільм-партрэт. У стужцы, якая доўжыцца ўсяго дванаццаць з паловай хвілін А. Пушкін моўчкі (у фільме адсутнічаюць маналогі героя) прапаноўвае своеасаблівы рэцэпт жыцця — кожнаму рабіць сваю справу на адраджэнне Бацькаўшчыны. І гэтую думку ў фільме раскрываюць некалькі метафар: перформанс Пушкіна, які арэ зямлю, стасуецца з пажоўклымі фотаздымкамі родных, з роспісам абразоў у разбуранай царкве, што сімвалізуе нашу неўладкаваную краіну.

І. Волах цікавяць рукі мастака. Аператар С. Мялешкін сочыць за іх працай ці то падчас малявання, ці то падчас здабывання імі вады ў калодзежы. Стваральнікі карціны паэтызуюць, па-мастацку абыгрываюць (у фільм уведзены нават ігравыя моманты) будні мастака...

Стужка "WWW. PUSHKIN. BY" зроблена на сродкі фундатараў. (Дарэчы, у хуткім часе можна будзе наведаць такі сайт у Інтэрнэце.) Гэта дазволіла пастаноўшчыкам фільма зняць толькі тое, што яны хацелі, абмінуўшы цэнзуру, якая "пільнуе" беларускае дакументальнае кіно. І раздаць усім запрошаным відэакасеты са стужкай.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

УРАЖАННЕ

# Неба без алмазаў

Усе спектаклі рэжысёра А. Гарцуева літаральна аб адным — аб каханні. У спектаклі "Дзядзька Ваня" паводле А. Чэхава, пастаўленым пры дапамозе Беларускага фонду развіцця культуры сумесна з акцёрамі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, тэма кахання — адна з галоўных. Гарцуева не цікавіць самотнае, сумнае жыццё інтэлігенцыі, а драма людзей, якія вымушаны існаваць без кахання. Маладым купалаўскім акцёрам, для якіх гэты спектакль некалі быў дыпломным (А. Гарцуеў перанес яго на вялікую сцэну), удаецца данесці нюансы глыбокіх душэўных перажыванняў. І стварыць нетрадыцыйныя чэхаўскія вобразы Дзядзькі Вані (І. Патапаў), Астрава (А. Гладкі), Серабракова (А. Малчанаў)...

"Дзядзька Ваня" — дзіўны спектакль. Мо таму, што акцёры не супадаюць па ўзростах са сваімі персанажамі: яны маладзейшыя за іх. Але гэтая "дзіўнаватасць" надае спектаклю дадатковы сэнс. Як ніколі ўзрушвае маналог Астрава, які спадзяецца, што будучыя пакаленні знойдуць сродак, як быць шчаслівымі. Узрушае тым, што яго вымаўляе малады чалавек.



Праз сто, дзвесце гадоў ужо дваццацігадовыя людзі не паверыць, што ўбачаць неба ў алмазах...

**В.Б.**

*На здымку: сцэна са спектакля*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

АБСЯГІ

БРЭСТЧЫНА...

## Для прыбужскага памежжа

Крыху больш двух гадоў таму рэдакцыя абласной газеты "Народная трыбуна" і таварыства "Радзіма" выступілі з ініцыятывай распачаць збор кніг для бібліятэкі асяродка культуры і музея ў Гайнаўцы (Польшча). Першы адгукнуўся наш зямляк, пісьменнік Уладзімір Глушакоў, які перадаў з уласнай бібліятэкі для сваіх суайчыннікаў за мяжой некалькі дзесяткаў кніг беларускіх паэтаў і празаікаў з аўтографамі. Падтрымалі Глушакова літаратары з Брэста і Іванава — Антон Цвыд, Уладзімір Гетманчук, Васіль Жушма, Анатоль Крэйдзіч... А тым часам колішняя настаўніца Тамара Лаўранчук (яе дачка Наталля Герасімюк працуе ў бібліятэцы асяродка) з Высокага Камянецкага раёна прывезла ў рэдакцыю стос кніг нашых суайчыннікаў, якія жывуць у Польшчы, а пішуць на беларускай мове.

У "Народнай трыбуне" ў тэматычным выпуску "Натхненне" з'явілася новая рубрыка "Паэты прыбужскага памежжа". Падборкай вершаў берасцейцаў парадавала паэтка з Беластока Міра Лукша, зборнік прозы якой "Бабскія гісторыі" пабачыў свет у бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белая вежа".

**Мікола ПАНАСЮК**

БРЭСТЧЫНА...

## Мушкецёры спяваюць па-беларуску

Летась народны ансамбль "Мушкецёры", што дзейнічае пры клубе Брэсцкага панчошнага камбіната, адзначыў 30-годдзе. Увесь гэты час кіруе калектывам Анатоль Хвораст. На рахунку "Мушкецёраў" — 3 музычныя альбомы, розныя па сваім характары. Апошні "Па-над Белаю Руссю" складаецца з песень на словы паэтаў М. Пракаповіча, А. Каско, М. Рудкоўскага, Н. Мацяш, А. Дэбіша.

## Тэатральнае Палессе

У сакавіку пачаліся раённыя і гарадскія агляды-конкурсы абласнога фестывалю "Тэатральнае Палессе", якія прайшлі ў Кобрынскім, Пінскім, Столінскім, Камянецкім раёнах. У аглядах прымалі ўдзел лепшыя самадзейныя тэатральныя калектывы і калектывы мастацкага чытання.

Заключныя мерапрыемствы пройдуць восенню.

**Аксана КЛУНІНА**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Ён паспеў

Пасля заўчаснага сыходу з жыцця тэатральнага рэжысёра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Валерыя Маслюка засталася яго літаратурная спадчына. У Віцебску свет пабачыла кніга "Я успею, я все успею...", у якую ўвайшлі вершы Валерыя на рускай і беларускай мовах, тры п'есы, графічныя накіды. Выхаду кнігі паспрыялі сябры творцы. У музычнай гасцёўні на прэзентацыю выдання прыйшлі артысты, пісьменнікі, журналісты. Успаміналі, чыталі вершы.

## Завітала ў госці "Наддзвінне"

На мінулым тыдні ў Віцебскім літаратурным музеі гасцявала Полацкае літаратурнае аб'яднанне "Наддзвінне". Надзея Ярмак, Надзея Салодкая, Зміцер Куніцкі, Віктось Леаненя, Лера Сом чыталі вершы, гумарэскі, расказвалі пра сваё аб'яднанне, якому сёлета 75 гадоў. Віцебскі паэт-парадыст Міхась Міраповіч падрыхтаваў пародыі на полацкіх калег. Палачан шчыра віталі віцебскія літаратары Уладзімір Папковіч і Франц Сіўко. Госці пакінулі ў музеі свае кнігі, перадалі іх таксама для пераможцаў конкурсу юных паэтаў вобласці, які абвешчаны ў гонар 120-годдзя Купалы і Коласа.

## Паэт сярод дзяцей

Дацэнт кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржуніверсітэта і паэт Анатоль Канапелька заўсёды вельмі ахвотна адгукаецца на запрашэнні выступіць перад школьнай моладдзю. Асабліва шмат у яго творчых сустрэч у гэты коласаўска-купалаўскі юбілейны год. Пра творчасць песняроў расказваў Канапелька старшакласнікам школы № 20, навучэнцам Віцебскай гімназіі № 3, чытаў свае вершы; прысвечаныя Купалу і Коласу. Вельмі цёпла сустрэлі паэта і ў дзіцячым сацыяльным прытулку № 1, куды ён прынёс у падарунак кнігі з хатняй бібліятэкі. Узрушаны літаратар заўважыў: "Збіраўся на гадзінку, а правёў тут цэлы дзень..."

**Святлана ГУК**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## У добры шлях, "Золак"

У Палацы культуры Беларускай дзяржаўнай сельсагаспадарчай акадэміі адбыўся справаздачны канцэрт вакальнай студыі эстраднай песні, якая дзейнічае тут ужо 10 гадоў. У Горках калектыў ведаюць пад назвай "Золак", а кіруе ім С. Патупчык. Але ў калектыве не толькі студэнты — з поспехам выступаюць і навучэнцы мясцовых школ. Асобныя выканаўцы студыі былі ў свой час пераможцамі самых розных фестываляў і конкурсаў. Гэта Л. Цішаева, Н. Лутфуліна, С. Эсанаў...

**А. ПУГАЧ**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## У Навагрудку — эксперт ЮНЕСКА

У Навагрудку, старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, пабываў Лестэр Борлі — эксперт ЮНЕСКА. Госць вывучыў магчымасці і ўмовы для далейшага развіцця міжнароднага турызму ў рэгіёне, багатым на старажытную спадчыну. Лестэр Борлі сустрэўся са старшынёй мясцовага райвыканкама А. Лісам, пабываў у Доме-музеі Адама Міцкевіча, наведаў Барысаглебскую царкву.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

МІНШЧЫНА...

## Экалагічны фотаконкурс

Нядаўна ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі прайшоў гарадскі конкурс фатаграфій і фотаплаката "Захаваем нашу зямлю". Былі прадстаўлены 127 каляровых работ (у тым ліку і камп'ютэрныя) 46 аўтараў. Тэма кожнай працы — трывога за стан навакольнага асяроддзя. У конкурсе ўдзельнічалі фатографы самых розных узростаў. Дзевяць з іх былі названыя пераможцамі.

**Андрэй ШВЕЦ**

## *Бельгія і Беларусь — побач*

**У Доме дружбы і культурнай сувязі адбылася вечарына, прысвечаная дзесяцігоддзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Каралеўствам Бельгія і Рэспублікай Беларусь. На вечарыне выступіў першы сакратар пасольства Бельгіі Бруна Янс. Ён зазначыў, што сяброўства Бельгіі з Беларуссю — шчаслівая магчымасць для супрацоўніцтва ў палітычным і культурным накірунках.**

**Паколькі назвы нашых дзяржаў пачынаюцца з аднолькавых літар, то на ўсіх сусветных форумах прадстаўнікі Беларусі і Бельгіі заўжды размяшчаюцца побач. І гэта не адзінае цікавае супадзенне. Ва ўсёй Еўропе толькі ў Бельгіі і Беларусі падобныя нумары аўтамашын: чырвоныя лічбы на белым фоне. І яшчэ. Першую паразу Напалеон атрымаў на Беразіне, а апошнюю — пад Ватэрлоо, што бліз Брусэля. Колькасць жыхароў у нашых краінах таксама аднолькавая — 10 мільёнаў. Падабенства і ў тым, што Брусель — сталіца Еўрапейскага Саюза, а Мінск — СНД...**

**"Культура не мае межаў: ні музыку, ні літаратуру, ні мастацтва нельга ўціснуць у нейкія рамкі", — гаварыла на вечарыне паэтка Аліна Легастаева. Сваю думку яна пацвердзіла вершам "Хто мы, куды мы, навошта".**

**Любоў да Бельгіі выказаў доктар навук, прэзідэнт міжнароднай Асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. З яго слоў, да дня нараджэння караля Бельгіі павінны выйсці матэрыялы леташняга "круглага стала", прысвечаныя ўзаемакантактам дзвюх краін.**

**Хор Петрапаўлаўскага сабора выканаў лепшы твор Міколы Равенскага "Магутны Божа", а таксама дзве ягоныя песні — на словы М. Багдановіча і народную. Справа ў тым, што гэты незаслужана забыты кампазітар апошнія гады свайго жыцця правёў менавіта ў Бельгіі, дзе плённа працаваў над новымі творамі і аднаўляў старыя, што загінулі падчас вайны. Усяго М. Равенскі сабраў 270 народных песень і многія з іх апрацаваў. Артыстка Т. Мархель выканала дзве з іх.**

**Пра творчасць М. Равенскага расказвалі старшыня Беларуска-бельгійскага таварыства Т. Антановіч, доктар мастацтвазнаўства Р. Сяргеенка, вядучая вечарыны паэтка Г. Каржанеўская.**

**Студэнты з Бельгіі Патрык і Філіп завяршылі свята песняй пад гітару.**

**Алена ГАЛУЗА**

## *...Прыселі, каб зноў сустрэцца!*

**Гэта стала ўжо добрай традыцыяй: пісьменнікі трох суседніх абласцей — Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай — кожны год збіраюцца ў адным з абласных цэнтраў на свята "Над Дняпром, Дзяснòй і Сожам". Сёлета гонар правесці гэтае літаратурнае мерапрыемства выпаў нашай вобласці. І хоць эканамічная сітуацыя цяпер не самая лепшая — свята адбылося. Пісьменнікі сустрэліся з кіраўніцтвам вобласці, а потым адбыўся вялікі літаратурны вечар у ГДУ імя Ф. Скарыны, які вёў доктар філалагічных навук, прафесар Іван Штэйнер. Студэнты мелі шчаслівую магчымасць паслухаць вершы і аповеды пра творчасць на трох мовах — беларускай, рускай і ўкраінскай, даведацца пра стан сучаснай літаратуры ў памежных краінах. Прыемна нагадаць, што раней гасцямі студэнтаў былі бранскія пісьменнікі Мікалай Пасноў, Марына Юніцкая, Валянцін Дзінабургскі, Уладзімір Селязнёў, Сцяпан Кузькін, Клава Асеева, чарнігаўцы Станіслаў Рэп'ях, Пятро Куцэнка, Мікола Малы, Аляксандр Алійнік, Васіль Будзённы, Таіса Шапаваленка, Васіль Шчарбанос, а таксама мінчане Алесь Петрашкевіч, Алесь Махнач, Яўген Каршукоў, Уладзімір Паўлаў, Алесь Пісьмянкоў, Анатоль Зэкаў, Віктар Супрунчук, Павел Місько і іншыя. Сёлета да нас на свята прыехалі вядомыя майстры слова. Гэта чарнігаўцы Васіль Будзённы і Сяргей Канаваленка, нашы мясцовыя літаратары Соф'я Шах, Ізяслаў Катляроў, Ніна Шклярава, Таіса Мельчанка, Ларыса Раманава, Тамара Кручэнка, Фелікс Мысліцкі, Генадзь Говар, Эма Усціновіч, Ганна Атрошчанка і Міхась Сліва.**

**Пісьменнікі пабывалі ў вёсцы Глінішчы Хойніцкага раёна, дзе пазнаёміліся з музеем народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, сустрэліся з яго землякамі, з кіраўніцтвам раёна. Наведалі і вёску Старыя Журавічы, што ў Рагачоўскім раёне, дзе ў мясцовай сярэдняй школе створаны цудоўны музей слыннага драматурга-земляка, народнага пісьменніка Андрэя Макаёнка.**

**Госці пабывалі і на абласным тэлебачанні, дзе прынялі ўдзел у запісе перадачы "На прызбе з Васілём", што, нагадзіцеся, пашырыла межы свята "Над Дняпром, Дзяснòй і Сожам" — яго ўдзельнікамі змогуць стаць усе прыхільнікі літаратуры нашай вобласці. Наведалі ўдзельнікі свята і галерэю мастака Гаўрыіла Вашчанкі, пазнаёміліся з палаца-паркавым ансамблем абласнога цэнтра.**

**Васіль ТКАЧОЎ**

НАДЗЁННАЕ

# Курапаты: вечнасць ці забыццё?

***У бліжэйшыя два гады на месцы масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян органамі НКУС можа ўзнікнуць мемарыял, пра неабходнасць узвядзення якога ідзе размова яшчэ з канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Некаторыя СМІ ўжо паспяшаліся паведаміць, што яшчэ крыху і актывісты працэсу мемарыялізацыі знойдуць кампраміснае рашэнне, а дзяржава дапаможа ў яго рэалізацыі. Аднак падзеі апошніх некалькіх месяцаў сведчаць пра тое, што доўгачаканае з'яўленне мемарыяла можа стацца апошнім ударам па своеасаблівым сімвале пакутніцкага лёсу беларусаў, а памяць пра рэпрэсіі схаваюць пад халодны абыякавы мармур.***

### З ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

Курапаты былі "адкрыты" ў канцы 80-х цяпер ужо мінулага стагоддзя гісторыкамі і археолагамі Зянонам Пазняком і Яўгенам Шмыгалёвым. Пасля публікацыі іх артыкула ў "Ліме" ў Беларусі (упершыню на тэрыторыі СССР) было распачата следства па факце масавых рэпрэсій савецкай улады супраць народа. Пасля таго як адкрылася праўда пра злачынствы сталінскага рэжыму, з'явілася і магчымасць ушанаваць памяць яго ахвяр. З таго часу тысячы людзей прыходзілі ў Курапаты да Крыжа пакуты як да помніка ўсім пацярпелым ад бальшавікоў. Як паказалі шматлікія даследаванні, у агульных магілах ляжаць не толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых народаў: палякі, літоўцы, украінцы, рускія, яўрэі, латышы. Яшчэ ў 1989-ым Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову аб пабудове мемарыяла ў курапацкім лесе пасля правядзення рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект помніка. Конкурс быў абвешчаны ў 1993-ім годзе, але да лагічнага канца — вызначэння найлепшага праекта і пабудовы мемарыяла — справа даведзена не была.

Між тым увесь гэты час група гісторыкаў спрабуе даказаць, што ў Курапатах знаходзяцца парэшткі ахвяр фашысцкага генацыду. Іх не пераканаў той факт, што з пачатку першага следства тэма Курапатаў "узнікала" шэсць разоў. Было тры следствы. У 1988 — 1989 гадах — пад кіраўніцтвам старшага следчага па асабліва важных справах Бройліша. У 1995 годзе ўжо працаваў старшы следчы па асабліва важных справах пракуратуры Камароўскі. Апошняе следства у 1997—1999 гадах праводзіла Ваенная пракуратура пад кіраўніцтвам старшага памочніка пракурора Сомава. І гэта не ўлічваючы нават таго, што ў 1991 годзе сюды прыязджала камісія пракуратуры СССР. Вярхоўны Савет неаднаразова вяртаўся да гэтай праблемы. Плюс шэраг прыватных ініцыятыў. Высновы ўсіх разбіральніцтваў былі адназначныя: ва ўрочышчы у другой палове трыццатых гадоў праводзіліся расстрэлы савецкіх грамадзян органамі НКУС.

Тым не менш ёсць і прыхільнікі "нямецкага следу".Так, у траўні 1995 года БТ двойчы дэманструе стужку "Нянавісць. Дзеці хлусні", у сакавіку 2001 зноў-такі двойчы паказаны фільм "Курапаты. Эксгумацыя нянавісці". Адпаведныя публікацыі з'яўляюцца ў газетах. Мэта — абяліць Сталіна і "зваліць" усю віну на фашыстаў.

### У ПЕРШЫХ ШЭРАГАХ

Апошні "выбух" увагі грамадства да праблемы Курапат звязаны з пытаннем пабудовы новай мінскай кальцавой дарогі. Не маючы магчымасці спыніць будаўнікоў, прадстаўнікі грамадства ўздымаюць перад уладай пытанне мемарыялізацыі памятнага для беларусаў месца. 29 верасня 2001 года абвешчана пра стварэнне грамадскай ініцыятывы "За выратаванне мемарыяла Курапаты" (падпісалася больш за 30 арганізацый, прадстаўнікі інтэлігенцыі). Супольнымі дзеяннямі яны дамагліся спынення **стыхійнага** пашырэння дарогі і прымусілі спачатку распрацаваць канчатковыя будаўнічыя і архітэктурныя планы гэтага участка. Пасля хвалі зваротаў Ваенная пракуратура нарэшце рассакрэціла вынікі нядаўняга следства. 19 лютага падпісанты прадставілі для ўсенароднага абмеркавання ўласную канцэпцыю мемарыяла. Яе асноўная ідэя — "мемарыял павінен стаць помнікам у памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, павінен засведчыць асуджэнне палітыкі генацыду таталітарнага савецкага рэжыму".

Паралельна гэтай канцэпцыі была падрыхтавана альтэрнатыўная канцэпцыя грамадскай ініцыятывы "Беларускі камітэт міру". У адрозненне ад чальцоў ГІ "За выратаванне мемарыяла Курапаты", "камітэтчыкі" не сталі выносіць свой праект на суд беларусаў, а адразу пераслалі яго на разгляд у дзяржструктуры (ППНС, Саўмін). На жаль, пра БКМ шырокай грамадскасці амаль нічога не было чуваць у той момант, калі маладыя людзі ўставалі на шляху бульдазерыстаў. Як не выклікала гучнага рэзанансу яго дзейнасць і ў ранейшыя часы. І гэта дзіўна, бо існуе БКМ ажно з 1951 года і ў розныя часы яго узначальвалі такія паважаныя людзі, як Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Пімен Панчанка, Іван Шамякін. Да перабудовы арганізацыя займалася абаронай правоў чалавека дзе заўгодна толькі не ў СССР. Што ж датычыць апошняга часу, то тут вылучаюцца зварот БКМ да сусветнай супольнасці аб дапамозе насельніцтву Беларусі, пацярпеламу ад Чарнобыля, арганізацыя кантактаў школьнікаў Беларусі і ЗША, заява адносна путча —91 у Маскве, сустрэча генералаў НАТА, заклік спыніць вайну ў Чачні, заява ў сувязі з рэзкім абвастрэннем палітычнага крызісу ў Беларусі (1996). Не трэба лішні раз казаць, што нікому шкоды такая дзейнасць не прыносіць, але і карысць ад яе абмяжоўваецца ў лепшым выпадку матэрыяльнай дапамогай "чарнобыльцам".

Цяпер вось БКМ настойвае на ўзвядзенні ў Курапатах "Мемарыяла пралітай крыві" як "сімвала гістарычнай справядлівасці і памяці, знака пакаяння і прымірэння".

На жаль, ніводзін са згаданых праектаў не быў апублікаваны ў прэсе. Мы лічым, што канцэпцыі вартыя таго, таму прыводзім іх ніжэй амаль цалкам. Учытайцеся ўважліва!

### КАНЦЭПЦЫІ

ГІ «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» і «Моладзь у абарону Курапатаў» лічаць, што дзеля нацыянальнага некропаля мэтазгодна:

1. Належным чынам забяспечыць ахоўны статус урочышча як «гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі».

2. Пазначыць тэрыторыю ахоўваемай зоны. Паводле беларускіх традыцый ушанавання і аздаблення могілнікаў, па ўсім перыметры акрэсленай тэрыторыі ўстанавіць агароджу з каменя, цэглы, кавaнага металу, а таксама ўзвесці ўваходную браму (брамы). Каля брамаў размясціць карту-схему тэрыторыі з вызначанымі археолагамі абрысамі месцаў пахаванняў.

3. Пакінуць устаноўлены у 1989 годзе Крыж пакуты дамінантай будучага мемарыяла. Упарадкаваць тэрыторыю вакол, спраектаваць падыходы, паставіць лавы. Пакінуць крыжы, пастаўленыя па перыметры лясного масіву падчас акцыяў абароны у 2001 — 2002 гадах.

4. Захаваць эмацыйны акцэнт, які надае Курапатам прасека, што вядзе да ўзгорка. Вобраз шляху пакуты (Галгофы) могуць дапаўняць іншыя помнікі і памятныя знакі.

5. Узвесці на месцы закладнога камня ад Саўміна БССР помнік ці кампазіцыі, якія былі б адпаведныя і сумаштабныя тэрыторыі магільнікаў.

6. Храмы розных канфесій і музей таталітарнага рэжыму, які будзе створаны ў перспектыве, вынесці за межы ахоўнай зоны, каб выключыць любую магчымасць правядзення земляных работ на тэрыторыі некропаля.

7. Некранутымі пакінуць ямы - магілы. За імі установіць санітарны нагляд, а таксама за ўстаноўкай новых крыжоў і іншых памятных знакаў.

Што ж уяўляе з сябе праект «Беларускага камітэта міру»? «Мемарыял пралітай крыві» павінен распачацца з пабудовы «аднаго з галоўных элементаў» у выглядзе вялізнай «Падковы», якая ў народзе «сімвалізуе ўдачу, дабрабыт, прымірэнне». «Падкова», канцы якой глядзяць на аўтадарогу, усталёўваецца на вышыні 50 — 70 см ад зямлі і грунтуецца на камянях-валунах. Унутры «падковы» ўсталёўваецца 25-ці метровы крыж, склеены з усіх парод дрэў Беларусі, альбо тры "раўназначныя сімвалы асноўных рэлігійных канфесій. Уся ўнутраная плошча выкладваецца чырвонай тратуарнай пліткай. Вызначаецца месца для ўскладання вянкоў і кветак, правядзення ўсялякіх рытуальных і «грамадска-рэлігійных мерапрыемстваў». Унутраная частка каркаса ўлетку засыпаецца раслінным грунтам па вызначанай кампазіцыі. Сіметрычна па ўсёй «падкове» ўсталёўваецца шэсць памятных знакаў, у якіх будзе захоўвацца зямля, прывезеная з падобных месцаў пахаванняў на Беларусі. Па перыметры вонкавага боку «падковы» «ўздымаецца» «Сцяна памяці» з матэрыялу, зручнага для напісання прозвішчаў загінуўшых. На самым версе «Сцяны» маецца надпіс: «Такое не павінна паўтарыцца. Людзі, прабачце нас жывых, вечная памяць і спакой забітым». На некаторай адлегласці ад «падковы» будуецца капліца...

### ПЕРШАЕ АБМЕРКАВАННЕ

Яно нядаўна адбылося ў Літаратурным музеі Янкі Купалы пры пасрэдніцтве Беларускай асацыяцыі журналістаў. У канферэнц-зале прысутнічалі кіраўнікі згаданых ГІ, творчых Саюзаў, журналісты дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсы. Звяртае на сябе ўвагу, што прапанаваны прэзідыумам БКМ праект выклікаў пратэст нават чальцоў гэтага аб'яднання. Так Сяргей Законнікаў, паэт і рэдактар часопіса "Полымя", заявіў, што выступае супраць "Мемарыяла пралітай крыві", паколькі "гэта павінен быць помнік на вякі, а не для сённяшніх ці заўтрашніх улад. Курапаты — месца сталінскіх рэпрэсій, і гэта павінна выразна прагучаць". Абурэнне выклікала і тлумачэнне БКМ аб прымірэнні і пакаянні. Так Янка Брыль зазначыў, што "ў Трасцянцы ці Хатыні пытанне пра неабходнасць пакаяння не ўздымалася. Дык чаму мы яго ставім зараз?" Па словах мастака Алеся Марачкіна і археолага Міколы Крывальцэвіча, прадстаўнікі БКМ толькі на словах за актыўны ўдзел грамадскасці ў вырашэнні праблемы Курапат. Насамрэч жа яны не толькі даслалі праект на разгляд тых, хто ўжо вырашаў, як будаваць дарогу, што рабіць з абаронцамі некропаля, але і зрабілі гэта аднаасобным "валявым" рашэннем.

Старшыня БКМ Іван Кірычэнка спрабаваў патлумачыць, што гэта не канчатковы праект, што не мае нічога супраць канцэпцыі ГІ «За выратаванне мемарыяла Курапаты» і ўвогуле «за аб'яднанне чырвонай стужкі". На гэта ён атрымаў канкрэтную прапанову аднаго з выступоўцаў. "Калі вы не супраць нашага праекта, дык далучайцеся да нас, адклікайце сваю канцэпцыю, разам выпрацуем агульную, а вы пралабіруеце яе ва ўладных структурах, да якіх маеце доступ". Пагадзіўшыся збірацца разам з "альтэрнатыўшчыкамі", спадар Кірычэнка тым не менш адмовіўся адклікаць ужо існуючы праект.

### МЕМАРЫЯЛ БЕЗ ПАМЯЦІ?

Пра магчымасць з'яўлення бліжэйшым часам мемарыяла ў Курапатах загаварылі пасля выступлення Прэзідэнта краіны ў парламенце. Ён выказаўся ў тым сэнсе, што парэшткі ахвяраў трэба па-хрысціянску пахаваць і паставіць палеглым помнік. Па словах каардынатара ГІ "За выратаванне мемарыяла Курапаты" Ірыны Жыхар, у канцы мінулага года ў Камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ёй давялося пабачыць цікавы ліст, адпраўлены з другой высокай дзяржаўнай установы. Камітэту было загадана даць адказ на зварот старшыні Мінскай гарадской арганізацыі ахвяр палітычных рэпрэсій спадара Лапіцкага. Апошні надзіва "своечасова" выступіў з ініцыятывай стварэння ў Курапатах мемарыяла і быў падтрыманы ў высокіх кабінетах. Там сярод іншага прапаноўвалася знесці ўсе крыжы. Маўляў, ахвяры былі атэістамі і ніякіх крыжоў ім не трэба.

Аднак, як вядома, зараз у модзе рэлігійнасць. Таму, відаць, замест прапановы Лапіцкага з'явіўся БКМ са сваёй "Падковай". Магчыма, мы памыляемся, калі ставім гэтыя падзеі ў адзін шэраг. Тым не менш даводзіцца канстатаваць, што прапанаваны "Мемарыял пралітай крыві" — ахвярам увогуле. Апроч таго, да болю нагадвае мемарыялы савецкіх часоў. Як сказаў Васіль Шафанговіч: "Другая прапанова бліжэй да сутнасці. Тут не патрэбна ніякая савецкая манументальнасць. Толькі магілкі, агароджа, брама, крыжы".

**Вадзім ДОЎНАР**

# У нас багата агульнага

***Шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да 10-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь, завяршыўся ў Мінску. Прайшла дэкада кітайскіх фільмаў, дзе беларускія гледачы змаглі пазнаёміцца з творамі славутых майстроў кітайскага кіно, у тым ліку сусветнавядомага рэжысера Чжана Імоу, фільмамі для дзяцей, а таксама дакументальнымі фільмамі, прысвечанымі гісторыі, культуры, сённяшняму дню Кітая. Адбыліся сустрэчы навукоўцаў, прысвечаныя праблемам супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі, выставы. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі спадарыня У СЯОЦЮ, якая багата зрабіла для развіцця двухбаковых адносін, згадзілася адказаць на некаторыя пытанні нашага карэспандэнта Марыі РУДОВІЧ.***



**— Спадарыня У Сяоцю, кітайскія жанчыны абаяльныя і прыгожыя. Мабыць, яны валодаюць нейкімі старажытнымі сакрэтамі прыгажосці?**

— Безумоўна, ёсць прыгожыя, ёсць і не надта. Мы зараз разумеем прыгажосць комплексна. Здараецца, жанчына мае не асабліва прывабную знешнасць, але валодае цудоўнымі душэўнымі якасцямі, і тады яна — прыгажуня. Што ж да сакрэтаў, дык, думаю, кожная жанчына мае свой сакрэт. У нас харчаванне, відаць, больш рацыянальнае, чым еўрапейскае, дзе забагата тлушчаў, цукру, мяса. Мы спажываем больш садавіны і гародніны, уплывае адпаведны клімат, ды і кітайская медыцына, у прыватнасці зялёны чай, усяляк дапамагае захоўваць здароўе і фігуру.

**— Відаць, пэўную ролю адыгрывае і жыццёвая канцэпцыя, жыццёвая пазіцыя. Якія сёння існуюць філасофскія плыні і школы?**

— Кітай — сацыялістычная дзяржава, кіруючая партыя ў нас — камуністычная, і, я думаю, вядучая школа філасофіі ўсё ж такі марксізм-ленінізм, ідэі Мао Цзэдуна і яго прадаўжальнікаў. Разам з тым існуюць канфуцыянства, даоізм. Варта адзначыць, што ўсе філасофскія школы ў пэўнай ступені звязаны з рэлігіяй і адпаведным веравызнаннем. Будызм, напрыклад, традыцыі якога ў Кітаі маюць трохтысячагадовую гісторыю, самы папулярны, хоць колькасць вернікаў досыць абмежаваная. Ёсць таксама мусульманства — гэта некалькі дзесяткаў мільёнаў вернікаў, — хрысціянства: каталіцызм і на паўночным усходзе, на мяжы з Расіяй, невялікая колькасць праваслаўных. Якая з гэтых філасофій займае асноўнае месца, цяжка вызначыць, але, калі меркаваць па колькасці насельніцтва, 90-95% якога складаюць ханьцы, дык людзі ў асноўным схіляюцца да будызму і канфуцыянства. Наша канстытуцыя не забараняе прытрымлівацца той ці іншай філасофіі.

**— Зусім нядаўна пабачыла свет кніга М.Шыманскага "Дзень добры, Кітай". Якія перспектывы далейшага супрацоўніцтва? Ці жыве сёння ў Кітаі цікавасць да беларускай літаратуры?**

— Акрамя ўзгаданай кнігі, мы разам са спадаром Я.Росцікавым выпусцілі кнігу "Кітай ад Канфуцыя да Дэна", дзе сабраныя артыкулы карэспандэнтаў, што былі ў Кітаі і асабіста маглі пазнаёміцца з жыццём нашай краіны. У апошнія тры-чатыры гады пасольства шчыльна супрацоўнічала з часопісам "Всемирная литература", які да нашага нацыянальнага свята двойчы выпускаў асобныя нумары: напрыклад, летась пабачылі свет творы старажытнай літаратуры, у тым ліку нізкі вершаў Ду Фу і Лі Бо, празаічныя творы; летась былі прадстаўлены вершы і проза, урыўкі з раманаў сучасных аўтараў. Я думаю, гэта праца будзе працягвацца, і сёлета на старонках часопіса мы таксама зможам пазнаёміць чытача з творчасцю вядомых паэтаў і празаікаў. У Кітаі ж такая праца па-сапраўднаму яшчэ не распачалася, бо ў нас вельмі мала людзей, якія ведаюць беларускую мову, а варты мастацкі пераклад — справа складаная. Я думаю, што з цягам часу з'явяцца перакладчыкі, здатныя добра перакласці мастацкія творы.

**— Калісьці ў Харбіне пачынаўся творчы шлях знакамітага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Ці захоўваецца памяць пра дзейнасць беларускай культуры, што жылі ў свой час у Кітаі, ці гэта засталося толькі гістарычным фактам?**

— На паўночным усходзе нашай краіны, у Харбіне і Шанхаі адчуваецца вялікі ўплыў славян. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яны трапілі да нас. Гэта былі людзі вельмі адукаваныя, добра разбіраліся ў музыцы, жывапісе, сярод іх былі вядомыя музыканты, мастакі. Яны пакінулі глыбокі след у нашай культуры. Думаю, што і дагэтуль там працуюць іхнія вучні і вучні вучняў. З цягам часу, відаць, будзе магчымасць даследаваць гэтую праблему больш падрабязна.

**— Кітай — краіна цудоўных помнікаў старажытнасці. Ці захоўваецца цікавасць да наведвання музеяў, гістарычных месцаў?**

— Захоўваецца ды яшчэ якая! Людзі сталі жыць лепей, у іх з'явіліся грошы, якія яны могуць выдаткаваць на наведванне маляўнічых мясцін, цікавых і змястоўных экскурсій, славутых помнікаў. Бурна развіваецца турызм: у параўнанні з папярэднімі гадамі сёлета нават за мяжу ў некалькі разоў павялічыўся паток турыстаў. Наша гісторыя налічвае 5 тысяч гадоў, некаторым помнікам па 3 тысячы гадоў і больш, некаторыя ператварыліся ў руіны. Але зараз імкліва развіваецца рэстаўрацыя і вартыя ўвагі помнікі аднаўляюцца і адраджаюцца.

**— Ці карыстаюцца попытам вырабы народных майстроў, цудоўныя народныя рамёствы, якімі заўсёды быў славуты Кітай?**

— Народныя рамёствы хутка аднаўляюцца і развіваюцца разам з развіццём турызму. Сёе-тое, праўда, ужо робіцца не ўручную, а на машынах: напрыклад, выраб фарфору можна ў нейкай ступені механізаваць. Аднак перагародчатыя эмалі, інкрустацыя, двухбаковая вышыўка паранейшаму робіцца ўручную. Вельмі цікавая разьба па лаку: на нейкую аснову, напрыклад, на металічны каркас, наносіцца 60 ці 80 слаёў чырвонага лаку, тады яго крышку падсушваюць, а пасля майстра выразвае разнастайныя ўзоры. Атрымліваецца вельмі арыгінальна. Сяляне, што жывуць блізка ад вартых увагі гістарычных мясцін, робяць прыгожыя і танныя маленькія сувеніры, якія прывабліваюць турыстаў, а жыхары праз гэта маюць дадатковы прыбытак.

**— Адзін з кітайскіх пісьменнікаў атрымаў Нобелеўскую прэмію. Ці можна пра яго расказаць больш падрабязна?**

— Я мушу сказаць, што ў Кітаі гэтага чалавека ніхто не ведае. Ніхто не ведае, калі ён з'ехаў у Парыж і што ён напісаў. Прысуджэнне яму агульнавядомай, сусветнага значэння прэміі — гэта, я б сказала, у нейкай ступені знявага кітайскага народа. Увогуле, калі прысуджаецца Нобелеўская прэмія ў галіне гуманітарных навук, тут, я думаю, вялікую ролю адыгрывае палітыка.

**— Як сёння развіваецца кітайскі кінематограф?**

— Я думаю, што ў апошнія 5—7 гадоў кінематаграфія ў Кітаі развіваецца належным чынам. У першыя гады пасля рэформаў было мала айчынных фільмаў, дэманстраваліся, асабліва па тэлебачанні, розныя замежныя баевікі і трылеры, што было шкодна для дзяцей. Зараз у нас з'явіліся свае серыялы, добрыя фільмы, якія часта атрымліваюць прызы і прэміі на сусветных фестывалях, напрыклад, у Канах. Гэтыя нацыянальныя па змесце фільмы — пра нашу гісторыю, наша жыццё, пра набалелыя праблемы, клопаты, перажыванні ў гэткі складаны час, пра простых людзей — сялян, настаўнікаў. Лейтматыў — чысціня, вернасць, каханне, прыгажосць чалавечых адносін, вера ў тое, што дабро заўсёды пераможа зло. Экранізуецца таксама багата класікі. Тэхніка ж стварэння фільмаў самая сучасная.

**— Відаць, у Кітаі багата маладых талентаў. Як пачаткоўцы дэбютуюць у мастацтве? Ці аказвае ім падтрымку дзяржава?**

— На кінематаграфію, напрыклад, з бюджэту выдаткоўваецца нейкая колькасць сродкаў, але зараз па большай частцы гэтым займаюцца фірмы: самі рэжысёры знаходзяць спонсараў, прадзюсераў і нават артысты выступаюць як прыватныя асобы. Некаторыя прадзюсеры ў свой час былі вядомымі артыстамі, пазней працавалі за мяжой. Багата фільмаў ствараюць кітайцы, якія жывуць у розных краінах свету: сумесная праца рэжысёраў, артыстаў, прадзюсераў з Ганконга, Тайваня, ЗША — кітайцаў па паходжанні — заўсёды мае добрыя вынікі. Да прыкладу, летась фільм "Тыгр, што крадзецца і нябачны дракон" атрымаў прэмію Оскара па некалькіх намінацыях: рэжысёр з Тайваня, выканаўца галоўнай жаночай ролі — з кантынентальнай часткі краіны, кампазітар таксама з кантынентальнай часткі, выканаўца галоўнай мужчынскай ролі — з Ганконга, зараз працуе ў Галівудзе, агульнымі намаганнямі стварылі добры нацыянальны фільм.

**— Як у Кітаі развіваецца садовапаркавае мастацтва?**

— Некалькі гадоў таму ў нас адбыўся сусветны кірмаш садоўніцтва, дзе дэманстраваліся расліны з усяго свету, у тым ліку расійскія і беларускія. Гэты кірмаш вельмі станоўча паўплываў на развіццё садоўніцтва ўвогуле па ўсёй краіне. Зараз амаль у кожным буйным горадзе ёсць свой арыгінальны сад, адна частка якога зроблена выключна на кітайскі лад, а другая ўяўляе сабой узор сусветнага садоўніцкага мастацтва, дзе ў мініяцюры прысутнічаюць, напрыклад, Парыж, Масква, іншыя сталіцы і рэгіёны. Людзі вельмі любяць наведваць такія месцы.

**— Чым вас здзіўляе, прывабліівае, уражвае Беларусь?**

— Першае ўражанне: Беларусь — вельмі прыгожая краіна. Надзвычай прыгожая прырода, асабліва ўлетку, багата лясоў, зеляніны, прыгожая і чыстая сталіца, людзі добра апрануты. Здзіўляе, што хоць эканоміка ў вас не ў дужа спрыяльным стане, знешне гэта не відно. Мне вельмі імпануе ваш народ, цярплівы, дружалюбны, лагодны, які заўсёды ахвотна дапамагае: калі, напрыклад, пра тое ці іншае распытваеш на вуліцы, людзі вельмі падрабязна тлумачаць і нават намагаюцца правесці самым кароткім шляхам, паказаць патрэбную вуліцу. У вашага народа багата агульных якасцей з нашым народам.

ІМПРЭЗЫ

# Святы ў доме Янкі Купалы

Юбілейны год у Купалавым доме пазначаны шматлікімі сустрэчамі і мерапрыемствамі. У сярэдзіне сакавіка адбыліся тры з іх.

Першай была літаратурная сустрэча. У госці да музейшчыкаў і выхавацеляў дзіцячых садкоў горада Мінска быў запрошаны лаўрэат прэміі імя Янкі Купалы, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Яго кніга "Шчаслівыя хвіліны", што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва" напрыканцы мінулага года, сабрала аматараў паэтычнага слова, і тых хто нясе гэтае слова будучыні нашага народа — дзецям.

З замілаваннем слухалі ўдзельнікі сустрэчы і сам паэт юных артыстаў, выхаванцаў дзіцячага садка № 195, якія чыталі вершы з кнігі "Шчаслівыя хвіліны", загадвалі з яе загадкі, спявалі. А затым гучала слова Ніла Сымонавіча. Ён чытаў вершы розных гадоў, урыўкі з рамана ў вершах "Родныя дзеці", разважаў пра былое і будучае.

Наступнае мерапрыемства ў доме паэта мела крыху іншы накірунак. Вечарына "Ішла доля беларуса з доляй ўкраінца...", што адбылася 19 сакавіка, аб'яднала прадстаўнікоў двух братніх народаў. Назвай вечарыны сталі словы Янкі Купалы з паэмы "Тарасова доля", якую паэт напісаў у 1939 годзе да 125-годдзя з дня нараджэння Т.Шаўчэнкі. Менавіта яны, Янка Купала і Тарас Шаўчэнка сталі цэнтрам увагі сустрэчы, што была арганізавана музеем Янкі Купалы і Пасольствам Украіны ў Беларусі. Да гэтага мерапрыемства на аснове фондаў музея створана выстаўка, на якой прадстаўлены дакументы, фотаздымкі, кнігі з аўтографамі ўкраінскіх пісьменнікаў, сувеніры, што лучаць Янку Купалу з Украінай, а таксама матэрыялы, якія расказваюць аб сяброўстве і супрацоўніцтве калектыву музея з украінскімі калегамі і пісьменнікамі. Адно з цэнтральных месцаў на выстаўцы займае "Кабзар" Т. Шаўчэнкі. Ад самага ранняга, выдадзенага ў 1840 годзе ў Санкт-Пецярбургу да аднаго з самых апошніх. Асабліваю каштоўнасць мае выданне 1939 года, перакладчыкамі і рэдактарамі якога былі Купала і Колас. Дарэчы, апошнія выданні "Кабзара" і некаторыя ранейшыя музею перадалі на выстаўцы прадстаўнікі Пасольства Украіны і ўкраінская дыяспара.

Госці, што завіталі ў гэты дзень ў Купалаў дом, а гэта Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь - Анатоль Дронь; намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь - Валерый Гедройц; дырэктар Нацыянальнага музея Т.Шаўчэнкі - Сяргей Гальчанка; прафесар, доктар філалагічных навук, прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы — Вячаслаў Рагойша; літаратуразнавец, лаўрэат міжнароднай прэміі імя Івана Франко Таццяна Кабржыцкая; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, адзін са старэйшых паэтаў Беларусі — Мікола Аўрамчык; паэт-перакладчык Валерый Стралко; супрацоўнікі пасольства, прадстаўнікі дыяспары, музейшчыкі- усе былі паяднаны агульнай думкай, што ідзі, мары і памкненні слаўных сыноў Украіны і Беларусі жывуць у сэрцах, і ёсць надзея, што стануць яны рэальнасцю.

Кульмінацыйным момантам вечарыны стала падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы і Нацыянальным музеем Тараса Шаўчэнкі. Дырэктары музеяў Жанна Дапкюнас і Сяргей Гальчанка зацвердзілі дамову подпісамі і абмяняліся падарункамі. Першыя два тамы (а іх будзе 12) апошняга выдання Збору твораў Т.Шаўчэнкі атрымалі ў падарунак купалаўцы, а украінскім калегам з дарчым надпісам аб памятнай падзеі перададзены "Энцыклапедычны даведнік. Янка Купала" і наборы афортаў да паэм "Бандароўна" і "Курган" з аўтографамі мастакоў.

Пасол Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь выказаў словы ўдзячнасці і спадзявання на плённае супрацоўніцтва, ён жа пакінуў і запіс у "Кнізе ганаровых гасцей музея".

Беларуская музыка, украінская песня, слова Купалы і слова Шаўчэнкі гучала ў гэты вечар.

Трэцім і заключным сакавіцкім мерапрыемствам ў доме Купалы быў працяг распачатага ў лютым цыкла канцэртаў камерных калектываў заслужанага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М.Фінберга.

Такія вось розныя, але падобныя сваёй шчырасцю, сардэчнасцю і цеплынёй, аб'ядналыя адным імем —Янка Купала прайшлі ў музеі песняра сустрэчы. Няхай жа доўжацца гэтыя традыцыі, і як некалі ў далёкія 20-я поўніцца дом паэта песняй, музыкай і словам.

**Л. МАКАРЭВІЧ**

падкрэсліць выключныя здольнасці і мудрасць таго ж Альгерда. “Такая слава аб ім ідзе недарэмна, кажуць, што і пад зямлёй бачыць ён, хаця, вядома, не можа параўнацца з вешчуном Усяславам Чарадзеем, колішнім уладаром гэтай зямлі”.

Не толькі важную структурную, але і істотную характаравызначальную ролю адыгрывае ў рамане першы раздзел, у якім чытач упершыню сустракаецца з маладым княжычам і атрымлівае магчымасць назіраць за нараджэннем у яго душы таго дзіўнага і непаўторнага пачуцця, калі “жыццё было ўсё як напоенае мёдам, і ніколі, ніколі ён не быў шчаслівейшы...” Нават самыя бліскучыя перамогі Альгерда ў будучым (размова ідзе найперш пра бітву з Залатой Ардой ля ракі Сінюхі, безабароннасць Масквы перад прыхіленай да яе сцен у 1370 г. славутай дзідай князя) не маглі параўнацца з перажытым ім у юнацтве, не выцеснілі з яго памяці ззянне незвычайных, як у Жывены і Гайны, фіялкавых вачэй, гнуткую і лёгкую постаць Лозкі, увесь незабыўны і захаваны сэрцам свет маладосці.

Значнасць сустрэчы героя з унучкай жрыцы храма Ашвінаў (роднасныя стасункі між імі, думаецца, у канчатковым кніжным варыянце рамана будуць вытлумачаны пісьменніцай больш пэўна, акрэслена) перадаецца праз адметную стылёвую выразнасць тэксту, яго хвалюючы лірычны інтанацыйна-меладычны малюнак, напружаную дынамічнасць дзеяння і адпаведнае прыроднае апісанне. Той буйны разгул навальніцы, што папярэднічае знаёмству Альгерда і Лозкі, шалёнства ветру і ліўня, уся каламуць зямлі і неба нібы падрыхтоўваюць кантрастную змену ў падзейным плане твора на нешта незвычайна светлае і абавязкова значнае, невыпадковае. Дачка каваля "з першага позірку закранула ў душы нешта патаемнае, даўняе — і страх перад вешчуном, які знаўся з чужымі, страшнымі альбо прыветнымі істотамі, недасяжнымі для іншых, і захапленне ад прасторы, у якой знікала страла, і яшчэ многае, аб чым ён і сам не ведаў".

Гэтым незвычайным станецца для маладых герояў нараджэнне першага сапраўднага пачуцця, гучанне незямной і неўміручай музыкі кахання. Менавіта здольнасць адчуць яго, рэдкі дар любові і праз гады дазволіць князю быць упэўненым у тым, што не ўлада, паядынкі і перамогі галоўныя ў свеце: “Вечнае на зямлі — каханне і радасць...”. Магчыма, якраз недасяжнасць апошніх з-за трагічнага расстання з узятай крыжакамі ў палон, Альгерду думалася — і забітай, Лозкай, што нечакана вернецца да князя праз некалькі дзесяткаў год да болю знаёмымі чароўнымі вачыма яе ўнука Кужаля, зрабіла тыя юнацкія ўражанні сына Гедзіміна незагойнымі і самымі яркімі з усяго перажытага. “Ён ажно здзівіўся, што ўсё ў ім засталося, не размалацілася кавадлам Часу — тое маладое хваляванне, светлая надзея на шчасце, шалёнае біццё сэрца, калі дакранаўся да далонькі, ад якой пахла рутай і нечым салодка-дзявочым, патаемным. І боль страты, што доўга не даваў дыхаць, аказваецца, жыве таксама...”

Заўсёдным напамінам пра мінулае — апетая шматлікімі дзівоснымі легендамі дзіда Альгерда, наверху для якой у іх першую сустрэчу выканала ў бацькоўскай кузні здольная да ўсякай працы Лозка. Неабходна падкрэсліць, што ў паэтычнай сістэме рамана асвечаная ў паўразбураным храме Ашвінаў дзіда займае месца цалкам самастойнага і нават сімвалічнага вобраза. І калі выява дзяўчыны на ёй — даніна памяці князя сваёй каханай, то шматлікія сведчанні аб тым, як дзіда бароніць Альгерда і яго блізкіх, дапамагае ў бітвах і паўсядзённым жыцці, і ім самім, і яго атачэннем успрымаюцца сапраўдным дзівам, неразгаданай таямніцай усёмагутнай незямной сілы любові, непадуладнай ні часу, ні волі іншых. Невыпадкова пры здзяйсненні традыцыйнага абраду прысвячэння на служэнне княству яшчэ маленькаму двухгадоваму Ягайлу сімвалічна ўкладаецца ў руку чароўная дзіда. І гэта яе павязе з сабою ў Кракаў ужо пасапраўднаму каранаваны дарослы сын Альгерда з надзеяй на заўсёдную абарону любімай бацькавай зброяй.

Нязвыклую сілу дзіды, а таксама незвычайнасць тутэйшай зямлі, што “спявае рознымі галасамі, гаворыць з людзьмі, трэба толькі ўмець яе слухаць”, як ніхто адчувае ўнук Лозкі Кужаль. Часта яму здаецца, што гэта дзіда распавядае яму пра продкаў, пра таямніцы роду, пра яго кроўную сувязь з імі. А яшчэ Кужаль шчыра верыць, што “прыйдзе час, і ў найцяжэйшую хвіліну яна вырвецца з рук і пацэліць у самага страшнага ворага Княства...”. Апошнія старонкі рамана дазваляюць меркаваць пра пашырэнне ўнутранага сімволіка-семантычнага поля дадзенага канкрэтна-рэчыўнага вобраза — гэтага, разам са шчытом і кальчугай, нязменнага атрыбута велічы воіна і правадыра — праз набыццё ім яшчэ аднаго, выключна важнага ў плане ідэйна-пафаснага выражэння спецыфікі гістарычнага жанру, абагуленага значэння. Дзіда Альгерда — няспынная хада часу, сама памяць аб былой велічы і магутнасці дзяржавы, якая павінна ашчадна ахоўвацца наступнікамі, а таму яе загублены след —- “многае з таго, што страчана яшчэ нашымі продкамі і чаго не збераглі ўжо і мы...”.

Як вынікае, умелае карыстанне В. Іпатавай прыёмамі вобразатворчасці істотна дапамагае ёй у ненавязлівым выяўленні абмівалентнай скіраванасці цікавага гістарычнага твора, у якім да мінімуму змяншаецца дыстанцыя паміж мінулым і сучаснасцю праз пошукі ў глыбінным даўнім прыхаванага і такога ж глыбіннага сённяшняга. Пагаджаючыся з развагамі даследчыцы Н. Літвіненкі адносна жанравай эвалюцыі французскага гістарычнага рамана XIX—XX ст., возьмем на сябе рызыку суаднесці яе наступнае меркаванне з цяперашнім станам і мастацкай функцыяй гэтай адметнай літаратурнай адзінкі. У прыватнасці: “Мінулае прадстае ў гістарычным рамане, хоць і адцягненым, але інварыянтам сучаснай эпохі, як яе прадугадванне і падрыхтоўванне”.

Пры гэтым умелае спалучэнне міфалагічнага, лірычна-ўзнёслага і строгага рэалістычнага прынцыпаў асэнсавання канкрэтнага падзейнага матэрыялу, вядомых і выдуманых чалавечых лёсаў, што ўласціва тыпу мастацкага мыслення не толькі В. Іпатавай, але і даволі значнай кагорты творцаў сучаснай сусветнай літаратуры, істотна пашырае абсягі прасторава-часавага кантынууму рамана і пры ўсёй знешняй традыцыйнасці, адмаўленні ад шырокаахопнай панарамнасці надае яму ўстойлівыя адзнакі так званай “новай эпічнасці”. Яна — як сцвярджае І. Бернштэйн, — “знайшла сваё здзяйсненне і ў звароце да каранёў народнага жыцця, да міфа і вытокаў нацыянальнай і сусветнай гісторыі культуры, вызначылася і ў змыканні дакументальнага рэалізму і паэтычнага сімвала, прытчавага пачатку і традыцыйна рэалістычных спосабаў узнаўлення рэчаіснасці. Усе гэтыя тэндэнцыі выяўляюцца ў літаратуры не паслядоўна, выцясняючы адна адну, а паралельна, пераплятаючыся ў поліфанічным шматгалоссі і адгукаючыся на агульныя запыты новага этапа духоўнага жыцця”.

Паводле В. Іпатавай, неабходнымі ўмовамі пазітыўнага сцвярджэння і крэатыўнасці апошняга выступаюць вызначаныя ахоўніцай нябесных Ашвінаў Жывенай і жрацом, што ўмее чуць і разгадваць гукі зямлі, старым Гінгівілам два асноўныя жыццёвыя прынцыпы. Першы з іх грунтуецца на разуменні таго, “што ў чалавеку закладзена ўсё тое, што ёсць ва ўсім свеце. І трэба ўмець выклікаць у кожным не цёмнае, а светлае. Тады цемра адступае. І зло будзе пераможана”. Другі — на здольнасці максімальна набліжацца да гарманічнага спасціжэння таямніц светабудовы, умення патрапляць “у тое агульнае суладдзе-рытм, якім жыве ўсё існае на зямлі”. Менавіта саюз гэтых абодвух аднолькава каштоўных і ўзаемазалежных перакананняў, свядомае наследаванне ім уладароў і простых смяротных ва ўсе эпохі і ёсць гарантам бясконцага працягу і шчаслівай прысутнасці чалавецтва ва універсуме.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*Сонца сугрэўна шчыруе ізноў,*
*Жарка цалуючы*
*скарб саматканы.*

*Маці над сажалкай...*
*Праніка круг...*
*Лоб ад угрэўнага клопату потны.*
*І уцякаюць на плёс з яе рук*
*Белыя ранку жывыя палотны.*

*Мамы на свеце белым няма.*
*Ветры над сажалкай*
*плачуць ззалела.*
*Пуста на беразе. Толькі зіма*
*Суцеле палотны памяці бела.*

Вабяць паэта да сябе “вобразы мілыя”. Спакваля яны ўвасобяцца ў лёсы канкрэтных людзей, воблікі якіх назаўсёды зберагла памяць, у тыя рэаліі, якія ёсць толькі менавіта **на сваёй зямлі, той,** што пазначана на карце вёскай Бабчын. Былой вёскай. А пакуль гэтая канкрэтыка іншага кшталту. Як бы прывязаная да ўсёй Беларусі: “Прырасло да узлеска сяльцо, // Бляскам шыб слепіць цішу убогую. // І гушкаецца — едзе сянцо // На вазах палявою дарогаю. // Бор дрымотны паляны імшыць, // Совы зрынуцца ўслед шызакрылыя. // І не здатна падраць-асушыць // Памяць гэтыя вобразы мілыя”. Аднак з гэтых у многім абагульненых “вобразаў мілых” і пачынаецца сваё маркотна-гаркавае з чарнобыльскім прысмакам на вуснах. Яно вельмі дакладна перададзена ў вершы “Перапёлка”. Беспрытульнасць, калі можна так сказаць, гэтай птушкі — пэўная непрыкаянасць тых, хто ў выніку самай страшнай катастрофы ў гісторыі чалавецтва пазбавіўся сваіх каранёў:

*Выбліскне яра над вёскай зара,*
*Ўзрушыцца голас грому.*
*Так і лятае,*
*Сваё “жаць пара”*
*Не абраніўшы нікому.*

Воблікі землякоў таксама нязменна ў паэтавай памяці. Здавалася б, пасля кнігі “Бабчын”, у якой прамоўлена слова ці не пра кожнага, наўрад ці можна дадаць нешта новае. Ды таленту многае падуладна. А паколькі талент у М. Мятліцкага жыццядайны, а раскрываецца ўсё шчадрэй, чым паэт болей піша, у новай кнізе знайшлося і нямала цікавых твораў, у якіх раскрываюцца лёсы бабчынцаў. Я б вылучыў з шэрагу падобных верш “хххДзічка на Мазнічынай мяжы...”:

*Дзічка на Мазнічынай мяжы.*
*Колкая, нядрэмная начніца,*
*Падалася ў бок які Мазніца,*
*Пошумам лісцвяным адкажы.*

Паступова вымалёўваецца воблік самой Мазніцы. М. Мятліцкі надзіва ашчадны ў выяўленчых сродках, але яму ўдаецца стварыць запамінальны партрэт вясковай жанчыны. Не злеплены з канкрэтных рыс. Падабенства паэт дасягнуў іншым шляхам — Мазніца паўстае ў сваіх звыклых справах:

*Мільгацеў хусціны белы рог,*
*Красавала чэрвеньскае сонца.*
*На пакошы дыбала*
*бясконца —*
*То сушыла, то вяршыла стог.*

Наступная, заключная страфа верша быццам той прамень, які асвятляе цемру. Мазніцы даўно няма ў жывых, але яна жыве. У памяці тых, хто ведаў. У памяці праз добрыя справы гэтай жанчыны. Праз тую паяднанасць усяго жывога на зямлі, якая мкне і да паяднанасці з вечнасцю:

*І сказала груша: ў неба глянь,*
*Там яна, дзе белыя аблокі.*
*Я зірнуў*
*І ўчуў старое крокі...*
*І святлела змрочлівая рань...*

У асобных вершах прысутнічае часта такая жыццёвая праўда, увасабленне якой па сіле толькі творам эпічнага жанру, а гэта сведчыць на карысць таго, што паэзія М. Мятліцкага становіцца не проста публіцыстычнай, як было раней, а і маштабна-праблемнай. Важна і тое, што паэтаў роздум набывае філасофскую напоўненасць, якая становіцца вынікам напружанага і пакутлівага роздуму лірычнага героя над далёка няпростай рэальнасцю. Канечне, ён упэўнены: “устане на гэтых мурах Беларусь // Гордай і вольнай”, але мусіць канстатаваць і іншае: да падобных рэалій яшчэ далекавата. У сувязі з гэтым важкі сэнс набывае верш “Двор прахадны”. І гэтым разам М. Мятліцкі адштурхоўваецца ад уласнага вопыту:

*Бацька злаваўся, ступаў да сцяны*
*Чырвоны, як той карась:*
*– Што ім тутака —*
*двор прахадны?!*
*Квортачка — лясць ды лясь!*

*Ды не ішоў бараніць свой двор,*
*Стоячы, моўк на ганку.*
*То Біран мяшок з буракамі пёр,*
*То Вара — саломы вязанку.*

Лёгка з’яўляецца паралель з жыццём беларусаў і Беларусі: “Ці ж не такі вось двор прахадны // Ты, беларускі краю?” І гэтак жа лёгка нараджаецца ўпэўненасць: “Веру: на мой занядбалы двор // Ступіць аднойчы Доля”. Гэта аднак не значыць, што паэт не разумее, наколькі цяжкі шлях да Беларусі. Пацвярджэнне таму верш з красамоўнай назвай — “Наіўнасць”:

*Я збудаваў на папялішчы храм.*
*Здавалася, як спрытны дрывасек*
*Усе сучкі-задзірынкі абсек,*
*Высока ўзнёс крыжы*
*аконных рам.*

*Ва ўсе бакі захоплены пагляд*
*Душа кідала. Солад хмелю піў.*
*Ды на крыві ахвяраў храм*
*той быў.*
*Ён пылам лёг. І сумны далягляд*
*Адкрыўся мне і — выстудзіў наіў.*

Пошукі дарогі да Храма праўды, справядлівасці, сумленнасці — шлях, якім праходзіць лірычны герой М. Мятліцкага, пазбаўляючыся фальшу і маны. Набываючы сілу і ўпэўненасць. Ён ведае, што яшчэ нярэдка “гуляе з намі праўда ў жмуркі”, але ён ведае і іншае: да праўды дойдзе той, хто прагне яе. Гэтая думка дамінуе ў кнізе “Жыцця глыбінныя віры”, напісанай страсна, неабыякава. І па-майстэрску.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

УРАЖАННЕ

# Пра жывапіс — як каханне...

Ці магчыма маляваць словам, як пэндзлем? Ці магчыма маляваць пэндзлем музыку душы? Магчыма. Сведчанне таму — аповесць Віктара Карамазава “Мой брат духоўны...” (“Полымя”, 2001, № 11) — жывапіс у слове. Яе герой — выдатны мастак Станіслаў Жукоўскі — “непаўторны паэт прыроды”, чые творы — хвалюючая, шчырая споведзь сэрца, а лёс — адбітак трагічнай эпохі. Для яго жывапіс, прырода і каханне — непадзельныя і з’яўляюцца асноватворнымі. Усё жыццё пейзажыста было служэннем прыгожаму і высокаму — мастацтву і каханню.

Пабудаваны твор па рэтраспектыўным прынцыпе, якім аўтар умела карыстаецца. Пішучы спавядальны ліст сябру, ягоны герой успамінае шматлікія эпізоды са свайго жыцця, пераглядае ранейшыя ўчынкі і дзеянні, пераасэнсоўвае пройдзены шлях.

У аповесці выяўляюцца тры сюжэтныя планы, якія адкрываюць падмурак душы і крыніцу натхнення мастака. На першым плане — творчыя пошукі Жукоўскага. Як творца, ён няўрымслівы, нечаканы, непрадказальны. Мастак знаходзіць сюжэты для сваіх твораў прыгажосці роднай зямлі, якую звычайныя, не адораныя такім талентам, людзі часцей за ўсё проста не заўважаюць. Кожная карціна Жукоўскага — феерверк фарбаў, разнастайнасць пачуццяў, гармонія колераў і святла, суіснавання чалавека і прыроды. Між іншым, варта зазначыць, што ў беларускай літаратуры няма іншага твора, у якім бы аўтар так глыбока пранік у духоўны свет мастака і з такім веданнем справы раскрыў яго творчую манеру, адметнасць тонаў, “свята душы”, якім і абумоўліваецца поспех героя ў жывапісе.

На другім плане — рамантычныя адносіны мастака з жанчынамі, бо толькі каханне для яго было крыніцаю натхнення ў жывапісе: “Да работы натхняюся думкамі аб прыгожай жанчыне. Калі не будзе гэтае радасці, дык і жыць не варта”. У гэтым плане назіраецца проста фатальная шчодралюбасць сэрца Жукоўскага, які можа адначасова кахаць некалькіх прыгожых жанчын і адпаведна — прыгажосць у жанчынах.

Трэці план — нацыянальна-гістарычны, у прыватнасці, у творы згадваецца пра паўстанне К. Каліноўскага. Бацька Жукоўскага дапамагаў паўстанцам, за што яго пазбавілі ўсіх шляхецкіх прывілей. Два бацькавы браты, непасрэдныя ўдзельнікі паўстання, былі жорстка пакараныя. Гісторыя Бацькаўшчыны паўстае перад мастаком у чырвоным святле. Чырвоны колер —- гэта колер гарачай крыві і памяці, колер лёсу, роду і краю: “У гэтай чырвані яны разам, край родны і яго дзіця — адно цэлае, адзін лёс і адна сутнасць”. Такім чынам, адной з асноўных праблем твора з’яўляецца праблема нацыянальнай самасвядомасці. Пытанні, якія задае сабе Жукоўскі — “...хто ён сам: паляк, расіец, беларус? Католік, як мама і бацька, роду шляхетнага, але этнічна — хто?..” — з’яўляюцца актуальнымі і для многіх з нас адкрытымі і на сённяшні дзень.

Навелістычна нечаканай з’яўляецца развязка аповесці. Падаецца яна ў эпілогу. Тут мы даведваемся пра трагічны лёс і бясслаўную смерць вядомага мастака — патрыёта сваёй Радзімы, загінуўшага ў канцлагеры ў час вайны “паміж карычневымі і чырвонымі”. Ён захаваў сваю годнасць і свабоду духу, застаўшыся ў чорны час верным святлу.

В. Карамазаву ўдаецца перадаць светаадчуванне мастака праз яркія малюнкі навакольнага свету. Напрыклад, пачынаецца твор з наступнай карціны: “Драбкі блакіту ззялі, як сама раніца ў абмытым цёплым дажджом акне, грэліся ў вохрыста-залацістых лужынках сонца. Сонечныя плямы дзе сплывалі і ярчэлі, дзе рассыпаліся і гаслі, а блакіт заставаўся трывалы і чысты...” Пісьменнік, як мастак, тонка адчувае і малюе колеры, таны, паўтаны. У сонечным промні, павеве ветру, кроплі віна бачыць цэлы свет, зменлівы і загадкавы, ствараючы адметныя вобразы. “...шчыкатлівы халадок лізнуў пад кашулю цела”, “...быў саменькі акраец вечара”, “Марыя працягнула яму насустрач рукі з азярцом цёплага блакіту” (г.зн. фіялкі. — **Н. Д.**) і г.д. Мова твора надзвычай вобразная, сакавітая, багатая на фарбы, цені, адценні пачуццяў. Яна цалкам адпавядае позірку на рэчы адмысловага майстра жывапісу і гаворыць пра шчодры талент іншага творцы — мастака слова Віктара Карамазава.

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

# "Імем няўмольнай свабоды"

**Вядомы перакладчык Алесь Траяноўскі, які даўно пераўвасабляе па-беларуску творы з верхнялужыцкай, ніжнялужыцкай, кашубскай, польскай і ўкраінскай моў, нядаўна парадаваў прыхільнікаў паэзіі кнігай "Імем няўмольным свабоды", у якой сабраны творы дваццаць аднаго аўтара. Кніга атрымалася арыгінальнай, як сведчыць ва ўступе "Замест прадмовы" сам Алесь Пятровіч, "змест зборніка складаюць пераклады твораў малавядомых або і зусім невядомых у Беларусі**




**украінскіх пісьменнікаў. Бо адны з іх жылі ў эміграцыі, другія — былі загублены на сваёй радзіме ў самым росквіце таленту або сасланыя ў лагеры нявольніцкай працы, дзе і абарвалася іхняе жыццё. Доўгі час іхнія імёны і творчасць не мелі месца ва ўкраінскай літаратуры савецкага перыяду, былі невядомыя шырокаму колу чытачоў на іх роднай зямлі. А гэта вялікі пласт украінскага прыгожага пісьменства". Гэты пласт А. Траяноўскі і прыўзняў з належнай яму стараннасцю і талентам, пастараўшыся, каб кожны з аўтараў найлепшым чынам "загаварыў" па-беларуску. А паэты, прадстаўленыя ў кнізе, сапраўды вартыя таго, каб пра іх ведалі і на Беларусі. Асабліва тыя, чый талент паспеў ярка раскрыцца. У шэрагу іх і Аляксандр Олэсь, падборкай твораў якога і адкрываецца кніга. Сапраўднае прозвішча яго Кандыба, які закончыў свой шлях у эміграцыі. Адзін з вершаў А. Олэся прысвечаны роднай мове:**

*О слова наша! Ты ў кайданах!*
*Ты церпіш здзек прыблуд чужых,*
*Ты спеўны гром бацькоў маіх,*
*У небыццё дзяцьмі загнаны.*

*О слова наша! Лесу шум!*
*Зіхценне зор блакітнавокіх,*
*Бязмежных стэпаў спеў шырокі,*
*Разліў дняпровых грозных дум...*

**Чытаеш верш і быццам пра беларускую мову ўсё сказана:**

*О слова! Стань мячом маім!*
*Не, сонца стань, там супыніся,*
*Заззяй над краем і спыніся*
*Дажджамі суднымі над ім.*

**Паэтам быў і сын А. Олэся Алег Ольжыч, закатаваны немцамі ў чэрвені 1944 года ў гітлераўскім канцлагеры Саксэнгаўзен. Бацька, даведаўшыся пра яго гібель, памёр праз месяц — сэрца не перанесла гора. У адным з фрагментаў паэмы "Невядомаму змагару" ён пісаў:**

*Дзяржава не творыцца*
*ў будучых днях,*
*Тварэнне дзяржавы настала —*
*То людзі, што гарт набылі ў агнях,*
*То людзі — як глыбы, як скалы.*

*Не кволыя ўласнікі пенсій і рэнт,*
*Распешчаны цвет пансіёнаў, —*
*А тыя, хто воляй, крывёю ў цэмент*
*Змацуе жар сыпкі мільёнаў.*

**На Грыцько Чупрынку ў свой час звярнуў увагу Максім Багдановіч: "...паэт з вельмі рэдкім, своеасаблівым тыпам таленту, лініі якога пры ўсёй сваёй нескладанасці буйныя, рэзкія і выразныя. Больш таго, — Чупрынка ці не самы характэрны, самы выразны і закончаны прадстаўнік гэтага творчага тыпу сярод паэтаў..." А Дмытро Фалькіўскі — наш зямляк, нарадзіўся ў вёсцы Лепясы каля Кобрына. Шлях яго складаны. Служыў у ЧК, але змог разабрацца, што і да чаго: "ён знайшоў у сабе сілу, каб гаварыць праўду". І паплаціўся за гэта. Ёсць магчымасць пазнаёміцца і з творамі Алены Тэлігі, Уладзіміра Самійлэнкі, якія таксама прадстаўлены вялікімі падборкамі, а поруч раздзел "З забыцця ўваскрэслыя імёны", аўтары якога прадстаўлены адным, двума, трыма творамі, найбольш характэрнымі для іх. Што тычыцца першых шасці, дык змешчаны іх партрэты, дадзены даволі разгорнутыя характарыстыкі жыцця і творчасці, прыводзяцца ў канцы выказванні каго-небудзь з аўтарытэтных пісьменнікаў. А. Траяноўскі зрабіў вельмі добрую справу, прыадкрыўшы нам тыя старонкі ўкраінскай паэзіі, пра якія пераважная большасць з нас не ведала. У сваю чаргу ён "вельмі ўдзячны Марыі, Веры і Уладзіміру Ягоўдзікам, Уладзіміру Вішнеўскаму, Алегу Глекаву, а таксама ўкраінскім сябрам Аляксандру Рыбалку і Любові Наталушцы за іхнія клопаты і дапамогу ў падрыхтоўцы і выданні гэтай кнігі..."**

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

Уладзімір ПАЎЛАЎ



# Санеты дня

## Вырад

*Дзе вытыкалі ільняны ручнік,*
*Цвілі па ўзмежках сінія валошкі,*
*З бацькоў малыя падбіралі й крошкі,*
*Каб даўні род наш не прапаў, не знік.*

*Ды на табе — нячысты дух пранік:*
*Вырад з'явіўся, стаўся браца ў рожкі,*
*Не шанаваў свайго ўсяго ні трошкі,*
*На словах маці блытаўся язык.*

*Шпурнуў ручнік з валошкамі пад ногі.*
*Адрокся ў людзі выбітной дарогі.*
*Не мог і кроку без хлусні ступіць.*

*А выжлы, што да хлябаўкі прыстроіў,*
*Каб костку пад сталом хутчэй схапіць,*
*Яго прапхнуць стараліся ў герої.*

## Заклінанне

*Відаць, ад найшчаслівага жыцця,*
*Пра што без стомы дзень*
*у дзень вяшчаюць,*
*Па селішчах і вёсках паміраюць.*
*Там на паказ не ўсюды ёсць дзіця.*

*Скаромная ці посная куцця, —*
*Старэйшыя малодшых памінаюць.*
*Бяда і ліха краю не мінаюць.*
*Узняты полаг самазабыцця.*

*Каб на зямлі не засталося й следу*
*Ад нас, манкуртам трэба самаеды,*
*Што похапкам бяруцца за нажы.*

*Каторы век апанавалі беды.*
*Сляза на вейцы горная дрыжыць.*
*Ачніся, Беларусь, каб годна жыць.*

## Ініцыятары

*Прылюдна распінаюць Курапаты.*
*Стараюцца найбольш былыя емцы.*
*Даказваюць: людзей стралялі немцы,*
*А сталінцы зусім не вінаваты.*

*Ды помняць асірочаныя хаты*
*Ля вокан цені, лёгкі стук у сенцы...*
*Хто ж гэткія выкідвае каленцы,*
*Гатовы зноў усіх саджаць за краты?*

*З далёкае ваеннае пары*
*Не выбіліся ў доўгажыхары*
*Салдат-акопнік і яго сяржант.*

*Адбыў вайну хіба што гузаком*
*Той, хто страчыў са штаба языком,*
*Калі ў атаку ўскокваў лейтэнант.*

## Кажуць...

*Умей на кут святы перахрысціцца.*
*Чужое хаты прывітай агмень.*
*Сказаць з-за хмары*
*выбліснуў прамень:*
*Дзе ёсць нябожчык —*
*нельга весяліцца.*

*Злачынства кату хочацца пазбыцца.*
*Яно ж пры ім — як неадводны цень.*
*У час свой прыйдзе непазбежны*
*дзень —*
*Напомніць: кроў чужая — не вадзіца.*

*Хто быў амбал, а хто і з апліка, —*
*Гарошыны злачыннага струка, —*
*Ахвяры кожны налаўчона тоўк.*

*А хто ж іх патуральная рука?..*
*Цягаў уволю, кажуць, шэры воўк.*
*Пацягнуць, будзьце пэўны, і ваўка.*

## "Торговый центр "Национальный"

*Раскажа праўду, ні на ёт не схлусіць*
*Суседу зблізку і з краіны дальняй*
*Пра нас "Торговый*
*центр "Национальный",*
*Што ў Мінску, у сталіцы Беларусі.*

*Відочнае пацвердзіць кожны мусіць:*
*Канчае дружба дослед эпахальны.*
*І запыт не ўспрымаецца банальным:*
*Ці Беларусь жыве на Беларусі?*

*Паставіць засталося на прадаж*
*Свяшчэнныя бацькоўскія магілы,*
*Каб свет убачыў брацтва камуфляж.*

*Усе арлы каб пaскладалі крылы —*
*Такі нахабе бачыцца міраж.*
*Пераступі яе, мой краю мілы.*

## Усім вядома

*Ці сонца свеціць, а ці дождж цярусіць,*
*Набат гудзе жалобна-развітальны,*
*Ірве душу ажыўшы звон кандальны.*
*Па кім жа ён? А ўсё па Беларусі!*

*Глыток свабоды выспеліцца мусіць*
*У цвёрды поступ, а не*
*ў плач рыдальны.*
*За родны дом і мілы край світальны*
*Ваяр з "Пагоні" ні адзін не струсіць.*

*Хамут з ярмом не муляць карка тым,*
*Што цягнуць іх не на сваім гарбу,*
*Што й рабства лічаць векам залатым.*

*З часоў паганскіх існуе табу:*
*У храме нельга*
*гандляваць нічым.*
*Усім вядома. Толькі не стаўбу.*

## Толькі б...

*На свеце ўсім мы гэткія адны.*
*За салаўёў для нас спявалі кулі.*
*Закляцце "толькі б не было вайны"*
*З калысак дзеці як малітву чулі.*

*Не моўкнуць памінальныя званы.*
*Дым пораху не выкурыўся з рулі.*
*З галінкай міру ў дзюбах груганы,*
*Як бачыш, зноў у лапці нас абулі.*

*Нібыта і не бачым, і не чуем,*
*Як вечны час не вечнасць нам*
*вяшчуе. —*
*Ні грана ні падману, ні маны!*

*Спраўляе д'ябал шабаш адмыслова.*
*Знябытыя гісторыя і мова.*
*А мы ўсё — "Толькі б не было вайны".*

## Буду помніць

*Бадзёрасці пазычу ў ручая,*
*Прапахлы жытам пасля*
*дзённай працы.*
*І ў сталы век не сорамна прызнацца*
*Табе ў любові, старана мая.*

*Агонь патушыць водная бруя,*
*А ночы з днём ніколі*
*не пабрацца.*
*Зямлі і неба — вечнае сваяцтва.*
*Я — іх дзіця. Таму не смертны я.*

*Не ганарыся — з меншым павітайся.*
*На споведзі душы*
*сваёй пакайся. —*
*Адчуеш які свет вакол харошы.*

*Аднойчы нам не выпадзе*
*сустрэцца...*
*А і тады, як воблік мой сатрэцца,*
*Пра вас я буду помніць у Замошшы.*

Лявон НЕЎДАХ



•

*У восені перадінфарктны стан.*
*І мой стан ад ейнага — не лепшы.*
*А тут яшчэ запіў*
*Стрыечны брат Сцяпан...*
*Адкуль жа, людцы, ўзяцца*
*светлым вершам?*
*О, мне вядомы і другі настрой,*
*Калі пачуцці ўспыхваюць, бы порах.*
*А гэты вершык — ад журбы маёй,*
*Бо ў нас на трох нявыказнае гора.*
*Анёлкам белым з неба нада мной*
*З уколам-кропельніцай*
*Медсястрычка Вера...*
*Чамусьці пахне хвояю зямной...*
*Напэўна, Бог яшчэ жыцця адмерыў.*

## Закон любові

*Каханая, законы ёсць любові:*
*Даўно мяне к табе раўнуе Восень!*
*Яе маўклівасць лепш за шматгалоссе,*
*Дзе пачуццё — там не патрэбны словы.*
*З кубла сваёй сярмяжнае Айчыны*
*У гэты час і я зляцеў бы ў вырай.*
*Каханая, табе я тайну выдам:*
*Няма самоты ў крыку жураўліным,*
*Бо жураўлі вяртаюцца к вясне...*
*І я ў любові вельмі палахлівы.*
*Каханая, з табою я шчаслівы,*
*Ды к Восені раўнуеш ты мяне.*

## Дрэвы

*Як пад небам беларускім*
*дрэвы моляцца,*
*Ды не могуць, небаракі, супакоіцца.*
*Пазіраю ў іх бок я ўпотай —*
*Аблятае прыгажосць пазалотай.*
*Я прыйду да іх у храм*
*з сваёй верою —*
*З вельмі востраю пілой і сякераю.*
*Стане вусцішна ім усім,*
*стане страшна мне:*
*На адной зямлі жывём, гарапашныя.*
*Адвядзі, Гасподзь, мяне ад злачыннага,*
*Дай цяпла мне, дай святла —*
*не лучыннага.*
*Смерцю лёс пасеклых*
*дрэў мне адмоліцца,*
*Не дае маёй душы супакоіцца.*

•

*Цябе стварыў Бог вечна маладой.*
*Навошта ж ты мяне даймаеш, Восень?*
*Кахання не бывае досыць,*
*А мы кахаліся, нібы агонь з вадой.*
*Жанчыны Вечнасці, прабачце*
*вы хоць раз:*
*Зіма,*
*Вясна*
*І ты, паненка Лета.*
*Я — усяго смяротнік сярод вас*
*І кат любові старазапаветнай.*
*Дык што ж з таго пазнання я збярог,*
*Што ўцешыць сэрца і душу спатоліць?*
*Я — муж, я — бацька, я —*
*магутны Бог,*
*Калі каханне стала маёй доляй.*

•

*Белы горад, Дзвіна, маладосць... —*
*Шчыльна на павуцінне нанізана.*
*Ах ты, лёс, незайздросны*
*мой лёс —*
*Такма ў пацерках пані капрызнай.*
*Каб пажыць, я пазычыў шчэ дзень*
*І ўдыхнуў лістападнай апаліны.*
*Ах, агмень, ты мой родны агмень —*
*У жыцці мёрзлым цёплай*
*праталінай.*
*Я прызнаўся ў любові Зямлі,*
*Прыме ў лона яна і заступіцца...*
*Салаўі, ўсё мае салаўі*
*Праспяваюць яшчэ,*
*як мне любіцца.*

ПРОЗА

# ФРЭСКІ

Барыс ПЯТРОВІЧ



## Хохлікаў пакрыўдзіць

У першы раз ён убачыў іх у ванне, дзе ляжаў у вадзе па шыю і чытаў нейкую кнігу. Штосьці з класікі: «Дзікае паляванне...», здаецца... А яны падумалі, што ён заснуў, і выйшлі. Спачатку з-за вентыляцыйнае сеткі вылез дзядок – белабароды, сівы, лёгка-апрануты: ён разгледзеў штаны, увабраныя ў боты, падперазаную паскам – як у казках – доўгую кашулю. Дзядок быў велічынёю з добрага прусака. Дамавічок, дый годзе... Ён упэўнена трымаўся на вертыкальнай сцяне – хадзіў па ёй на двух нагах, як мы ходзім па зямлі. За дзядком з-за сеткі выйшла цэлая сям'я: бацька, маці і трое дзетак – кожны крыху большы за муху. Яны былі за метра паўтара-два ад ягонага твару, і добра бачнымі на светла-шэрай сцяне. Усе апранутыя ў нешта кшталту камбінезонаў, скрозь якія адразу заўважалася, што ў іх постацях захаваныя прапорцыі людзей, толькі зменшаных у сотні разоў. Сямейка адразу ж кінулася ўніз, дзе на стольніцы ляжалі печыва і цукеркі, якія ён узяў з сабою ў ванну, але яшчэ не з'еў. Ён звычайна падоўгу ляжаў ды млеў у прыемным цяпле – чытаў, жаваў нешта смачнае, а бывала і засынаў тут – чуйна драмаў, баючыся спаўзці ў ваду і захлынуцца. Дробненькія людзі між тым ужо каштавалі ягоныя прысмакі і нібыта нават перагаворваліся між сабою – яму падалося, што ён чуе нейкі рытмізаваны піск. Чалавечкі не толькі ласаваліся, яны адсякалі кавалачкі печыва, адпілоўвалі драбочкі цукерак і бралі з сабою. Калі б ён цяпер і сапраўды спаў, а прачнуўшыся ўзяўся есці печыва, дык і не заўважыў бы, што яго нехта пашкуматаў, на столькі нязначнаю была здабыча чалавечкаў... А яны, узваліўшы на спіны цяжкія кавалкі харчоў, пайшлі назад за вентыляцыйную сетку. І тады ён «прачнуўся»...

У другі раз, ужо забыўшы пра першы (бо падумаў: прыдрамаў трохі і прысніў-прымроіў маленькіх людзей-прусачкоў), ён убачыў іх ужо ў кватэры. Зноў жа, калі не спаў, але доўгі час сядзеў нерухома, і збоку магло падацца, што ён дрэмле, хоць на самай справе меланхалічна і абыякава глядзеў тэлевізар. Нейкі фільм з класікі: «Людзей...» Турава ці што?.. Іх з'явілася адразу шмат. Чалавек, калі можна так сказаць, з пяцьдзесят. Розных узростаў і полаў: былі тут дзяды і бабулі, дзеці і падлеткі. Ішлі яны хто па сцяне, хто па падлозе, а хто і па стале – аднолькава ўпэўнена. Хадзілі, бы шукаючы штосьці. «Ага, — падумаў ён, — дык яны, як і прусакі, збіральнікі – шукаюць крошкі і тым харчуюцца...» І сапраўды, чалавечкі час ад часу нахіляліся і нешта падымалі, а потым сабраліся ўсе вакол агрызка яблыка, які ён нядаўна з'еў. Адны елі яго, іншыя адразалі кавалачкі, ускідвалі на плечы і неслі. Гэтым разам, калі б ён запомніў, якім заставаўся пасля яго агрызак, заўважыў бы, што той значна паменшаў. Бо людзей было шмат, і яны добра-такі абабралі яблык.

«Збіральніцтва збіральніцтвам, крадзеж крадзяжом, — падумаў ён, — але ж усе чалавечкі някепска апранутыя і маюць даволі дасканалыя інструменты!» Гэтым разам ён заўважыў, што апроч сякераў і пілаў у аднаго была і бензапіла! Значыць, яны самі сеюць і, пэўна ж, ёсць у іх недзе свае фабрыкі і заводы... «Перш-наперш, — вырашыў ён, — трэба вызначыцца, як іх называць, каб не блытацца. Чалавечкі? Прусачкі? Гномікі?... Не, лепш – хохлікі» Адкуль і як усплыло гэтае слова «хохлікі» , ён не ведае, аднак яно яму адразу спадабалася, хоць і не зусім адпавядала бачанаму. Чалавечкі нікольк не былі падобнымі да хохлікаў, хіба што ў дзяцей па-над ілбамі кучараваліся чубкі.

На працы, калі на стол выпаўз звычайны прусак і сусед спрытна прыплясну яго кніжкаю, ён паспрабаваў загаварыць пра чалавечкаў-хохлікаў: ці не бачыў іх хто з калегаў дзе-небудзь. На яго пазіралі, як на ідыёта, і ён замоўк. Дома асцярожна сказаў жонцы, што па сцяне бегаюць нейкія прусачкі, але яна аспрэчыла яго: маўляў, не выдумляй, нічога такога ў нас няма... І ён зноў падумаў, што прымроіліся яму тыя хохлікі ў дрымоце.

Аднак і трэці раз ён убачыў чалавечкаў, калі ўдзень прылёг адпачыць. Яны вылезлі, каб здабываць метал: абляпілі дзвярную ручку і адразалі ад яе палосы-стужкі. Ён з-пад прыплюшчаных павек назіраў за хохлікамі і думаў, што гэта, мусіць, нейкая новая паралельная цывілізацыя, якая пра нас ведае, сочыць за намі і выходзіць толькі тады, калі мы яе не можам бачыць (гэтак «нас», «намі», «мы» ён думаў ад імя ўсяго чалавецтва), калі мы спім («А што ж тады бывае ноччу?» – жахнуўся ён). «Так, яны стараюцца не трапляць нам на вочы, але ж я іх убачыў... І не можа таго быць, каб я быў адзіны, хто іх выявіў. Хіба што яны іншапланецяне і высадзіліся толькі ў маёй кватэры... Як выйсці з імі на кантакт? Кінуцца і злавіць некалькі? І што – прыкрыць шклянкаю і паказаць журналістам?... Ну, злавіць, магчыма, двух-трох і злаўлю, але ж перапалохаю астатніх. І тады кантакту можа і не адбыцца ніколі... Трэба даць нейкі знак, што я ведаю пра іх прысутнасць. Які? Не... Дзе гарантыя, што яны мяне не ліквідуюць? Кальнуць чым-небудзь, і засну я назаўсёды ад інсульту ці інфаркту... Яны ж, па ўсім мяркуючы, не дурныя і добра развітыя. Сябры зайздросціць будуць потым: лёгкая смерць – у сне...»

Між тым да дзвярной ручкі па здабыты метал пачалі пад'язджаць вазкі, у якія былі запрэжаныя ці не прусакі? «Прыручылі!... Крута...». Больш за тое, праз хвілю падплыло нешта кшталту грузавічка альбо проста кузава на паветранай падушцы...

Ён так заглядзеўся на працу хохлікаў, што і не заўважыў, як з супрацьлеглай сцяны на канапу спусцілася некалькі чалавечкаў. Яны падышлі да ягонай рукі, і ён адчуў штосьці падобнае да камарынага ўкусу. Здзіўлены нечаканым болем, ён паспеў яшчэ павярнуць галаву і ўбачыць трох чалавечкаў каля пальцаў. Вусны ягоныя расцягнуліся ва ўсмешцы – разумення, прыкрасці, шкадобы... – і застылі.

## Голас пакінуць

...Бах, Бетховен, Моцарт...
...Бацічэлі, Ван Гог, Гаген...
...Гофман, Дастаеўскі, Джойс...
і г.д. і да т.п.
Чаму?

Чаму акурат гэтыя імёны згадаліся яму, калі назіраў за мітуснёй худога – скура ды косці – але жвавага старога? Якія такія флюіды лавіў ён ад самой постаці гэтага чалавека, зусім невядомага яму, і, здавалася б, малапрыкметнага, нічым не адрознага ад іншых хворых у палаце; што давала яму падставу параўноўваць дзеда з Чурлёнісам і Врубелем, Кіркегарам і Ніцшэ, Свіфтам і Гогалем? Хіба толькі надзвычайная худоба, водсветы хранічнага – вечнага – голаду на шчоках, ды вар'яцкі – радасны – бляск у вачах? Ці, хутчэй, навязліва прымушае яго думаць пра выдаткі лёсу творцы выпадкова пачутае на бальнічным калідоры ад старэнькай медсястры, што гэты дзіўны дзядок – адзін з найвядомейшых у свеце оперных спевакоў, слава якога трыццаць гадоў таму сягала далёка за межы Беларусі, СССР і нават Еўропы. Ла-Скала і Гранд-Апера лічылі за гонар прымаць яго на сваёй сцэне, а маскоўскі Бальшой тэатр тройчы выкрадаў яго з Менска, аднак кожны раз ён вяртаўся дамоў. Медсястра была даўняю прыхільніцаю таленту знакамітага тэнара, і ён бачыў, як плакала яна, гледзячы на гэтага амаль бездапаможнага цяпер дзеда, які замест мужчынскае прыбіральні пайшоў у жаночую, і там сеў на бідэ і... А другім разам да прыбіральні не дайшоў, пакінуў лужыну на калідоры, і суткі хадзіў у спачатку мокрых, а потым смярдзючых старасцю штанах, пакуль не прыйшла дачка і не адмацюкала яго... Дачка прыплялася п'яная, але пах пачула. Села на ложак, зняла з сябе спартыўныя штаны і апранула бацьку, а ягоныя — скруціла і паклала ў цэлафанавы пакет, у якім прынесла два яблыкі і паўпляшкі гарэлкі... Ён запомніў яе сінія ногі бамжыхі – таксама худыя, запомніў ейны твар, на якім засталіся яшчэ сляды інтэлігентнасці, і запомніў, што яна відочна саромелася быць у палаце. Але саромелася не сябе п'янай і нягеглa апранутай, а бацькі – падпрэлага і бездапаможнага. І ўсё старалася ўшчуць яго, каб нібыта апраўдаць сябе. Дзед, здавалася, не разумеў, чаго яна ўсхадзілася, але, было бачна, баіцца яе, ды і іншыя хворыя ў палаце адчувалі, што калі б не яны, дзеду б добра дасталося «за ганьбу».

Старому спеваку, якога звалі Іпаліт Радзівонавіч, было пад восемдзесят. Жонка даўно памерла. А адзіная дачка – выпеставаная Жаначка – стала галоўным ягоным няшчасцем. Колькі ў яе было мужоў – Іпаліт Радзівонавіч ужо згубіў і лік. Яна прапіла ўсё, што заставалася ў кватэры, яна і бацьку прапіла б, каб можна было. Але той жыў, усяляк чапляўся за гэтае жыццё і паміраць не хацеў.

Ён разумеў гэта, назіраючы за Радзівонавічам, і дзівіўся празе да жыцця, што не пакідала старога. Зрэшты, хутка ён здагадаўся пра вытокі яе: усе іншыя пачуцці і думкі ў дзеда выпетраў з галавы неадступны голад. Хранічны голад, пэўна, і стаў той сілай, якая трымала Радзівонавіча на свеце, прымушала рухацца, але ці не заўсёдны голад і стаў прычынаю памутнення розуму, зацыкленасці на адным – пошуках ежы... Дачка, пэўна, ніколі не карміла бацьку. І перадач пры наведванні не пакідала (нават тыя два яблыкі забрала сабе на закусь, як ні паглядаў на іх Радзівонавіч). І ў палаце ў старога цікавасць была адная: чаго, дзе, як бы паесці... Бальнічных пустых баршчоў ды пюрэ дзеду не хапала... Першай жа ноччу ён прачнуўся ад таго, што пачуў, як побач з ягоным ложкам нехта корпаецца. Ён расплюшчыў вочы. Цемру палаты разбаўляў да шэрасці вулічны ліхтар і ён убачыў худую чорную постаць, што схілілася каля ягонай тумбачкі. Гэта быў Радзівонавіч, які даставаў з яе печыва, яблыкі, цукеркі і, спяшаючыся, не адыходзячы, жаваў. Ён моўчкі назіраў за дзедам – так і не адважыўся яму нічога сказаць...

Удзень ад сняданку да абеда і ад абеда да вячэры дзед ляжаў, амаль не падымаючыся з ложка. Спаў і ніколі ні з кім не гаварыў, а толькі часам зіркаў з-пад рукі, як зіркаюць псіхічна-хворыя людзі: чырвоныя вочы яго бегалі хутка-хутка, а твар не пакідаў страх і... голад. Часам з-пад коўдры вытыркаліся яго жоўтыя ногі з даўно неабразанымі кіпцямі – доўгімі, ажно загнутымі... Ён думаў, гледзячы на старога спевака, што вось дзед ад'есца трохі на хай і нішчымных, але пастаянных бальнічных харчах, на прыпасах з чужых тумбачак ды з лядоўні (а дзед унадзіўся па начах хадзіць і ў лядоўню на калідоры, куды хворыя клалі прадукты, якія маглі псавацца: каўбасу, сыр, смажаныя куры, рыбу...) і, можа, супакоіцца трохі і тады вернецца да яго нармальны стан. Аднак, не, чым болей еў дзед, тым больш узбуджаным, актыўным і кідкім да новае ежы рабіўся: усё мала было. Пэўна, лепш за іншых адчуваў часовасць знаходжання тут, у сваім маленькім «раі».

І сапраўды, лячыць Радзівонавіча ўрачы адмовіліся: сказалі – адзінае лячэнне хваробы – аператыўнае, аднак рабіць аперацыю ў такім узросце небяспечна – сэрца можа не вытрымаць. А таму трэба Радзівонавічу дажываць сваё так, як ёсць. Праз тыдзень дзеда выпісалі.

Дачка прыйшла па бацьку толькі пад вечар. Як Радзівонавіч не хацеў ісці дамоў! Чапляўся за ложак, за стол, зноў за ложак... Ён так і не сказаў ніводнага слова, толькі мычэў – енчыў... Дачка з чарговым хахалем абыякава накінулі дзеду на плечы нейкае паліто, узялі пад рукі і задам выцягнулі з палаты. Вачыма ён, развітваючыся, чапляўся не за іншых хворых, што заставаліся ў пакоі, не за сясцёр, што стаялі тут, а за тумбачкі...

Дзён праз дзесяць усё ад той жа старэйшай сястры-прыхільніцы ён пачуў, што Іпаліт Радзівонавіч памёр. Прычым як: удзень выйшаў з кватэры і пайшоў у бок бальніцы. Але заблудзіўся, хоць і жыў недалёка, і ноччу – замёрз...

Яго вельмі ўразіла і жыццё Радзівонавіча, і смерць. Вярнуўшыся з бальніцы дахаты, ён патэлефанаваў сваёй знаёмай — аматарцы оперы, у якой быў вялікі запас пласцінак і спытаў, ці ёсць у яе запісы Іпаліта Радзівонавіча. «Ёсць, — адказала яна, а – чаму яны цябе зацікавілі?». «Я ляжаў разам з ім у адной палаце». «Як, ён яшчэ жывы?». «Не, яго ўжо няма». «Шкада. Такі магутны голас...»

А ён падумаў раптам, што так і не пачуў дзедавага голасу. Больш як за тыдзень Радзівонавіч не сказаў ніводнага слова. Урачы падыходзілі да ложка – перамаўляліся, раіліся, сястра чытала гісторыю хваробы, а стары ляжаў моўчкі. Дачка прыходзіла, нешта казала, пытала, а Радзівонавіч маўчаў, маўкліва лез ён і ў чужыя тумбачкі. Адзін гук ішоў ад дзедавых вуснаў – хрумст печыва ды плямканне...

Ён зноў згадаў імёны геніяў, памерлых у нястачы ды лячэбніцах, забытых усімі, пакінутых нават роднымі, і падумаў, што Іпаліту Радзівонавічу ўсё ж пашанцавала. Калі б ён жыў у часы Моцарта, Баха, Гофмана, дык пасля яго – спевака – нічога не засталося б. Радзівонавіч жа пакінуў на пласцінках свой голас. А голас можа распавесці нашчадкам больш, чым нямыя ноты альбо бязмоўныя літары ў кнігах...

## Ад жыцця прачнуцца

Гады, доўгія і кароткія, заставаліся ззаду, нібы адчэпленыя вагоны, і знікалі ў шызай смузе, як міражы, не пакідаючы следу. Яму карцела памацаць іх: слізкія яны ці ўжо халодныя, але гады праходзілі між пальцаў, як пальцы скрозь іх. І толькі шэпт травы, якая яшчэ расце, ды цяпло крыві ў жылах дрэваў супакойвалі яго: сум пройдзе – смутак застанецца: па няспраўджанай мары, па ссечаным садзе, па пратаптанай ім ды забытай іншымі сцежцы, па вясне сярод восені і па ўсім, што магло быць ды не сталася, прымроілася ды не збылося. Толькі адна спроба была ў яго прайсці да мэты проста: не збочваючы і не вяртаючыся, не ўзлятаючы і не падаючы. Толькі адна. Ён не сумняваецца, што памыляўся, што ён – птушка, а не страла; але ці зможа ён паглядзець у замаруджаным паўторы, як ішоў? Ужо цяпер рупіць яму пачаць апраўдвацца, шукаць вінаватых: салаўя, што пераліваў ваду ў горле да самай раніцы; воблакі, якія скрозь дзень плылі розныя; жанчын, якія былі такімі непадобнымі ў сваёй аднолькавасці; і кнігі, кнігі, кнігі, якія хавалі між старонак столькі таямніцаў, што кожная спазнаная аддаляла ісціну, і ён зноў і зноў пераконваўся, што прызначэнне кніг – гарэць, быць часовымі, а не вечнымі, несці смуту ў розум, а не веды. Ён азіраўся назад, на прабеглыя гады, што скласіся ў дзесяцігоддзі, і не бачыў іх там, дзе яны павінны знаходзіцца. Ён заўважаў змены ў самім сабе, але толькі знешнія: цела сточвалася вятрамі, рыхлілася часам, маршчыніла дарогамі, пранізвалася адказнасцю, а ўсведамленне «Я ёсць» так і не прыходзіла да яго: у кожны пэўны момант яно спазнялася на імгненне – адразу ж рабілася «Я быў», каб урэшце стаць «Мяне няма». Але ён ніколі не скажа: «Я ёсць», як і не вымавіць: «Мяне не было». Дык дзе ж тады ён – у будучыні, якая ёсць пакуль яе няма, альбо ў мінулым, якое ёсць, пакуль існуе ён? А мо – паміж: і там, і там, але не тут... А значыць – нідзе. Нідзе... Ці не таму, што шлях ягоны быў не напрасткі, ці не таму, што салавей і аблокі, жанчыны і кнігі спакушалі яго і грашылі з ім – і няма яму цяпер даравання ні справа ні злева, ні зверху ні знізу, ні ў мінулым ні ў будучыні, ні там, за брамай, хоць і пакідаў ён сабе кволую надзею быць запатрабаваным, згаданым аднойчы і пакінутым назаўсёды. Так, ён спатыкаўся і падаў паранены стомай няўвагі; так, ён узлятаў і грэўся пад аксамітнымі промнямі славы; так, ён збочваў, каб падвязаць зламаную галіну і кінуць у ваду выплюхнутую рыбіну; так, ён жыў, бо пакуты ды боль і ёсць жыццё, бо шчасця ды волі не бывае пры жыцці, а толькі пасля... Ён гэтага пэўна не ведаў, як не ведае ніхто, але ён здагадваўся, бо быў надзелены інтуіцыяй, бо верыў: не можа, не можа, не можа ўсё канчацца тут – тут можа толькі пачынацца. Бо інакш навошта ўсе гэтыя кнігі ды веды, камп'ютэры ды спадарожнікі, інакш навошта ўвогуле было чамусьці з'яўляцца, узнікаць. Тады мо лепей было б не злазіць з дрэў, застацца кісцяпёрай рыбінай, альбо не ляцець з далёкіх зорак спорамі ці ў натуральную велічыню, і не варта было камусьці ляпіць – кланіраваць – сабе падобных з гліны, праху ці рабра... А таму ён не баяўся смерці – як не баяўся сну, які і ёсць смерць, толькі часовая: як палёт ёсць падзенне, а падзенне ёсць палёт, і верыў, што гэтаксама, як прачынаешся ад сну, прачнешся некалі ад жыцця. Яно скончыцца, як канчаецца сон, і пасля яго, як пасля сну, будзе добра. Яму стала лёгка, і ён падумаў раптам, нібыта развітваючыся: а ці не шкада яму пакідаць цела, да якога ён нават прывык? І супакоіў сябе: а хіба можна шкадаваць выпадковую камбінацыю мікраэлементаў, якая распадзецца, каб утварыць нешта новае – травінку, карову, коціка... Але пакуль яно дадзенае яму ў адчуваннях, трэба песціць і радаваць яго, радуючы сябе ў пакутах і няволі, у палёце і падзенні – сонцам і месяцам, салаўём і кнігамі, жанчынамі і воблакамі, сном і жыццём...

І не чакаць, а быць гатовым.

## Спявай мне песню пра каханне…




**Прыкладаў літаратурна-музычных тандэмаў (Барадулін — Камоцкі, Дранько-Майсюк — Вайцюшкевіч) паболела: ланцужок "паэт—музыка" працягнуты новым выданнем "Прыгожае" з рамансамі Вікторыі Ільінскай на вершы паэта Славаміра Адамовіча.**

**Да выдання гэтых твораў аўтар і выканаўца ішла два гады, з тае пары, як адбылося першае публічнае выкананне рамансаў на вершы Славаміра Адамовіча перад яго кароткатэрміновым ад'ездам у ЗША.**

**З тае пары цыкл рамансаў папоўніўся новымі творамі са зборнікаў паэта "Кальварыйскія клёны" (1990), "Зямля Ханаан" (1993), "Зваротныя правакацыі" (1996, Польшча), "Спіраль Бруна" (1998), "Плавільшчыкі расы" (1999, Вільня).**

**Музычны цыкл распачынае галоўны твор, своеасаблівы камертон усяго альбома — раманс "Прыгожае". Гэты твор, як і большасць іншых, адпавядае таму азначэнню раманса, якое даецца ў "Беларуска-рускім музычным слоўніку": сольная лірычная песня з інструментальным суправаджэннем.**

**Але адценні голасу спявачкі і аўтара песень Вікторыі Ільінскай дазваляюць у рамках абранай музычнай формы перадаваць розныя нюансы паэзіі Славаміра Адамовіча: і эратычныя ("Калі яна пакідае арган…"), і сімвалічна-ўзнёслыя ("Не спяшай, мая рыжая векша…"), і драматызм ("Каханне без рэтушы"), і мары паэта пра ідэальную краіну Кахання ("Зямля Ханаан")…**

**Меладычна рамансы В. Ільінскай пабудаваны на аснове рытмікі і мелодыкі вершаў яе ўлюбёнага паэта і імкнуцца гарманічна падкрэсліць тую гаму пачуццяў, якія выклікаюць радкі С. Адамовіча.**

**На жаль раманс, як музычны жанр, мае свае штампы, якія замінаюць арыгінальнасці твораў. І некаторыя рамансы з альбома "Прыгожае" рэжуць вуха самапаўторамі ды ненаўмыснымі цытатамі, напрыклад, з Акуджавы ("У чорным пасля дажджу"). Відавочна, што аўтару патрэбна заглыбленасць у нешта іншае, акрамя летуценнасці закаханай. Тым больш, што паэзія С. Адамовіча мае досыць яркіх твораў, у якіх дамінуюць вобразы мужнасці і адвагі, тонкая іронія і грамадзянская пазіцыя патрыёта. Песні на гэтыя радкі, неардынарныя мелодыі маглі б расфарбаваць музычную палітру гэтага альбома, як і ўсю творчасць Вікторыі Ільінскай.**

**І ўсё ж, асноўны лейтматыў рамансаў з альбома "Прыгожае" — каханне на тле скарацечнага чалавечага жыцця і ўсведамленне неабходнасці яе берагчы, шанаваць сваіх каханых.**

**Выданне пабачыла свет дзякуючы намаганням выдаўцоў з моладзевай суполкі ВМА-груп і саўндпрадзюсера Славы Кораня з гурта "Уліс". Дзякуючы ім слухачы маюць новы аўдыёзборнік паэзіі С. Адамовіча, пакладзены на музыку В. Ільінскай.**

**А. МЯЛЬГУЙ**

## І паэтка, і мастачка

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася сустрэча з паэткай, мастачкай Ірынай Кузняцовай. На вечарыне прысутнічалі сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, стрыечны пляменнік Коласа Кастусь Самахвал… Адкрыла вечарыну дырэктар музея Зінаіда Камароўская, якая расказала пра Ірыну Кузняцову.**

**Сама аўтарка прадставіла выставу сваіх карцін. Іх назвы складаюцца ў верш, які называецца "Калыханка для сонца".**

**Ірына чытала свае вершы. Рамансы выконвала бард Ірына Лісоўская — дачка вядомага беларускага мастака-шаржыста Міхася Лісоўскага…**

**Андрэй ГРЫГАРОВІЧ,**

**навучэнец Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1**

# Ажылі вобразы дзяцінства

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

**— Аднак, не менш увагі ў сваёй творчасці ты аддаваў паэзіі Купалы, здаецца, ці не большую частку. Купаліяна даўно магла б стаць тэмай асобнай выставы. Многа было станковых лістоў па матывах купалаўскай паэзіі, напрыклад, "А хто там ідзе", "Дзе крыўда адвечная спела". Праілюстраваны табой і зборнікі паэм Купалы, асобна "Адвечная песня", вершы… Усяго больш за семдзесят работ. І пры гэтым "лебядзіным спевам" ты называеш менавіта "Новую зямлю" Коласа…**

— Сапраўды, у маладосці, пасля вучобы, калі пачаў самастойна працаваць як мастак, я больш захапляўся паэзіяй Купалы. Дыпломную работу зрабіў па матывах ягоных паэм. Але пасля заканчэння інстытута ў 1966г. мяне запрасілі аформіць шэрагам гравюр падарункавае выданне зборніка вершаў Якуба Коласа "З майго летапісу". Пазней выйшла кніжка-малютка вершаў Коласа, якая, на жаль, мела невялікі тыраж. Думаю, што падсвядома ў мяне мацнела думка, што трэба аддаць Коласу большую даніну. Але я лічыў сябе да гэтага не гатовым. Пасля таго, як я праілюстраваў паэму "Пан Тадэвуш" А.Міцкевіча, я вырашыў для сябе, што наступнай вялікай працай стане "Новая зямля". Трэба прызнацца, што ў маладыя гады ў душы заўжды больш рамантызму, і паэзія Купалы на такое светаадчуванне клалася лепш. На сконе ж жыцця адчуваеш настальгію па дзяцінстве. І гэта падштурхоўвае вярнуцца да яго ў душы, у думках, у творчасці. Я многае перажыў з таго, што напісана ў Коласа. І цвёрда вырашыў, што зраблю ілюстрацыі да гэтай паэмы. А будзе яна выдадзена пры маім жыцці ці не, гэта не было галоўным. Я адчуваў сілы на такую працу і адказнасць за тое, каб давесці яе да канца. Маладому чалавеку брацца за ілюстраванне "Новай зямлі" надзвычай складана, таму што яму цяжка ўявіць тагачасны лад і побыт. Адна справа — гістарычная кніга, даўно забытыя і адышоўшыя стагоддзі, дзе за праўду можна прызнаць і прыдумку. А "Новая зямля" вяртае ў час, які памятаюць яшчэ досыць шмат людзей старэйшага пакалення, тут абстрагаванасць і агульныя рэчы не "пройдуць".

Па-другое, падыходы ў ілюстраванні паэзіі могут быць рознымі. Гэта і абагуленыя вобразы, паралельныя, асацыятыўныя вобразныя лініі. Коласа, я глыбока ўпэўнены, нельга ілюстраваць такім чынам, таму што ён вельмі зямны і канкрэтны, хоць пры гэтым вельмі паэтычны. І ў гэтым вялікая складанасць для ілюстратара, бо Колас не дазваляе мастаку адыходзіць у бок ад свайго бачання вобразаў і сюжэтнай лініі. Канешне, можна ўвогуле адысці ад паэзіі, але ці патрэбна тады ілюстрацыя? Колас прымушае знайсці мастакоўскі ход, каб паказаць неад'емнасць чалавека і прыроды, зямлю, над ёю неба і зоркі, пра што так любіць разважаць паэт, прагу чалавека да прасторы і ў той жа час да сокаў зямлі, якія даюць мажлівасць чалавеку на існаванне. Таму нездарма я называю "Новую зямлю" раманам у вершах. У ёй ёсць цэлы шэраг асацыяцый, настальгія, і хоць пісаў Колас паэму ў маладыя гады, яна ўспрымаецца больш як успамін пра яго дзяцінства. Паэма ажыўлена канкрэтыкай, гумарыстычнымі дэталямі. Таму я шукаў той выяўленчы рад, які б не толькі раскрываў, але і дапаўняў змест.

**— Думаю, ты перачытваў, і не адзін раз, паэму перад тым, як узяцца за ілюстраванне. І звяртаўся не толькі да прамых цытат з сялянскага жыцця, але і дадаваў новае прачытанне, суладнае з праблемамі і поглядамі сённяшняга дня. Уражваюць не толькі надзвычай каларытныя мужыкі, але і неадназначны вобраз пана, выявы віленскага асяродку…**

— Зараз улічваеш сацыяльныя, палітычныя рэаліі часу, таму "Новую зямлю" ўспрымаеш не так павярхоўна, як у дзяцінстве. Задумваешся, што адбылося з таго часу, як Міхал так і не здолеў прыдбаць свой кут. У тых, хто меў зямлю, яе адабралі, прапанаваўшы замест гэтага бесперспектыўнае калгаснае жыццё. І мы бачым, што з гэтага атрымалася. А душа селяніна, я ведаю гэта па сваіх бацьках, заўсёды цягнулася да зямлі, але да **сваёй** зямлі.

**— Магчыма, менавіта такое тваё імкненне перадаць сэнс і шматзначнасць міжрадкоўя у паэме і падштурхнула да стварэння дзевяноста, а не, напрыклад, дзесяці ілюстрацый.**

— Звычайна ілюструюцца пэўныя вузлавыя моманты кнігі, выстройваецца акрэслены выяўленчы шэраг. Я, калі ўчытваўся ў радкі паэмы, бачыў, што для Коласа хутар быў квінтэсенцыяй жыцця беларускіх сялян, дзе лёгка прачытвалася шырокая панарама жыцця людзей. А гэта ўжо патрабуе вялікага фрыза ілюстрацый, дзе можна было б паказаць, як жыццё чалавека зніт оўваецца з прыродай. Дзе ён з ёю стасуецца у роздуме, займаецца паўсядзённай працай, мае нейкія святы і ўрэшце заканчвае свой шлях, так і не здзейсніўшы мараў. Таму я задумаў такую будову кнігі: кожны раздзел на кожнай мове пачынаецца з ілюстрацыі і пяці першых радкоў пад ёю.

Да паэмы Коласа я падступаў не спяшаючыся, рабіў замалёўкі, эскізы, не думаў нават, што ў нашых сённяшніх умовах будзе магчымасць выдаць такую нятанную кнігу. І нечакана Уладзімір Гілеп прапанаваў зрабіць кнігу ў фармаце ўжо выдадзеных тамоў Міцкевіча і Пушкіна, але паставіў умовай вельмі сціслы тэрмін. Я ж задумаў кнігу з маляваным фрызам ілюстрацый, і мне прыйшлося прыкласці вялізныя намаганні, каб усё ж паспець зрабіць задуманае ў тэрмін.

**— Для ілюстрацый ты выбраў менавіта тэхніку акварэлі, якая не самая лёгкая ў выкананні, не дапускае паправак і патрабуе смелую і напрацаваную руку.Чаму?**

— Я выбраў не проста акварэль, а класічную акварэль у адрозненне ад "Пана Тадэвуша", дзе акварэль спалучалася з падмалёўкай алоўкам, шклографам, гуашшу. Сувязь чалавека з прыродай можна перадаць праз пэўны настрой, а значыць, менавіта праз жывапіс. А сярод жывапісных сродкаў акварэль — самы празрысты матэрыял. Яна больш падыходзіць да паэзіі Коласа, да народнай мудрасці, акварэльныя малюнкі мрояцца ўдалечыні, дазваляюць глянуць праз заслону часу. Таму, напрыклад, гравюра ніяк не магла падысці для афармлення гэтай кнігі, бо яна стварае манументальныя вобразы. А ў малюнках да "Новай зямлі" мае быць тая цеплыня, якой прасветлена сама паэма.

Ёсць у кнізе яшчэ адна акалічнасць. Усюды бацька Міхал, дзядзька Антось, дзеці, дзядзька Юрка — усе называюцца імёнамі. Але ёсць адзін з галоўных персанажаў, які рэдка называецца па імені, гэта — Маці. Праз усю паэму праходзіць практычна адна жанчына, але, мне думаецца, Колас меў на ўвазе збіральны вобраз Маці. Таму, калі глядзець на ўвесь шэраг ілюстрацый, і Міхал, і Антось маюць партрэтнае падабенства, што збольшага захоўваецца праз увесь цыкл ілюстрацый, а вобраз Маці, які паўтараецца многа разоў, у кожнай сітуацыі розны. Гэта маладая ці старая жанчына, дома і ў полі, на святы ці за прасніцай, на пажарышчы. І гэта нягледзячы на тое, што захаваліся фотаздымкі не Міхала ці Антося, а маці Коласа. Проста вобраз Маці аб'ядноўваючы і абагульняючы, бо ў вёсцы маці для дзяцей заўжды была ахоўніцай і апорай.

Яшчэ адна адметнасць. Я за сорак гадоў творчай працы праілюстраваў больш за 60 кніг. І ў мяне часам узнікала жаданне паспрабаваць вырашыць кнігу ў двух матэрыялах, напрыклад, гравюра з літаграфіяй. І шчыра кажучы, мне гэта ніколі не ўдавалася. У "Новай зямлі" мне ўдалося спалучыць акварэльныя ілюстрацыі з гравюрамі на вокладцы, тытуле і шмуцтытулах. Ды і самі ілюстрацыі звычайна змяшчаюцца асобна ад тэксту, уклейкамі, такім чынам я афармляў выданне А.Міцкевіча. Мне ж хацелася ўвесці ілюстрацыі ў сам тэкст, як яго неад'емную частку. Так з'явілася ідэя пачынаць ілюстрацыяй кожны раздзел разам з першым пяцірадкоўем.

Я імкнуўся ўраўнаважыць фігуратыўныя і пейзажныя кампазіцыі, бо такая раўнавага ёсць і ў жыцці. У краявідах я не прытрымліваўся менавіта коласаўскіх мясцін, імкнуўся стварыць абагулены вобраз беларускай прыроды, беручы за аснову ў большасці далягляды Нарачанскага і Нёманскага краю. Сосны, дрэвы, падобныя на ліру, крыжы — усё гэта некалі было змалёвана з натуры. Вобразы ж людзей, якія праходзяць праз ілюстрацыі, імкнуўся стварыць непрыземленымі, не "затурканымі" жыццём. Яны годныя, са сваім адметным гумарам — на прызбе, у хаце, у час роздуму пра сваю зямлю. Гэтыя людзі маюць свой гонар, жыццё не прыціснула іх да зямлі.

**— У кнізе ёсць шмат партрэтаў, надзвычай запамінальных, эмацыянальных, здаецца, спісаных з натуры. Асабліва мужчынскія, хаця і жаночыя маюць не меншую каларытнасць. Думаю, тут цяжка будзе размежаваць, дзе паэтычныя апісанні, а дзе ўспаміны дзяцінства. Бліны, чырвоныя яйкі на свята, спрытныя матчыны рукі, калаўрот па вечарах, дзеткі ля абразоў… А рознакаляровыя кветкі, птушкі, воўк на зімовай дарозе — як вяртанне ў яскравыя моманты дзяцячага шчасця…**

— Вобразы сялян у папярэдніх работах, і ў гэтых ілюстрацыях выкрышталізаваліся як партрэты мужыкоў і жанчын, сярод якіх я жыў. Я вывучыў сямейныя партрэты Коласа, але тыпажы ў многім прыйшлі з майго дзяцінства. Усё жыццё перад вачыма стаяць вышываныя кашулі, якія апраналі мужыкі на святы, каляровыя хусткі, без якіх ні ў хаце, ні ў полі не з'яўлялася ніводная вясковая жанчына. Таму і ў маіх акварэлях няма жанчын з непакрытай галавою. "Новая зямля" не дае мастаку развароту разнастайных падзей, як, напрыклад, "Пан Тадэвуш", дзе ёсць і баль, і паляванне. Тут больш засяроджанае, аднастайнае сялянскае жыццё. Мастаку складана не паўтарыцца, быць арыгінальным. Я часта чапляўся за нейкую драбніцу, якая таксама характарызуе тое жыццё. На жаль, часу было недастаткова, але мастак сам ніколі не бывае цалкам задаволены сваёй работай. Інакш ён не меў бы стымулу для будучай творчасці.





**Вялікае падарункавае выданне "Новай зямлі" Коласа з'явілася ў продажы. Наклад яго невялікі — усяго 5000 асобнікаў. І, думаецца, за некалькі месяцаў, як і выданні БФК А. Міцкевіча і А. Пушкіна, яна стане бібліяграфічнай каштоўнасцю. Кнігу прыемна трымаць у руках. І, дзякаваць Богу, сталіся толькі ўспамінам высілкі і нервы, пакладзеныя Васілём Шаранговічам у друкарскіх цэхах, каб друк хоць збольшага адпавядаў арыгіналам ілюстрацый і задуманай вокладцы. Такое заўжды застаецца па-за прэзентацыйнымі вітаннямі. Кніга на самай справе была выпакутавана мастаком і не ў меншай меры старшынёй БФК У.Гілепам, які яшчэ дасюль не разлічыўся з усімі пазыкамі на яе выданне. Тым не менш, з вялікім поспехам адбыліся прэзентацыі "Новай зямлі" і арыгіналаў ілюстрацый у Варшаве падчас святкавання 10-годдзя пасольства РБ у Польшчы, і ў Мінску, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.**

**Кнігу Коласа "Новая зямля" можна набыць у Беларускім фондзе культуры.**

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

УРАЖАННЕ

Не праходзьце міма гэтай кнігі! Паверце майму слову, яна заслугоўвае быць прачытанай. Не, далёка не ўсімі, ды толькі кожны аматар сцэнічнага мастацтва, сэрца якога ў юнацтве альбо яшчэ ў дзіцячых гадах было пакорана... заваявана... трапіла ў палон спрадвеку ўладарнай і таямнічай магіі акцёрскай жарсці, што перараджае звычайнага... звычайную дзяўчынку ў творцу хвалюючых тэатральных персанажаў, — такі аматар будзе ўдзячным чытачом. Я кажу "звычайную дзяўчыну", маючы на ўвазе гераіню кнігі, якую раю не абмінуць кожнаму тэатралу, — народную артыстку Беларусі Зінаіду Браварскую.

Якое звабнае імя: ге-ра-іня! І вось тут яно цалкам дарэчнае. І дакладнае. Бо прозвішча "Браварская" ці не ў кожнага з нас, прычыненых да тэатральных уражанняў другой паловы мінулага веку, абуджае ўспамін пра сустрэчы з яе ге-ра-і-ня-мі. Жанчынамі, чый лёс, прыдуманы драматургам або гістарычна вядомы, рабіўся

# Імя таму грыму — душа

на працягу сцэнічнага жыцця яе, актрысы Зінаіды Браварскай, асабістым лёсам. Не чужым. Не прыдуманым. Прысвоеным ёю кожнай кропляй крыві і кожным ударам пульсу.

Пачынаеш пералічваць найбольш значныя ролі, што выпадала іграць гэтай актрысе на падмостках нашага Купалаўскага тэатра, і нібыта называеш імёны добра знаёмых табе жанчын. І ў пралетарскай чырвонай хустцы, і пад шыкоўным капялюшам з гіяцынтамі на атласным брылі, і ў строгім касцюме савецкай чыноўнай асобы, і ў шаўковай туніцы, выштукаванай залатым арнаментам, і ў зухавата заламанай шапцы на мужчынскі манер... Яна не строіла з сябе тую фігуру, што паўстае з тэксту ролі, — яна злівалася з роляй. Сама рабілася прадугледжанаю роляй гераіняй — і па духу, і па крыві. Прынамсі, такое ўражанне было ў заўсёднікаў партэра і балконаў тэатра.

Прыгадаем хоць бы спектакль "Нора" паводле Г. Ібсена. Першая выканаўца галоўнай ролі слынная Ірына Ждановіч узрушала залу нечувана жарлівым трагедыйным пачуццём жанчыны, якой нясцерпна балюча быць падманутай каханым чалавекам, быць абязволенай, быць спустошанай у душы. Выступаючы па чарзе з Ірынай Фларыянаўнай, актрыса Браварская выяўляла сваё адчуванне рэдкаснай прыроды амаль рамантычнай асобы, па ўсім відаць, летуценнай. І раптам фартуна адварочваецца ад яе, і Нора, застаючыся ў прыстойным строі ўладарніцай у сваім доме, выглядала жудасна прыгнечанай, абрабаванай да апошняй ніткі. Скінутай з бясхмарных нябёсаў на жорсткую зямлю. Адсюль гэты па-жаночы слязлівы адчай, якому яна, Нора, усім сіламі намагаецца супрацьпаставіць сваю высокую чалавечую годнасць. Жанчына, якая не хоча скарыцца пад пагрозай краху ўсіх надзей.

Мінскія тэатралы захапляліся Норай Ірыны Ждановіч і абдорвалі аднадушнагарачымі апладысментамі адметнае красы Нору Зінаіды Браварскай.

Дарэчы, аповед актрысы пра свае творчыя пакуты і адкрыцці, што спадарожнічалі яе лёсу ў Купалаўскім тэатры, на працягу ўсёй кнігі пазначаецца шчырай удзячнасцю беларускай школе акцёрскага мастацтва. Тае школе, якую яна, Зіначка Браварская, маючы вышэйшую тэатральную адукацыю (галоўным настаўнікам і выхавацелем у інстытуце яна называе непаўторнага харасства мхатаўца Міхаіла Тарханава), аднача́сова з працай "праходзіла" ў партнёрстве з такімі майстрамі, як Вера Пола, Лідзія Ржэцкая, Ірына Ждановіч, Раіса Кашэльнікава, Уладзімір Уладамірскі, Глеб Глебаў, Леанід Рахленка, Барыс Платонаў, Уладзімір Дзядзюшка... На думку Зінаіды Іванаўны, нічому не навучыцца побач і разам з такім сузор'ем

*Ірына КІРЫЛЮК. "І кожны вечар у час прызначаны..." Паводле ўспамінаў Зінаіды Іванаўны БРАВАРСКАЙ. Мінск. "Мастацкая літаратура". 2001 г. На рускай мове.*

артыстаў, як яна не аднакроць паўтарае, "пацалаваных сонцам", не ўдасканаліць у такім акружэнні свайго таленту мог хіба толькі бяздарны і лянівы відачын. Пасрэднасць якая...

Тэатр — сапраўднае мастацтва — не можа цярпець пасрэднасці. Знаёмае тэатралам па мемуарах і хрэстаматыйных працах выбітных знаўцаў сцэнічнага мастацтва патрабаванне-пытанне "чым здзіўляць будзем?", з якога і пачынаецца пастановачная праца ў ансамблі выканаўцаў ролі над спектаклем, прасочваецца Зінаідай Браварскай у аповедзе пра лепшыя работы купалаўцаў мінулых гадоў.

Вядома, хтосьці можа чытаць прапанаваныя Ірынай Кірылюк старонкі творчай біяграфіі Купалаўскага тэатра, якой гэтая біяграфія бачыцца актрысе Браварскай, як прыватны прафесійны вопыт артыстычнай асобы ў пэўным часе і ў пэўным асяроддзі калег, партнёраў, аднадумцаў. Правільна: ёсць і гэта ў кнізе. Ды вось жа краса акцёрскага прызвання: калі адзін чалавек пражывае не адно-адзінае жыццё.

У закулісных рэпетыцыйных стасунках і ў выкананні роляў у ансамблі з не менш за яго таленавітымі асобамі акцёр не замыкаецца ў кола толькі сваіх уласных уяўленняў пра людзей і жыццё наогул. Таму я і называю свае нататкі пераказам паэтычных радкоў Барыса Пастарнака, якімі ён сведчыць, што тэатральны акцёр бывае абавязаны адрачыся ад свайго "я" і падставіць самога сябе для грыму, і грым нановаператворыць яго твар, яго аблічча, яго характар, яго постаць. Я належу да тых тэатралаў, якім вельмі дарагія куміры даваеннай пары, купалаўцы пакалення У. Уладамірскага і В. Галіны, І. Ждановіч і Г. Глебава. У маладзейшых за мяне — свае. Веру, што для многіх гледачоў, асабліва — мінчукоў, кумірам была і застаецца Зінаіда Браварская.

І яе кніга... кніга пра яе... якраз і выяўляе прафесійнае сталенне актрысы, якая авалодвае вяршынямі акцёрскага майстэрства ў хаўрусе жывых людзей, знаўцаў сваёй справы. Пры ўсёй ярка акрэсленай адметнасці кожнага з іх, у тым ліку і самой Браварскай, іх нейкім цудоўным крылом прыўзнімае творчасць над мітуснёй паўсядзённай будзённасці, і яны, такія розныя, аб'ядноўваюцца дзеля высокай мэты — паказаць сучаснікам у жывых абліччах безупынную барацьбу ў жыцці дабра і зла, маны і праўды, харастве і пачварнасці, святла і цемры, ісціны і забабонаў. І што вельмі паказальна: кніга І. Кірылюк і З. Браварскай дае адчуць, як няпроста даецца станаўленне акцёрскай асобы самому артысту. Таму канцэртны лёс пэўнай актрысы тут больш чымся толькі аповед пра самую прывабную — пра акцёрскую — прафесію.

Артысты пакалення Браварскай любяць высакагорныя звароты ў мове, часцяком даюць ацэнкі сябрам і калегам у найвышэйшай ступені захаплення. І я не магу ўстрымацца і не падхапіць такую інтанацыю ў сваіх нататках пра гэтую кнігу — кнігу ак-тры-сы.

Жывы наўслыш роздум артысткі, якая разам з партнёрамі, але — раней за ўсё — сам-насам з сабою... наўмысна-свядома альбо інтуітыўна-прафесійна... вырашае гэтае падспудна заўсёднае пытанне, чым яна намервалася і чым такі здзіўляла гледача, — гэты роздум падмацоўваецца падрабязнымі штрыхамі рэпетыцыйных пошукаў сумесна з рэжысурай. Некаторыя старонкі кнігі ўводзяць у так званую лабараторыю акцёрскай працы. І мы атрымліваем цікавейшыя звесткі пра стварэнне Зінаідай Браварскай, можна сказаць, і ўпраўду незабыўных вобразаў: сатырычна акрэсленая Бажашуткава ("Амністыя" М. Матукоўскага) альбо Маці ("Зацюканы апостал" А. Макаёнка), разгублена трагедыйная перад надзвычайнай навізной уласных пачуццяў прыгажуня Клея ("Ліса і вінаград" Г. Фігейрэду), па-драпежніцку ваяўнічая і здрадлівая Ніхаль ("Дзівак" Н. Хікмета), стыхійна лёгкадумнай і як стракаты матыль прываблівай Эржы Орбен ("Гульня з кошкай" І. Эркеня). Якім чынам робяцца сугучнымі рэжысёрскае творчае ўяўленне пра маючы адбыцца спектакль і арганічнае ўсведамленне свайго прызначэння ў ім акцёрам, найбольш падрабязна і, я сказаў бы, відавочна паказана ў главе "Эпоха Барыса Эрына".

Пераказваць тут апісанае Зінаідай Іванаўнай сумесна з яе сааўтарам Ірынай Кірылюк наўрад ці мае сэнс. Мала ўдзячная гэта задача ў тэатральнай крытыцы: пераказваць на мове логікі пераказанае даволі эмацыянальна і жыва самім удзельнікам рэпетыцый і спектакля. Вазьміце і самі "паслухайце", напрыклад, якім чынам рэжысёр "Гульні з кошкай" угаворвае... пераконвае... падказвае... прымушае згадзіцца актрысу Браварскую іграць ролю Эржы Орбен, і вы адчуеце красу і магію тэатра як спалучэння дыпламатычнага разліку і пракудлівага адзінаборства-паядынку паміж адметнымі характарамі творцаў спектакля.

Як мне здалося, чытаючы такія мясціны кнігі "І кожны вечар у час прызначаны", мы спакваля далучаемся да здагадкі наконт адной уласцівай менавіта сцэнічнаму мастацтву асаблівасці. Чым жа ўвогуле мастацкая гульня... фантазія... акцёрская ігра на сцэне адрозніваецца ад чалавечай дзейнасці? Нават калі звярнуцца, напрыклад, да дзейнасці (творчасці) пісьменніка... альбо жывапісца... скульптара... У іх ёсць "матэрыял" дзейнасці... "матэрыял" творчасці. Так-так, і ім патрэбна творчае ўяўленне, фантазія, ды потым пісьменнік мае справу са сло-вам, мастак-жывапісец — з фар-ба-мі, а скульптар — з глі-най, з мар-му-рам, з брон-зай. З гэтага ствараюць памянёныя майстры свае мастацкія вобразы. Акцёру наканавана быць самому матэрыяльнай часткай творчасці. Ягоная ўласная пластыка і рух цела, ягоны голас ва ўсіх пералівах воклічаў і шэпту, яго позірк, адрасаваны адкрыта партнёру або адведзены "у бок" — і мы, гледачы, бачым агністыя пакуты яго душы ў дынаміцы непадроблена жывых праяў чалавечай страсці.

Тут я мушу патлумачыць, чаму я не адразу памянуў Ірыну Кірылюк як са-аў-та-ра Зінаіды Іванаўны Браварскай. Спачатку ёй адводзілася роля літаратурнага рэдактара надыктаваных актрысай аўтабіяграфічных старонак, задуманых як мемуарная кніга. На пэўным этапе такой сумеснай працы Браварская адчула, што да ўсім асабістых яе ўражанняў ад тае або іншай з'явы... да яе асабістага разумення сутнасці таго або іншага таленту, разам з якім ёй давялося і сапраўды ззяць, напрыклад, у "Даходным месцы" А. Астроўскага альбо ў "Традыцыйным зборы" В. Разава, у камедыі "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы ці ў драме "Вогненны мост" Б. Рамашова, у памфлетнай сатыры "Што той салдат, што гэты" Б. Брэхта і ў псіхалагічна заглыбленай драме "Залатая карэта" Л. Лявонава, — да ўсяго ўзгаданага ёй патрэбны дакументальныя сведчанні, пэўны каментар і дапаўненні, пабочныя заўвагі дасведчанага гледача. Гэта і зрабіла, арганічна ўключыўшы іх у рукапіс актрысы, журналістка з тэатразнаўчымі навыкамі Ірына Кірылюк. Пратаколы пасяджэнняў Мастацкага савета ў Купалаўскім тэатры, яе ўласныя гутаркі з калегамі і партнёрамі Браварскай, спасылкі на водгукі і рэцэнзіі ў прэсе на тэатральныя прэм'еры, эпісталярная перапіска некаторых дзеячаў сцэны, — усё гэта надае ўвогуле мемуарнай кнізе досыць арыгінальны характар. Разважанні, падкрэслена асабістыя, пераплятаюцца з яўнымі спробамі даць аб'ектыўную карціну жыцця і дзейнасці правафланговага ў беларускім сцэнічным мастацтве Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў другой палове мінулага стагоддзя.

Вядома, у такой незвычайна тонкай і далікатнай з'яве як акцёрская творчасць аб'ектыўныя ацэнкі... меркаванні... высновы... пазбаўленыя асабістых уяўленняў і асабістага густу... незалежныя ад асобы мемуарыста альбо крытыка-тэатразнаўцы... проста-такі прывідная. Мо і вельмі жаданая, як цяпер прынята казаць, састаўляючая тэатральнай думкі.

Я, напрыклад, не магу пагадзіцца з Зінаідай Іванаўнай, калі яна з жалем сцвярджае, што нібыта цудоўная актрыса Лідзія Ржэцкая, якая, між іншым, першай сярод беларускіх драматычных актрыс была ўдастоена ганаровага звання народнай артысткі СССР, паводле слоў Браварскай, іграла мала і часцей за ўсё другарадныя ролі. На стар. 49 чытаю: "Мне обидно, что Лидия Ивановна не сыграла ни одной (!) главной роли". Ой, так-такі і "ніводнай"?!

Яшчэ зусім маладая Ржэцкая замяніла ў спектаклі "Раскіданае гняздо" Першага беларускага таварыства драмы і камедыі (папярэднік Купалаўскага тэатра) П. Мядзёлку ў ролі Зоські. У дваццатыя гады яна выступае якраз у галоўных жаночых ролях у такіх спектаклях, як "Жрэц Тарквіній", у відовішчы, дзе ў вобразы ўвасабляліся алегарычныя постаці Працы, Капітала, Ідэі і Ярма — "Гімн Працы" яна... Ідэя. У сялянскай трагедыі "Спадчына" ёй належала, паводле тадышніх тэатралаў, выбітная роля, па-жыццёваму праўдападобны і па-мастацку тыповы характар сквапнай замодніцы. На долю, бадай, самай папулярнай на той час актрысы выпадаюць, як кажуць на закулісным арго, адказныя... вядучыя ролі ў спектаклях "Над Нёманам", "Мяцеж", "Міжбур'е", "Канец дружбы", "Платон Крэчат", "Ваўкі і авечкі", "Без віны вінаватыя" (рэдакцыя 1938 г.), "Скупы", "Апошнія", "Рускія людзі"... Ці ж Мурзавецкая альбо Кручыніна — гэта не галоўныя ролі! Ды і з персанажаў, якія да статуса "галоўных" не дасягаюць, Лідзія Іванаўна рабіла цуд: з'яўленне іх у спектаклі яна ўзнімала да такога ўзроўню маляўнічай значнасці, што яе персанаж выглядаў толькі на дадзены ў п'есе час "не галоўным", а па чалавечай маштабнасці асобы — важкі ён, каларытны, змястоўны.

Нездарма тагачасная крытыка параўноўвала яе эпізадычныя ролі ў Бядулевым "Салаўі" альбо ў "Хто смяецца..." з шэдэўрамі расійскай сцэны і суадносіла талент Ржэцкай са славутасцямі першага раду савецкай сцэны наогул — з К. Карчагінай-Александроўскай і М. Блюменталь-Тамарынай. Праўда, стала выступае на купалаўскай сцэне Зінаіда Браварская з пяцьдзесятага года, але ж і яна бачыла перамогу сапраўды галоўнага таленту Ржэцкай хоць бы ў "Ваўках і авечках" і "Апошніх".

Гэта — маё асабістае. І мяне можа хтосьці аспрэчваць. Гэта і добра, што некаторыя старонкі кнігі Ірыны Кірылюк, дзе такі багаты і шчодры аповед пра ўсіх, хто пакінуў больш-менш прыкметны след у творчым бегу гадоў на купалаўскай сцэне, абуджаюць жаданне прыгадваць і дзяліцца з якім-небудзь неабыякавым тэатралам сваімі ўласнымі ўражаннямі. Перад намі ж паўстаюць постаці рэжысёраў і артыстаў, драматургаў і сцэнографаў, дырэктараў і супрацоўнікаў літаратурнай часткі — ад Еўсцігнея Міровіча і да Валерыя Раеўскага, вядомай дырэктаркі Фані Алер да цяперашняга Генадзя Давыдзькі, ад Аскара Марыкса да Барыса Герлавана, ад Уладзіміра Крыловіча да інстытуцкага выхаванца аўтаркі Віталя Рэдзькі, ад Кандрата Крапівы да Аляксея Дударава, як гэта хораша, што Зінаіда Іванаўна знаходзіць добрае слова і, здараецца, цудоўныя патэтычна-ўзнёслыя эпітэты для характарыстыкі чалавека, у крыві якога пульсуе ўласцівая і ёй самой непадробленая тэатральная страсць!

Да гонару Ірыны Кірылюк — яна склала і скампанавала даволі стракатыя старонкі ў кні-гу, і гэтая кніга дае цэласнае ўяўленне пра творчасць купалаўцаў, пра іхнія імкненні заўжды быць на ўзроўні ідэйна-эстэтычных запатрабаванняў свайго часу, пра садружнасць Яго Вялікасці Акцёра з Драматургам і Рэжысёрам. Пра тэатр як жывую і трапяткую з'яву, дзе ўсё залежыць ад асобы сцэнічнага працаўніка. Ад яго асабістага светаразумення, ад ягонага таленту. Ад кан-гла-ме-ра-ту таленавітых і ахвярна працавітых людзей!

Кніга выдадзена на рускай мове. Зінаіда Іванаўна — родам з Адэсы. Дзяцінства яе пазначана больш украінскай моўнай стыхіяй. На Беларусі яна здолела шчодра раскрыць свой вялікі артыстычны дар, а пагаварыць пра ўсё гэта ёй захацелася з як мага большым колам чытачоў. Паўтараю, на мой погляд, кніга "І кожны вечар у час прызначаны" жанр якой вызначаны як "паводле ўспамінаў Зінаіды Іванаўны Браварскай", заслугоўвае ўвагі і звычайнага заўсёдніка Купалаўскага тэатра, і нашага тэатразнаўства. Я асабіста, пачаўшы яе чытаць, не магу адарвацца. І пісаў свае нататкі пра яе пасля паўторнага чытання. Цікава!

**Барыс БУР'ЯН**

## “Залатая сярэдзіна” Тацяны Лебедзевай

**Радасна бывае ў нагрувашчванні каструбаватых фраз, грубых вулічных выкрыкаў, тэлевізійнай траскатні і літаратурных штампаў — усяго таго, што запаўняе нашу рэчаіснасць — пачуць жывое слова... Таццяна Лебедзева праз сваю кнігу паэзіі “Залатая сярэдзіна” падарыла мне нямала прыемных хвілін.**

**Паэзія Лебедзевай уяўляецца мне досыць цэласнай, і менавіта таму аналізаваць яе няпроста. З першых жа вершаў здзіўляе нежаночая глыбіня мыслення. Шырокая і тэматыка зборніка. У ім няма несупынных пакут непадзеленага кахання, няма плаксівай меланхоліі, а ёсць любоў да жыцця і аб'ёмнае яго ўспрыманне. Думаю, паэтэса апісвае не знешні, бачны свет, і нават не свет пачуццяў, а адлюстроўвае ў вершах тое, што стаіць за нашай рэчаіснасцю і ёй кіруе (“Резвились огненные блики, Сжимая круг. И чудились не лица — лики И свет вокруг”).У нейкай ступені яна піша не сама, а ўспрымае няўлоўныя для большасці з нас эфірныя хістанні. Мяркуйце самі: “Дрожит непрочное стекло. Неясны странные черты. Вот отраженье потекло Из зазеркальной пустоты”, “Как отзвук вчерашнего сна Смятенье, тревога. И вдруг, Пронзительно ясно видна Рука, живившая круг”. Такое не напішаш, жуючы булачкі перад тэлевізарам.**

**Таццяна Лебедзева бачыць прыроду як жывую істоту: не заўсёды пяшчотную, добрую, прыгожую, але заўсёды — велічную і значную. Месяцам года, да якіх паэтка паважліва звяртаецца па імёнах, прысвечаны цэлы цыкл вершаў. У кожнага месяца свой нораў, свой колер і сваё значэнне (“Лето кутает плечи в шаль осенней предтечи, В невесомый, как иней, Бархат Августа синий”, “Снег да снег в Феврале. Тишина. Тишина. На судьбе, на земле Пелена, пелена”).**

**Паэтэса ашчадная на словы, не захапляецца апісальнымі падрабязнасцямі. Але затое кожнае яе слова — на месцы, у “залатой сярэдзіне”. Вобразнасць вершаў багатая, але не знарочыстая, някідкая. “И зима упала На разбитый дом...”, “Даю пристанище мирам. В своем блокноте укрываю...”, “Под куполом странных сплетений Добра и зла Слова не имеют тени, Печаль светла”, — такім паэтычным радкам зайздросціш белай зайздрасцю.**

**У зборніку няма высоўвання наперад сваёй асобы гэтага назаляючага якання, якое дазваляе беспамылкова адрозніць бяздарнасць ад таленту. Паколькі таленавіты чалавек заўсёды ўсведамляе над сабой Вышэйшую волю і не дэманструе радкі, як культурыст біцэпсы. Менавіта таму талент заўсёды трагічны: “Давать пристанище мирам Рассудку страшно моему”, “Под строгим прицелом Знакомых глаз, Под Высшим, Неспящим, который в нас”.**

**Таццяна Лебедзева, як і належыць сапраўднай хрысціянцы, не памінае імя Бога дарэмна. Але ўжо калі піша на евангельскую тэматыку, то... Прынамсі, дамо ёй слова: “Но блестела слеза, сторожила тоска незримо. И просил Он Отца: Пронеси эту чашу мимо. И нелепый завистник дарил поцелуй. Иудин. А Господь говорил: Уберите мечи! Неподсуден!”**

**Так, на нашай зямлі быў толькі адзін бязгрэшны і непадсудны Чалавек — Святло таго адзінага, дасканалага і непадзельнага Творцы. І таму Божа, барані мяне сказаць, што ўсё ў зборніку Таццяны бездакорна, бясспрэчна і не падлягае крытычным заўвагам. Інакш бы паэтэсе давялося “зачахляць” пяро і спачываць на лаўрах. Ведаю, яна гэтага не хоча. Бо светлая творчасць — няспынны пошук Бога ў сабе, набліжэнне да неспасціжнай “залатой сярэдзіны”. Пажадаем жа Таццяне поспеху.**

**Міхась ЮЖЫК**

*АЛЬФА-БЭТА*

# “Не магу без Беларусі і беларушчыны...”

***У канцы сшытка, з якога я выбраў гэтыя вершы для “ЛіМа”, іх аўтарка дапісала: “Мяне зваць Юля Шастак, і я не магу жыць без Беларусі і беларушчыны”. Гэтае прызнанне — як працяг лірычнай споведзі маладой паэткі, яны прадыктаваны тым жа глыбокім, гарачым пачуццём. Дзіўная рэч адбываецца на нашай зямлі: чым больш імкнуцца высушыць і здратаваць глебу — тым больш з яе прабіваецца да сонца зялёных парасткаў жыцця. Парасткаў паэзіі. Парасткаў святла, дабрыні, любасці... Вось і яшчэ адзін — па імені Юля.***

***Ю. Шастак — мінчанка, ужо ў другім, а па бацьку — у трэцім пакаленні. (Звернем на гэта ўвагу — раней паэтаў у нас давала толькі вёска). У Мінску закончыла школу з архітэктурна-мастацкім ухілам і зараз вучыцца на 1-м курсе БПА. Хораша, як на маё разуменне, малюе. “Малюю, колькі помню сябе”, — сказала. А гады два назад загаварыла вершамі. Шчыра, натуральна, лёгка і, па-мойму, таксама хораша.***

***Шчаслівай дарогі, Юля!***

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Юля ШАСТАК



### Малітва

*Утрымай мяне, зямелька,*
*Як былінку сярод поля,*
*Як крынічку сярод мора,*
*Як сястрычку сярод гора.*

*Я не ўскрыкну, не заплачу,*
*Пакланюся і аддзячу,*
*Енкі, стогны зноў схаваю,*
*Голас твой вазьму й зайграю.*

*Для сястрычак сярод гора,*
*Для крынічак сярод мора,*
*Для былінак сярод поля, —*
*Хай памоляцца аб волі.*

### Маё паганства

*Не вінаваць мяне ў паганстве:*
*Калі хілюся да агню,*
*Яго прашу я аб сустрэчы*
*З табою, горача малю.*

*Не вінаваць мяне ў паганстве:*
*Калі сумую ля вады,*
*Я ёй расказваю, як маці,*
*Што мне патрэбны толькі ты.*

*Не вінаваць мяне ў паганстве:*
*Калі гуляю па расе,*
*Я кожнай кропельцы маленькай*
*Шапчу твае прызнанні ўсе.*

*Не вінаваць мяне ў паганстве:*
*Мая рэлігія — любоў.*
*Кахаю ж моцна так, што раптам*
*Памершы, уваскрэсну зноў.*

### Скарга грэшніцы

*Дзіця абразы і маны,*
*Я пекла бачу за гадамі.*
*Мае разбэшчаныя сны*
*Змяняюцца крывымі днямі.*

*Я недарэчнасць, я праклён,*
*Я ўздых апошні брудных парый.*
*Падобных на мяне мільён,*
*Але астатнім...*
*даравалі.*

### Гукай вясну

*Гукай вясну.*
*Яна ў тваіх вачах.*
*Гукай вясну. Заві што маеш моцы.*
*Гукай вясну. І крылы на плячах*
*Сваіх адчуй. Ты паляціш да сонца.*

*Гукай вясну.*
*Хутчэй, хутчэй, хутчэй.*
*Гукай вясну. Звіні у сіняй высі.*
*Гукай вясну. Знікай з чужых вачэй.*
*Ды толькі ў небе са шляхоў не збіся.*

*Гукай вясну.*
*У свой самотны край.*
*Гукай вясну.*
*На нівы Беларусі.*
*Гукай вясну на згубу шэрых зграй*
*Ліхіх, блядых.*

*Я за цябе малюся.*

### Змяні мяне

*Змяні мяне.*
*Спляці з блакітам неба,*
*Зрабі маімі постацямі дрэвы.*
*Ствары з мяне раллю, святую глебу,*
*Зазалаці мяне калоссем, поўным хлеба.*
*Аддай мой голас птушкам і лістоце,*
*Разлі мяне дажджом.*
*Мне трэба так.*
*Ствары мяне нанова ў адзіноце*
*Сваёй майстэрні, вечнасці мастак!*

### След

*Белым,*
*Белым,*
*Бялюткім пухам*
*Сцеле шляхі зіма,*
*Гэтага мгнення бясконцым рухам*
*Дыхае ноч ля вакна.*

*Стомлена веі соннае неба*
*Зможыла.*
*Спіць Сусвет.*
*У памяці здрадліва і ганебна*
*Нечый чарнее след.*

●

*Цяплей за свет тваіх вачэй*
*Ні існуе нічога, мабыць.*
*Я да цябе лячу хутчэй,*
*Каб зноў сагрэцца ў ім.*
*Так вабіць*
*Мяне ён. Цягне да сябе*
*Пяшчотай ззяння. Позірк светлы*
*Спакою дасць, калі ў журбе*
*Мяне закружаць злыя ветры.*

●

*Самую лепшую ў полі кветку*
*Давай не будзем з табою рваць.*
*Прыйдзеш сюды ты адзін улетку,*
*І будзе з кім мяне ўспамінаць.*

*Самую лепшую ў небе птушку*
*Навошта табе ў сіло лавіць?*
*Над хатай крылы яе закружаць,*
*І стане лягчэй і святлей табе жыць.*

*Самую верную ў свеце клятву*
*Не паўтарай мне, як Ёй аддаў.*
*Толькі скажы, ну нашто гэтым ранкам*
*З кветкай у полі мяне ўспамінаў?*

### Брат

*Маё каханне — востры нож*
*Табе ў расхрыстаныя грудзі.*
*Ты на Галгофе басанож*
*Стаіш. А я — натоўпу людзі.*

*Як быццам здрадзіла табе.*
*Пачуцце нашае праклята.*
*Ламаю рукі у журбе:*
*Нашто я пакахала брата?!.”*

# Невядомы аўтограф на кнізе Уладзіслава Сыракомлі

Неяк на днях слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі прынёс мне ў рэдакцыю “Газеты Слонімскай”, дзе я працую, старую кнігу. “Вось, паглядзеі і пачытай, ты — бібліяфіл, таму больш у кніжнай справе разбіраешся. Можа, і сапраўды, старое выданне вартае чалавечай ўвагі” — сказаў мне зямляк.

Узяўшы кнігу ў рукі, я запытаў: “А дзе ж ты яе набыў?”

— Знайшоў на гарышчы ў адной са старых слонімскіх хат, — адказаў гісторык.

Прысеўшы за стол, я разгарнуў першыя старонкі кнігі. І вачам сваім не паверыў, бо гэтым старым выданнем аказалася паэма з мінулага Літвы “Маргер” Уладзіслава Сыракомлі, выдадзеная ў Вільні ў друкарні Рубэна Рафаловіча ў 1855 годзе. Паэма напісана на польскай мове з прадмоваю аўтара, якая так і называецца “Слоўца ад аўтара”.

У гэтым “Слоўцы” Уладзіслаў Сыракомля распавядае аб тым, як “літоўскія і прускія летапісцы пад 1336 годам запісалі крыжацкі напад на замак Пулен, гераічную яго абарону военачальнікам Маргерам. На гэтую падзею, як на выдатную тэму для паэмы, першай звярнула ўвагу жонка светлай памяці аўтара “Рамот і рамотак”, спадарыня Паўліна Вільконьская, у сваім лісце, напісаным да нас у лістападзе 1852 года, заахвочвала нас услаўляць Маргера”.

Нагадаю, што рамота —- гэта невялікі сатырычна-гумарыстычны твор, гумарэска. А мужам спадарыні Вільконьскай быў Аўгуст Вільконьскі, які ў 1846 годзе выдаў зборнік “Рамоты і рамоткі літаратурныя” (Ramoty i ramotki literackie).

Далей у прадмове да паэмы “Маргер” Уладзіслаў Сыракомля піша: “Згаджаючыся з шаноўнай карэспандэнткай у несумненнай паэтычнасці тэмы, адступілі мы аднак назад перад велічу задачы. Не стала нам адвагі ствараць урачысты эпас, і, самае важнае, узяцца апісаць дух старой Літвы, мовы якой не ведаем, і што за гэтым ідзе, не ведаем асновы звычаяў. Але спакуса засталася моцнай — колькі разоў, гартаючы хронікі, натраплялі мы на заваяванне Пулен, прызнаемся, што сэрца нам біла нейкім таемным неспакоем да гэтай пары, калі мы канчаткова не вырашылі ажыццявіць гэтую смелую задуму. Не надта азнаёмленыя з духам Літвы, не могучы выбраць гамерычную форму і пайсці шляхам, указаным вядомым спеваком Анафеласам, выбралі мы вяргіліевую форму... Не маючы надзеі трапна апісаць Літву і літоўцаў, на фоне гістарычных дадзеных стваралі мы вобразы людзей у агульным плане, намагаючыся ўсё ж спазнаць умовы месца і часу.

Маргер, старая літоўская варажбітка, крыжацкі хормайстар — гістарычныя персанажы, якія мы стараліся адлюстраваць паводле ўзору, начэрпанага ў хроніках. Рансдарфу Варнеру, таксама згаданаму ў хроніках, надалі мы характар другараднага героя аповесці. Эгле і Лютас — прыдуманыя персанажы, якія адлюстроўваюць дзяўчат і ваяроў старой Літвы. Адносна месца падзей — адны ў Пулен хацелі бачыць сённяшнія Пуні Троцкага павета, другія — вёску Пілюны над Шашупай. А паколькі трэба было выбраць штосьці адно — спыніліся мы на Пуні, і сёлета летам агледзелі мясцовасць, дзе апісваліся падзеі.

Ужо пасля напісання нашай вершаванай аповесці, мы заўважылі, што яна знешне адпавядае ўсім прынцыпам, што патрабавала даўняя крытыка ад гераічных паэм...”

Самым каштоўным на згаданай кнізе “Маргер” з'яўляецца загадкавы аўтограф на тытульным лісце кнігі. Ён быў пастаўлены 142 гады таму назад. За гэты час напісанае цяжкавата прачытаць, а тым больш расшыфраваць: “Памятка па шаноўным... Светлай памяці Пану Ол..., настаўніку геаграфіі ў гімназіі ў... лістападзе 1860 г.”. Прачытаўшы напісанае, адразу паўстала пытанне: ці не аўтограф на кнізе самога Уладзіслава Сыракомлі? Яшчэ ў 1860 годзе ён быў жывы, шмат падарожнічаў па сваёй Бацькаўшчыне, спрабаваў пісаць вершы на беларускай мове (“Ужо птушкі пяюць усюды...” 1861 г. і іншыя). І толькі праз два гады пасля таго, як быў пастаўлены вышэй названы аўтограф на першым выданні паэмы, восенню 1862 года паэта не стала.


MARGIER
POEMAT
Z DZIEJÓW LITWY
WŁADYSŁAWA SYROKOMLĘ
WILNO.

А паэма “Маргер” Уладзіслава Сыракомлі, сапраўды, прысвечана гістарычнаму мінуламу Старой Літвы, гэта значыць Беларусі. Паэта прываблівалі і цікавілі тыя падзеі, якія сведчылі аб мужнасці нашых далёкіх продкаў у барацьбе з чужаземнымі ворагамі, найперш з крыжакамі, аб іх імкненні ахвяраваць сабой у імя вызвалення Айчыны.

Паэма “Маргер” была напісана ў 1854 годзе ў фальварку Барэйкаўшчына недалёка ад Вільні. Годам раней сюды Уладзіслаў Сыракомля пераехаў са сваёй сям'ёй. А праз год пасля напісання паэмы, твор пабачыў свет. Дарэчы, на кнізе захаваўся штамп, на якім па-французску напісана: “З бібліятэкі Антона Плянсона з Дабраміля”. У гісторыі нашай літаратуры я не прыпомніў прозвішча Антона Плянсона. Што гэта быў за чалавек? Як трапіла кніга Уладзіслава Сыракомлі ў асабістую бібліятэку спадара Плянсона, а пасля ў Слонім? Адказаў на гэтыя пытанні пакуль няма.

Да сказанага вышэй хочацца дадаць, што паводле паэмы “Маргер” К. Горскім створана аднайменная опера. А на беларускую мову, на жаль, паэма Уладзіслава Сыракомлі яшчэ не перакладалася.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Маё пакаленне... і ўсе-ўсе-ўсе

Алесь БАДАК

**1**

*"А хто там ідзе?"* Купалаўскае пытанне, спрацыраванае на нашу літаратуру, набывае крыху іншы сэнс, але не траціць сваёй актуальнасці. Пакаленне, якое ўпэўнена заявіла пра сябе першымі зборнікамі ці яркімі публікацыямі яшчэ ў канцы 80-х мінулага стагоддзя, стварыла (адбылося гэта, нагадаю, аж у 1987 годзе) і стала касцяком нашумелай літаратурнай суполкі "Тутэйшыя", усё ідзе, ідзе... Быццам бы ўжо даўно павінна быць недзе тут, але для іншых яно чамусьці ўсё яшчэ недзе там... Нібы міраж: як за ім ні ганіся, ён бліжэй ад гэтага не становіцца.

●

Пытанне *"Хто ідзе?"*, калі адрасаваць яго аднаму пакаленню, толькі на першы погляд можа падацца простым. "Узроставы цэнз" тут даволі спрэчная мерка, бо ён вымагае шмат "выключэнняў з правіла": добра, калі аднагодкі пачынаюць друкавацца і выдавацца разам, а як быць, калі іхнія дэбюты адбываюцца з розніцай у дваццаць гадоў? У гэтым сэнсе час прыходу ў літаратуру фактар немалаважны, але ёсць і яшчэ адзін — праўда, немалаважны хутчэй для самога пакалення, а не для тых, хто знаходзіцца па-за ім, альбо для крытыкаў: гэта — духоўная і, магчыма, у меншай ступені, творчая *ўзаемапрыцягальнасць*. Дзякуючы ёй нехта са старэйшых лепш пачувае сябе сярод маладых і, наадварот, часам сёй-той з маладых больш хіліцца да "класікаў".

●

Дык чаму ж для многіх — і крытыкаў, і чытачоў — маё пакаленне ўсё яшчэ недзе *там*, а не *тут*? Адказ просты: паглядзіце, як рэдка сёння выходзяць кнігі тых, чый узрост каля сарака, паглядзіце, як рэдка заўважае і гэтыя кнігі, і гэтае пакаленне крытыка, і адказ на пытанне знойдзецца сам па сабе.

Параўнаем: у такім узросце яшчэ гадоў 15 — 20 таму, ужо не кажучы пра больш раннія часы, паэт ці празаік выходзіў да чытача, маючы ў сваім творчым багажы не толькі пяць-сем кніжак, на кожную з якіх нярэдка пісалася па некалькі рэцэнзій, але і томік выбранага. Сёння ж кнігі паэтаў і празаікаў майго пакалення выдаюцца ў асноўным за ўласныя сродкі (улічваючы, што ў падобных умовах апынуліся не ўсе і далёка не горшыя пісьменнікі, што гэта, як не літаратурны "рэкет"?), дзякуючы чаму ў нас выдавецкая справа пастаўлена з ног на галаву. Такі псеўдарынак не лепшым чынам адбіваецца на ўсёй літаратуры, паколькі ён незалежны ні ад чытача, ні ад крытыкі: маеш грошы — выдавай што хочаш.

●

Калі сёння пра маё пакаленне паблажліва кажуць "маладыя", робіцца крыху смешна. Між іншым, некалі "малады" — 27-гадовы (зрэшты, па-ўзросце сапраўды малады) Кузьма Чорны ўжо надрукаваў раман "Сястра", праз тры гады — "Бацькаўшчыну" і яшчэ праз чатыры — "Трэцяе пакаленне". У 1947 — 48 гадах Іван Шамякін (у 47-м яму, як вядома, было ўсяго толькі 26 гадоў) друкуе свой раман "Глыбокая плынь". Іван Мележ у 29-гадовым узросце публікуе дзве першыя часткі рамана "Мінскі напрамак", а славутыя "Людзі на балоце" — у 40 гадоў. Раман Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць" упершыню з'явіўся ў друку, калі яго аўтару было 32 гады. Яшчэ праз два гады ён ужо апублікаваў "Дзікае паляванне караля Стаха". У такім жа — 32- гадовым — узросце Іван Пташнікаў надрукаваў аповесць "Лонва", а ў 35 гадоў — аповесць "Тартак". З аповесцю "У Забалоцці днее" чытачы маглі пазнаёміцца, калі яе аўтару Янку Брылю было 33 гады. "Жураўліны крык" Васіль Быкаў надрукаваў, калі яму было яшчэ (ужо?) 36 гадоў. І яшчэ невядома, ці былі б усе гэтыя творы ўвогуле напісаныя, калі б у тыя часы выдавецтвы выпускалі па пяць кніжак у год, калі б аўтар не спадзяваўся, што яго кніга выйдзе хоць бы праз сем — дзесяць гадоў.

Можна згадаць і іншае. У свой час "маладыя" — 33-гадовы Алесь Жук узначаліў газету "Літаратура і мастацтва", 35-гадовы Пятрусь Броўка — часопіс "Полымя", а 36-гадовы Генадзь Бураўкін — часопіс "Маладосць". 33-гадовы Алесь Пісьмянкоў стаў намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ды і сёння "маладыя" Адам Глобус кіруе прыватным выдавецтвам, якое ўхітраецца выдаваць, магчыма, больш кніжак, чым усе нашы дзяржаўныя выдавецтвы разам узятыя (прынамсі, калі мець на ўвазе тыражы). "Малады" Сяргей Дубавец доўгі час рабіў "Нашу Ніву", і хто можа папракнуць яго, што ён рабіў яе непрафесійна, што ў яе не было ( ці няма цяпер) свайго твару, свайго чытача?

*"Дык чаго ж захацелася ім?"* — спытае іранічны чытач, загадзя ведаючы *свой* адказ на гэтае пытанне.

Ды ўжо ж не высокіх пасадаў, Бог з вамі! Тым больш у сённяшняй сітуацыі. Хіба гэтага, да прыкладу, нельга было заўважыць па відавочнай пасіўнасці, праяўленай маім пакаленнем на апошнім пісьменніцкім з'ездзе? Пасіўнасці, якая, зрэшты, стала і своеасаблівым "маўклівым бунтам" — у тым ліку супраць такой падрыхтоўкі з'езда, як і супраць самога сцэнарыя яго правядзення. Гэта ж відавочна, што за дзень, нават за два сур'ёзна і ўсебакова абмеркаваць нічога нельга, асабліва калі стаіць пытанне пра выжыванне Саюза пісьменнікаў. Абмяркоўваць і вызначацца трэба *да* гэтага: на радзе, на секцыях, у абласных аддзяленнях, выкарыстоўваючы той жа "ЛіМ". На з'ездзе можна толькі прымаць рашэнні — загадзя прадуманыя і ўзважаныя. Пры гэтым як ні дзіўна, можа, гучыць не забываючыся і аб праблемах самой літаратуры, Прынамсі, і цяпер, у надзвычай неспрыяльных умовах для развіцця нацыянальнай культуры, трэба шукаць і выкарыстоўваць любыя магчымасці ў змаганні за чытача. Але і не дужа цешыць сябе ілюзіямі: выхад кніжкі яшчэ не дае гарантыі таго, што ўсё гэта будзе запатрабавана ім, чытачом. А ён сёння ўжо далёка не той, які быў яшчэ дваццаць гадоў таму, калі ледзь не ўся сусветная класіка і сучасная папулярная літаратура з'яўляліся дэфіцытам. Сёння кнігі беларускіх пісьменнікаў змушаны канкурыраваць з літаратурай усяго свету, і спадзявацца толькі на тое, што нас будуць чытаць таму, што мы "свае" і пішам "пра сваё", не даводзіцца. "Сваімі", г.зн. захаваўшымі ў літаратуры яе нацыянальную адметнасць, мы застанемся пры любых умовах, пра што б і як ні пісалі. Ды ў тым і праблема: пра што і як?

●

Люблю крытыкаў, чытаючы якіх, атрымліваеш такую ж асалоду, як ад чытання добрага мастацкага твора, што, зрэшты, апошнім часам бывае досыць рэдка, часцей — сухасць, банальнасць.

І вось — маленькая ўзнагарода за доўгае чаканне: у "ЛіМе" невялікі маналог Ганны Кісліцынай — пра сябе, пра літаратуру. І яе арыгінальнае прызнанне: маўляў, ну што можна чакаць ад пісьменнікаў-мужчын, жыццё якіх "пазбаўлена адрэналіну", а тэлевізар — "ледзь не адзіная крыніца не толькі інфармацыі, але і эмоцый". Гм, падумаў я, гэта яна пра літаратуру ці жыццё? А можа, пра ўсё разам? І не змог не ўсміхнуцца, абдумваючы словы гэтай прыгожай жанчыны, з якой некалі адначасова вучыліся на філфаку (гэта я зноў пра сваё пакаленне), а найперш — вельмі разумнага, дасведчанага, цікавага крытыка.

●

Маю даўнюю звычку: прачытаўшы ў якой-небудзь газеце добры верш, выразаць яго для сваёй калекцыі. Нядаўна прагледаў яе і аказалася, калі браць пад увагу тых паэтаў, якія нарадзіліся ў 60-я гады (г.зн. вельмі блізкія мне па ўзросце), дужа шмат "навыразаў" Эдуарда Акуліна, што, зразумела, адпавядае маім адносінам да яго паэзіі. І не толькі таму, што яна вельмі метафарычная. Сама па сабе метафара — "тэхнічны сродак", не больш. І можна навучыцца пісаць "пад Барадуліна", але нельга стаць другім (трэцім, чацвёртым) Барадулінам. Клanаваннем у паэзіі, як і ў жыцці, можна дасягнуць толькі знешняга падабенства. Унутраны ж свет, перастварэннем на паперы якога і з'яўляецца ўсялякая паэзія, рэч абсалютна індывідуальная, і каб убачыць у ім і перадаць чытачу ўсю яго непаўторнасць, патрэбна мець сапраўдны талент. А ўжо якія паэтычныя сродкі будзе выкарыстоўваць паэт, не так і важна.

Свет Эдуарда Акуліна глыбока лірычны і багаты на эмоцыі. Гэта паяднанне мінуўшчыны і сучаснасці, трагічнага і высокага, смутку і кахання, неба і зямлі. І кантрастнасць паміж усім гэтым незаўважная, яно — як адно цэлае — успрымаецца зусім натуральна, як, напрыклад, халодная крынічная вада ў спякотны дзень, у адрозненне ад той, што стаіць, сагрэтая сонцам, у графіне.

●

Алесь Наварыч у прозе — нібы архітэктар, які і з маленькай "прыбудовачкі" хоча абавязкова зрабіць твор мастацтва, таму піша марудна, шмат крэсліць і не дужа рэагуе на здзіўленні некаторых калег: "Дзе Наварыч? Чаму ён нічога не піша? Дзе яго новыя кнігі?"

Алесь Наварыч пісьменнік характарны, і ў яго ёсць сюжэты, якія цяжка пераказваць, бо пры гэтым, як правіла, губляецца вельмі важнае: манеры, знешнасць герояў, іх перажыванні, апісанне прыроды — словам, усё тое, што пераходзіць у тваю душу, калі ты застаешся сам-насам з творам, і той падмурак, на якім моцна трымаецца ўся проза гэтага літаратара, проза, якая з часам становіцца больш разнастайнай жанрава, але пры гэтым не губляе сваю ранейшую адметнасць.

●

Пэўны час, ведаючы яго толькі па першых публікацыях, я лічыў Барыса Пятровіча гараджанінам ад нараджэння. І тады ўжо яго проза адрознівалася ад традыцыйнай вясковай — і сюжэтамі, але найперш стылем. Проза, аўтар якой аб'явіў сябе спачатку ворагам шматслоўнасці, пасля — жанравай закасцянеласці, што падштурхнула яго да звароту да новых формаў, прымусіла ісці на эксперымент. А ў суме — ворагам празмернай кансерватыўнасці нашай літаратуры.

У сваёй творчасці Барыс Пятровіч лёгка пераходзіць ад рэальнага да фантастычнага, а дакладней — уяўнага (розніца паміж гэтымі двума паняццямі істотная), і гэта прыкметна пашырае сюжэтную прастору яго прозы і напаўняе яе тонкім псіхалагізмам і філасофскімі развагамі.

Да літаратуры такога кшталту (умоўна назавём яе эксперыментальнай, хоць на Захадзе яна даўно ўжо запушчана ў "масавую вытворчасць") наша крытыка традыцыйна адносіцца з насцярогай. Часам думаецца, што гэта насцярога ад перакanання, што такая літаратура занесена здалёку, таму чужая нам і рэзка супярэчыць нашым традыцыям, а галоўнае, свaім з'яўленнем яна нібыта хоча перакрэсліць усе ранейшыя набыткі нашага прыгожага пісьменства. На самай справе, каранi яе тут, і проза таго ж Барыса Пятровіча такая ж беларуская, як, да прыкладу, "Людзі на балоце" Івана Мележа, і, між іншым, яна досыць цяжка перакладаецца нават на блізкія нам мовы.

●

Ёсць у вершах Віктара Шніпа якасць, якая мне не проста імпануе. Без яе любая паэзія — нібы кветка, што не мае паху. Якасць гэта — іх пазнавальнасць: сваёй вобразнасцю, рытмікай радка, якія вельмі добра стасуюцца з нашым нялростым і супярэчлівым часам, але, як ні дзіўна, здаецца, зусім не стасуюцца з характарам гэтага добрага, спакойнага і светлага чалавека. Зразумела, на іх своеасаблівую рытміку працуюць і любімая Віктарава парная рыфма, і свядомая мінімізацыя паўз паміж радкамі (нават кропкі як знак прыпынку тут не заўсёды да канца выкарыстоўваюць свае прамыя "раздзяляльныя" абавязкі). Але гэта толькі тое, што ляжыць на паверхні. І тое, чаму мы, на жаль, часта не надаём асаблівай увагі.

●

Гадоў дзесяць таму гістарычная тэма ў нашай паэзіі дасягнула піка сваёй папулярнасці, парaджаючы небывалую колькасць твораў так ці інакш звязаных з далёкім і не вельмі далёкім мінулым Беларусі. Аб чым гэта засведчыла? У тым ліку і аб тым, што спрыяльныя ўмовы (палітычныя, уласна літаратурныя і г.д.) могуць дапамагчы развіцця ў прынцыпе любому вядомаму літаратурнаму жанру — напрыклад, і сёння яшчэ чамусьці не дужа паважаным у нас фантастыцы і дэтэктыву. Пры гэтым мне ўяўляецца, што "раскруціць" у айчыннай літаратуры дэтэктыў і фантастыку як жанры было б прасцей, чым гістарычную літаратуру. Скажам, каб пісаць дэтэктывы, дастаткова ведаць законы гэтага жанру (іх не так шмат). Гістарычную літаратуру нельга пісаць, прытрымліваючыся нейкіх пэўных канонаў — хутчэй ужо насуперак ім. Больш за тое, гістарычная літаратура — надта спецыфічны свет для творцы. Пераважная большасць літаратараў трапляе ў яго паспешлівымі гасцямі, а то і ўвогуле праходзіць праз яго як праз прахадны двор. І толькі адзінкі самі будуюць гэты свет — па сваім разуменні, па сваім уяўленні аб ім. Да гэтай кагорты належыць і Людміла Рублеўская, вершы якой, дарэчы, і навялі мяне на такія развагі. Як і вобраз самой паэткі, у якім ёсць нешта ад часу шляхетных паненак ды іх верных і мужных вояў.

●

У Андрэя Федарэнкі, можа быць, з усяго майго пакалення самы шчаслівы літаратурны лёс: яго імя пастаянна на слыху, яго любяць і шмат хваляць старэйшыя калегі, яго ахвотна друкуюць многія часопісы. Здавалася б, высновa простая: пішы так жа і столькі, як ён, і ўсе праблемы вырашацца. Але апошняя "дарослая" кніжка Андрэя Федарэнкі выйшла аж у 1994 годзе. А на сваіх публікацыях у часопісах ды газетах ён не тое што не разбагацеў — калі б жыў толькі на іх, то мусіў бы пасціцца (у лепшым выпадку) круглы год. Дык чаго варта такая папулярнасць — калі нават крытыка і калегі па жанры, аднойчы начапіўшы на яго ярлык "традыцыяналіста" і "талстоўца", не асабліва заўважаюць яго памкненні да пошуку: у форме, у стылі. Ды і Талстой, як вядома, для свайго часу быў наватарам дай Бог...

●

У майго пакалення перад сваімі папярэднікамі ёсць, прынамсі, адна перавага: яно нічога не згубіла ў мінулым, бо, па вялікім рахунку, нічога там і не займела — не ў духоўным сэнсе, зразумела. Таму калі ў сённяшняе бясчассе пра яго пытаюцца: *"А хто там ідзе?"*, — каб зразумець гэта, трэба не азірацца назад, а глядзець наперад, у будучыню, з якой нас заўсёды раздзяляе ўсяго толькі адно імгненне.

**2**

Гаворачы пра крызіс жанру крытыкі, ёсць сэнс удакладніць: крызіс *прафесійнай* крытыкі, нішу якой заўсёды знойдзецца каму запоўніць — як правіла, дылетантам, людзям выпадковым у гэтай нялёгкай справе. Дылетанцтва ў літаратуры з'ява такая ж звычайная, як і дылетанцтва ў любой іншай сферы чалавечай дзейнасці. Ад яго нікуды не дзенешся, і яно таксама мае права на існаванне, вось толькі ўсяму *сваё месца*. Зразумела, вага такой крытыкі невялікая, але праблема ў іншым: у тым, што яна стварае ілюзію існавання літаратурнага працэсу, з-за яе не так востра адчуваецца недахоп сур'ёзнага аналізу сур'ёзнай літаратуры — з аднаго боку і такога ж сур'ёзнага і ўсебаковага аналізу таго няпростага становішча, у якім сёння апынулася ўвогуле ўся наша літаратура — з другога.

●

Кніга — тавар, а любому тавару неабходна добрая рэклама. Чытаючы апавяданні тых жа Пташнікава, Кудраўца, Адамчыка, а паралельна з імі апавяданні папулярных заходніх пісьменнікаў, не раз лавіў сябе на думцы, што некаторым нашым празаікам, каб стаць чытэльнымі ў Еўропе, у першую чаргу не хапае якраз яе — добрай рэкламы, якую мы традыцыйна недацэньваем.

Што ж да нашага чытача, то ён традыцыйна прызнае ў асноўным тое, што спачатку прызнае ўвесь свет. Ці хоць бы нашы суседзі, што таксама для яго важкі крытэрый значнасці нацыянальнага твора.

●

Пазалетась у Англіі было выдадзена больш за 100 000 найменняў кніг! Пры гэтым агульная тэндэнцыя зніжэння кнігарнямі коштаў на кніжную прадукцыю прывяла да таго, што цэны на дзіцячую літаратуру ўпалі на 40%.

У нас адваротны працэс прывёў да таго, што сёння кніга — ці не ўпершыню, прынамсі, за вельмі доўгі перыяд — каштуе даражэй, чым бутэлька гарэлкі (у 1986 годзе добры томік А.Ліндгрэн я купіў за 1р. 30 к.). Скажаце, кніга і павінна быць дарагой? Павінна. Як і электраэнергія, і плата за камунальныя паслугі, і грамадскі транспарт. Але ж — у багатай краіне.

(Заканчэнне на стар. 14 — 15)

## Само жыццё, як рака...

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры адзначыў 90-годдзе з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, перакладчыка Тараса Хадкевіча. З гэтай нагоды прайшла вечарына і адкрылася выстава "Само жыццё, як рака...". І гэта назва невыпадковая. Адзін з герояў рамана Тараса Хадкевіча "Песня Дзвіны" сказаў, што "жыццё, як берагі, а наш час — рака, і як нельга спыніць яе цячэння, так нельга спыніць наш час". Заходняя Дзвіна стала сімвалам творчасці пісьменніка.

На пачатку вечарыны гучалі словы пісьменніка, словы любові да роднай Бацькаўшчыны, да роднай Дзвіны, якія прачытаў артыст Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага Эдуард Гарачы. Намеснік міністра культуры Валерый Гедройц зазначыў, што імя Т. Хадкевіча добра вядома ў беларускай літаратуры. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава выказала свой расповед з успамінаў. Дзяўчынкай-школьніцай яна ўпершыню ўбачыла Тараса Хадкевіча-журналіста, які прыехаў на сустрэчу. Малады, прыгожы — ён звярнуў на сябе ўвагу. Шчыры, адкрыты чалавек — такім ён застаўся ў памяці тых, хто з ім сустракаўся. Самыя цёплыя словы пра свайго сябра, сказаў пісьменнік Алесь Савіцкі. Пра літаратурнае жыццё Полаччыны паведаміў Сяргей Панізнік. Было вельмі прыемна, што на адкрыццё выставы прыехалі землякі — выступіла былая загадчыца Верхнядзвінскай бібліятэкі Валянціна Крук. Шчырыя словы падзякі ўсім, хто прымаў удзел у стварэнні выставы, выказалі дзеці пісьменніка — Івета і Леанід Хадкевічы.

На выставе прадстаўлены архіў Тараса Хадкевіча, частка якога належыць музею. Можна ўбачыць арыгінальныя фотаздымкі, рукапісы, асабістыя рэчы, часопісы 30—40-х гадоў, творы пісьменніка, кнігі з дароўчымі надпісамі сяброў і калег. Дапаўняюць літаратурную частку мастацкія творы (жывапіс, графіка), якія ўводзяць нас у той час, калі жыў і працаваў Тарас Хадкевіч, дазваляюць дакрануцца да таго куточка зямлі, дзе нарадзіўся пісьменнік, спазнаць крыніцу яго натхнення.

Дзякуючы мастацкаму рашэнню Генадзя Чыстага, выстава атрымалася шчырай і светлай. Няма Тараса Хадкевіча, але засталіся яго кнігі — сведкі свайго часу і добрая памяць для ўсіх.

**Вольга ГУЛЕВА**

## Зроблена ў СССР

У філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, гасцёўні У. Галубка, адбылося адкрыццё выстаўкі Яўгена Епанчынцава "Сделано в СССР".

Я. Епанчынцаў — вядомы ў Забайкаллі фотарэпарцёр, фотамастак. Ён амаль чвэрць стагоддзя прафесійна працуе ў гэтай галіне мастацтва.

З 80-ых гадоў фотаработы Яўгена Валянцінавіча друкуюць у розных выданнях: "Комсомольская правда", "Собеседник", "Известия", "Литературная газета", "Московские новости" і інш., ён прымае актыўны ўдзел ва ўсесаюзных і міжнародных фотавыстаўках.

Галоўны творчы дэвіз майстра — уменне бачыць у звычайным незвычайнае. Уважлівае вока фотакарэспандэнта ловіць імгненні жыцця, праз якія праўдзіва раскрываецца сутнасць падзей.

З 1998 г. Я. Епанчынцаў працуе ў абласной грамадска-палітычнай газеце "Забайкальский рабочий".

Выстаўка "Сделано в СССР" арганізавана сумесна з адміністрацыяй Чыцінскай вобласці, адміністрацыяй горада Чыта і прадстаўніцтвам Чыцінскай вобласці у РБ.

На яе адкрыцці свае ўражанні выказалі дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ З. Кучар, дырэктар прадстаўніцтва Чыцінскай вобласці А. Аўраменка, саветнік пасольства РФ А. Емузаў, прадстаўнік Міністэрства культуры РБ У. Уродніч, старэйшы карэспандэнт ІТАР-ТАСС у РБ А. Фамін.

**Т. СМАЛЮГА,**
**навуковы супрацоўнік гасцёўні У. Галубка**

Алесь ПАШКЕВІЧ

# Краса і сіла

## Максім БАГДАНОВІЧ і Сымон ПЯТЛЮРА

***Тэма гэтага артыкула — нечаканая, нават сенсацыйная. Жыццяпіс класіка беларускай літаратуры ўжо, здавалася, да драбніц даследаваны і вывучаны. А тут — такі "паварот": стасункі хрэстаматыйнага Багдановіча і Пятлюры, атамана-бандыта ў часе савецкім і нацыянальнага героя на Украіне незалежнай!***

Спалучанасць Максіма Багдановіча з украінскім нацыянальна-адраджэнскім рухам, з Украінай, безумоўна, відавочная. Упершыню залюбавацца, зачаравацца багатымі прасторамі суседкі сваёй Беларусі (бясконцымі стэпамі, азёрамі жытоў і сланечнікаў, сцэнамі пірамідальных таполяў, ціхімі і працавітымі вёскамі) паэт змог падчас свайго першага падарожжа ў Ялту — на пачатку лета 1909 года. Прычым ехаў М.Багдановіч праз Украіну ўжо не "чужым" ёй: у 1908-м выйшла кніга ўкраінскага вучонага Іларыёна Свяціцкага "Відродження білоруського письменства", у якой упершыню ў крытычнай літаратуры згадвалася імя на той час семнаццацігадовага М.Багдановіча і прыводзіўся ўрывак з яго дэбютнага апавядання "Музыка". Першы пераклад агульных твораў таксама з'явіўся на Украіне. 10 мая 1909 года кіеўская газета "Рада" надрукавала верш М.Багдановіча "Прыйдзе вясна" (у перакладзе на ўкраінскую мову М.Удавічэнкі). А праз тры месяцы — у верасні 1909-га — у часопісе "Літературно-науковий вістнік" (T.XVII, кн.9) былі змешчаны вершы "Прыйдзе вясна" і "Над магілай" у перакладзе М.Шапавалава. (Да прыкладу, першы пераклад вершаў М.Багдановіча парускy надрукаваны толькі 2 мая 1910-га — праз год пасля ўкраінскага, першы верш Максіма Кніжніка на польскай мове з'явіўся ў верасні 1913-га.)

Прапагандаваў украінскую літаратуру і М.Багдановіч. У 1909—1911 гадах ён пераклаў з украінскай вершы А.Крымскага ("Кажуць людзі, быццам творчы мужчыну..."), М.Чарняўскага ("Ужо зноў не спаткаюцца тыя шляхі...") і Олеся ("Пекла было тут у тую часіну..." і "Астры"),— усе чатыры ўвайшлі ў яго паэтычны зборнік "Вянок".

Шляхі ж М.Багдановіча і С.Пятлюры скрыжаваліся на пачатку 1914 года, а пазнаёміў беларуса і ўкраінца... Тарас Шаўчэнка. Да стагоддзя з дня нараджэння гонару і славы Украіны Т.Шаўчэнкі М.Багдановіч перакладае на рускую мову нізку яго вершаў, а ў N 2 часопіса "Украинская Жизнь" друкуе артыкул "Краса и сила (Опыт исследования стиха Т.Г.Шевченко)".

"Украинская Жизнь" — яшчэ і да нашых дзён мала вывучаная і неацэненая багатая старонка не толькі ў спадчыне ўкраінскага адраджэнска-культурнага руху, але і ва ўкраінска-беларускіх культурных узаемасувязях. Гэты нацыянальны і прагрэсіўны штомесячны навукова-літаратурны і грамадска-палітычны часопіс выдаваўся ў Маскве на працягу 1912—1917 гадоў. Рэдагаваў яго Сымон Пятлюра, рэдактарам-выдаўцом значыўся Я.А.Шарамеценскі.

Хутчэй за ўсё М.Багдановіч даведаўся пра маскоўскі часопіс "Украинская Жизнь" ад свайго брата Лёвы, які вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага універсітэта (вядома ж, у Расійскай імперыі гэтае нацыянальнае і незалежніцкае выданне не вельмі рэкламавалася), даведаўся — і паслаў у рэдакцыю тэкст артыкула "Краса и сила..." (трынаццаць старонак у лінейку, спісаных чорным чарнілам, дробным акуратным почыркам) па пошце з Яраслаўля, дзе на той час жыў. На тэксце М.Багдановіча рэдактарам "Украинской Жизни" зроблена некалькі правак: замест "утвержденного Пушкиным в русской поэзии" засталося "пушкинского", замест "близкие по духу народной поэзии" — "народны", "необыкновенно изящным" заменена "мелодичным и изящным". (Названы аўтограф артыкула М.Багдановіча ў рэдактуры С.Пятлюры захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Украіны (ф.1, адз.зах.11226)).

Думаецца, што не без уплыву С.Пятлюры М.Багдановіч зацікавіўся гісторыяй украінскага казацтва (пасля выключэння з Палтаўскай духоўнай семінарыі С.Пятлюра разам з праф.Шчарбінам доўгі час збіраў і ўпарадкаваў матэрыялы па гісторыі Кубанскага казацкага войска), як — хутчэй за ўсё — не без гэтага ж уплыву беларускі паэт пачаў вывучаць і папулярызаваць адметнасць Галіччыны, дарагога для С.Пятлюры кутка маці-Украіны. У 1914 годзе М.Багдановіч стварыў цыкл артыкулаў "Украинское казачество", "Червонная Русь", "Угорская Русь", "Образы Галицы в художественной литературе" і інш. Некаторыя з іх выходзілі асобнымі брашурамі — невыпадкова там жа, дзе друкаваўся і часопіс С.Пятлюры. У раздзеле "Литературная летопись" ва "Украинской Жизни" быў змешчаны кароткі водгук на брашуру "Червонная Русь": "Среди популярной литературы, посвященной Галицыи, выделяется небольшая брошюра М.Богдановича "Червонная Русь", объективно-научным отношением к трактуемой теме, знанием *предмета и ясностью стиля*" ("Украинская Жизнь", 1915, N 1-2).

У № 11-12 "Украинской Жизни" за 1914 год быў апублікаваны артыкул М.Багдановіча "О гуманизме и неосмотрительности", дзе, абараняючы правы беларускага народа (як і наогул кожнага народа) на самастойнае нацыянальнае развіццё, выкрывалася шкодная паланізатарская і русіфікатарская палітыка некаторых "гуманістаў".

А ў снежні 1915 года М.Багдановіч прыязджаў у Маскву, сустракаўся і знаёміўся з многімі літаратарамі, выдаўцамі, навукоўцамі (да прыкладу, гісторыкам У.Пічэтам). Верагодна, тады і адбылося вочнае знаёмства М.Багдановіча з С.Пятлюрам: супрацоўніцтва пасля гэтага становіцца яшчэ больш актыўным. Адразу ж пасля прыезду з Масквы М.Багдановіч у газеце "Голос" (ад 16 студзеня 1916 года) друкуе сваю рэцэнзію-анатацыю на "Украинскую Жизнь" — на цэлы цыкл 1915 года.

У сваёй рэцэнзіі-анатацыі на часопіс С.Пятлюры М.Багдановіч выяўляў добрую абазнанасць ва "ўкраінскім пытанні", калі пісаў: "Ход событий выдвинул украинский вопрос и доставил ему очень заметное место среди проблем международной политики. В странах с высоко развитой политической жизнью *это быстро повело к основанию* органов печати, информирующих публику о современном состоянии украинства<...>. Такие органы существуют, например, на французском, немецком, английском языках; литература, практикующая об украинстве, печатается даже по-турецки, мадьярски, румынски, шведски, сербски..." Адзначыўшы, што часопіс "Украинская Жизнь" "стоит на национальной украинской точке зрения", М.Багдановіч змог дасціпна пакрытыкаваць "*результат прекращения украинской прессы в России*", а першым сярод таленавітых і яркіх аўтараў "Украинской Жизни" назваў... С.Пятлюру! "Ярче всего отдел публицистики,

# Маё пакаленне... і ўсе-ўсе-ўсе

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

●

Тое, што ў Італіі процьма выдавецтваў, наўрад ці каго здзівіць. Дзіўна іншае: больш за 70 з іх рэгулярна выдаюць паэтычныя зборнікі, хоць і не лічаць гэту справу прыбытковай. Але, прыслухаўшыся да сябе, разумееш: якое тут здзіўленне — звычайная зайздрасць, якая паступова пераходзіць у сум і крыўду ледзь не на ўвесь свет. Балазе, і гэтыя пачуцці ў душы доўга не затрымліваюцца.

●

Сітуацыя з дзяржаўным кнігавыданнем сёння блізкая да абсурду. Выдавец папярэдне рассылае ў гандлёвыя арганізацыі тэматычныя планы на наступны(!) год і просіць, каб там заказалі як мага больш кніг (і найменняў, і экземпляраў). "Дык як жа я магу іх шмат заказаць, — лагічна заўважае гандляр, — *калі не ведаю іх кошту?*" На што выдавец таксама лагічна адказвае: "А як жа я магу сказаць, колькі яны будуць праз год каштаваць? Гэта залежыць ад кошту на паперу, на друкарскія паслугі — адным словам, ад эканамічнай сітуацыі ў краіне. Ну, і, вядома ж, ад таго, колькі экземпляраў той ці іншай кнігі вы закажаце". "Дык як жа я магу шмат заказаць..." — быццам рэха, даносіцца да выдаўца.

Але вось жа нейкім чынам яшчэ ўхітраецца "Юнацтва" збіраць не такія і малыя на сённяшні дзень тыражы на свае кнігі: з і больш тысяч экземпляраў, лішні раз даказваючы, як шмат у гэтым свеце залежыць ад канкрэтных людзей, якія раптам у патрэбны час апынаюцца на патрэбным месцы.

●

Любая нацыянальная літаратура — унікальная збудаванне, якое пастаянна прырастае новымі прыбудовамі — самастойнымі і ў той жа час у многім залежнымі ад яго. Не стане літаратуры — непазбежна дэфармуецца ўсё астатняе: тэлебачанне, радыё, тэатр, эстрада, школа (ад пачатковай да вышэйшай), нават газетная журналістыка, якая быццам бы ад яе не дужа залежная, а на самай справе без яе будзе задыхацца, як астматык.

Але, на шчасце, гэтае унікальнае *збудаванне нельга проста так узяць і* разбурыць — як усё, што з'яўляецца тварэннем не толькі рук чалавечых. Падругое, цяжка разбурыць тое, што само пастаянна ўсё яшчэ будуецца, і гэтаму працэсу няма канца. Урэшце, літаратура існуе і развіваецца не толькі *дзякуючы* нечаму ці некаму, але і *насуперак*. Так было ва ўсе вякі, варта зірнуць на дату напісання таго ці іншага геніяльнага твора і ўспомніць гісторыю, час, у які яно стваралася — дзякуючы ці насуперак яму.

●

Змяншэнне попыту на сур'ёзную літаратуру непазбежна змушае яе шукаць новыя формы, а значыць — развівацца. Традыцыяналізм і наватарства, эксперымент мусяць не проста суіснаваць, але і ўзаемадапаўняць адно другое. *Пэтэнцыяльны прэтэндэнт на Нобелеўскую прэмію* сербскі пісьменнік Мілард Павіч піша "камп'ютэрныя раманы", імкнучыся спалучаць тэкст з вывяай — крыжаванкамі, картай зорнага неба, шахматамі і г.д. І лічыць, што менавіта за гэтым стаіць будучыня літаратуры.

Ці здольны мы на падобныя эксперыменты? Ці падрыхтаваныя мы да такой будучыні? Ці ўяўляем мы чытача такой *літаратуры — найперш тут, у сябе дома?* Зрэшты, сёння мы, здаецца, кепска ўяўляем *увогуле* чытача, а часцей і зусім гаворым, што пішам *для сябе*.

●

Часта можна пачуць: нас, пісьменнікаў, не паважаюць,з намі не лічаца, да нас не прыслухоўваюцца. Але і ці не мы самі прыніжаем сваю ролю ў грамадскім жыцці — найперш праз цікавыя літаратурныя творы? Напрыклад, пошук і нясенне ў масы *нацыянальнай ідэі, пра што сёння шмат* гавораць, — задача якраз найперш літаратуры. Іншая справа, што справіцца з такой задачай не дужа проста. Асабліва, калі жыць адчуваннем, што ўсё ўжо сказана. А гэта — тупіковы шлях у развіцці любой літаратуры.

●

Самая вялікая праблема для нас заключаецца не ў тым, што становіцца менш чытачоў сур'ёзнай літаратуры *ўвогуле*, а ў *тым, што становіцца ўсё менш носьбітаў* беларускай мовы. Аднак вось што цікава. Сёння беларускамоўныя кнігі ў асноўным асядаюць у Мінску, дзе, відавочна, самы малы працэнт жыхароў у быце карыстаецца роднай мовай. Тым не менш, кнігі разыходзяцца. Значыць, не карыстацца беларускай мовай, не валодаць беларускай мовай і лічыць, што беларуская мова сама па сабе можа быць перашкодай для атрымання пэўнай інфармацыі — тры зусім розныя рэчы. А гэта ў сваю чаргу ці не значыць, што канец айчыннай літаратуры зноў адкладваецца на няпэўны тэрмін?

особенно ценный статьями С.Петлюры и М.Грушевского" (Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т.— Т.2, 1993.— С.395).

Урэшце, тое ж мог сказаць хтосьці і пра самога М.Багдановіча: у 1915 годзе "Украинская Жизнь" змясціла ягоны сімвалічна-знакавы нарыс "Белорусское возрождение" (памерам у адзін улікова-выдавецкі аркуш), нарыс, які ў 1916-м быў аддрукаваны з наборных формаў "Украинской Жизни" асобнай брашурай і затым асобна перавыдадзены на ўкраінскай мове ў Вене.

Вядома, што вялікі ўплыў на С.Пятлюру зрабіў класік украінскай літаратуры, выдатны вучоны і грамадскі дзеяч Іван Франко. Менавіта пад уплывам сяброўства з Франко Пятлюра пачаў актыўна выяўляцца ў літаратурнай крытыцы, публіцыстыцы, прапаноўваць свае артыкулы ў розныя ўкраінскія выданні. (Сярод іх была і рэцэнзія на надзвычай важную для Беларусі кнігу 1908 года Дарашэнкі "Беларусы ды іхняе нацыянальнае пытанне". "...кніжка Дарашэнкі робіць цудоўнае ўражанне на чытача й сваёй тэмаю, і <...> тым прыхільным да беларусаў тонам, якім яна напісана. Выдавецтва "Український Учитель" зрабіла выдатную паслугу грамадству тым, што выдала брашуру пра беларусаў ды пра іх нацыянальнае адраджэнне",— пісаў у той рэцэнзіі С.Пятлюра (цыт. па: Спадчына.—1994, № 4.— С.86).

Якраз з 1915 года творчасцю І.Франко актыўна зацікавіўся М.Багдановіч: пераклаў ягонае апавяданне "Муляр" і верш "На рацэ Вавілонскай", зрабіў уступнае слова да публікацыі, а ў чэрвені 1916 года з болем і смуткам у душы адгукнуўся шчырым артыкулам на смерць пісьменніка (часопіс "Жизнь для всех").

Праз месяц пасля прыезду з Масквы М.Багдановіч мог чытаць ва "Украинской Жизни" свой новы артыкул "На белорусские темы" (1916, № 2). Гэта быў своеасаблівы палемічны працяг ягонай папярэдняй публікацыі ў часопісе С.Пятлюры — артыкула "О гуманизме и неосмотрительности". У новай публікацыі вялася гаворка пра неабходнасць адмены нацыянальных праваабмежаванняў, пра беларускую мову ў богаслужэнні, школьніцтве і дзяржустановах, пра рэпрэсаванне нацыянальных сілаў народа,— пра нацыянальны лёс беларусаў. У другім раздзеле артыкула "На белорусские темы" М.Багдановіч смела пісаў пра дзяржаўную самастойнасць Беларусі і Украіны. Можна толькі захапляцца і ўражвацца смеласцю рэдактара і выдаўца "Украинской Жизни", якія падпісвалі такі — падчас вайны расійскай імперыі — крамольны тэкст у друк!

У № 7-8 "Украинской Жизни" за 1916 год быў надрукаваны грунтоўны артыкул М.Багдановіча пра творчасць Уладзіміра Самійленкі, а ў № 11 і 12 — пра адметнасць паэтычнага таленту Грыцько Чупрынкі. Сваю апошнюю публікацыю ў выданні С.Пятлюры — артыкул "Деятельность Минского Белорусского комитета" — М.Багдановіч пабачыў, калі ўжо збіраўся ў лютым 1917 года ў апошнюю дарогу ў Ялту — паміраць...

Праз год у Вільні (пакуль яшчэ беларускай) пачаў выдавацца беларускі нацыянальны літаратурна-грамадскі часопіс, назва якога была нібыта падказана выданнем С.Пятлюры — "Беларускае Жыццё" (рэдагаваў яго пісьменнік і грамадскі дзеяч Францішак Аляхновіч).

А за жыццё — і ўкраінскае, і беларускае — мусілі змагацца. 29 чэрвеня 1917 года С.Пятлюра стаў вайсковым міністрам у Генеральным Сакратарыяце Украіны. Пасля кастрычніцкага перавароту бальшавікі, пераадолеўшы супраціў войска Пятлюры, занялі Кіеў... 22 студзеня 1918 года прыняты Універсал аб незалежнасці Украінскай Народнай Рэспублікі. Праз два месяцы — 25 сакавіка — незалежнай абвяшчаецца і Беларуская Народная Рэспубліка...

Далейшы нацыянальны лёс рэспублік-суседак, рэспублік-сясцёр быў амаль тоесным: пераварот і падзел улады на Украіне ("кабінет" гетмана Скарападскага і Дырэкторыя Віннічэнкі) — і на Беларусі (Народная Рада і Найвышэйшая Рада); цяжкі супраціў бальшавікам украінскага войска пад ачолам Галоўнага атамана С.Пятлюры — і супраціўленне "чырвоным" беларускіх атрадаў пад камандаваннем міністра вайсковых спраў першага ўрада БНР Кастуся Езавітава і "бацькі-атамана" Булак-Балаховіча (некаторыя аддзелы войска Пятлюры заходзілі на тэрыторыю беларускага Палесся і змагаліся разам з балахоўцамі).

Нацыянальна-вызвольны рух пачатку XX стагоддзя абуджаў да жыцця палымяных патрыётаў, адраджэнцаў, ваяроў, асветнікаў, публіцыстаў. І ўкраінец С.Пятлюра, і беларус К.Езавітаў (літаратары, журналісты, выдаўцы, педагогі, навукоўцы, вайскаводцы: першы — Галоўны атаман войскаў УНР, другі — кіраўнік і генерал войска БНР) таленавіта спалучалі ўсе тыя іпастасі. І мусілі падавацца ў эміграцыю, плаціць расстанням з Радзімай, а пазней — жыццём: Сымона Пятлюру бальшавікі забілі ў Парыжы ў 1926 годзе, Кастуся Езавітава знішчылі ў 1946-м...

# Вяртанне падзвіжніка

У апошні дзень зімы, 28 лютага гэтага года, у канферэнц-зале Мінскага Епархіяльнага Упраўлення адбыліся чарговыя, IX, Епархіяльныя чытанні — адно з тых мерапрыемстваў, якія аб'ядноўваюць служыцеляў царквы і міран — навуковую і творчую інтэлігенцыю на глебе сумеснага служэння духоўнасці грамадства. IX Епархіяльныя чытанні мелі назву "Жыццё і дзейнасць архімандрыта Лявонція (Карповіча; 1580-1620) як узор духоўнага настаўніцтва і падзвіжніцтва".

Постаць Лявонція Карповіча для шырокага грамадства малавядомая. А між тым у гісторыі нашай краіны гэты чалавек адыграў адметную ролю. Дзякуючы яму была арганізаваная друкарская дзейнасць праваслаўных брацтваў, з'явілісі шмат якія выключна важныя для станаўлення нацыянальнага пісьменства выданні, у тым ліку казані Кірылы Тураўскага, "Фрынас" Мялеція Смятрыцкага. За выданне апошняга твора архімандрыт Лявонцій быў арыштаваны, перацярпеў шмат пакутаў. Дарэчы, аўтар "Фрынаса", Мялецій Смятрыцкі, вучань і паплечнік Лявонція Карповіча, не вызначыўся "стаяннем у веры", як яго настаўнік, перамяніў свае погляды пад націскам рэальнай небяспекі. Лявонцій Карповіч і сам быў выдатным пісьменнікам, пра што, на жаль, забываюць. Яго казані — узор высокай духоўнасці і літаратурнага майстэрства. Мужнасць архімандрыта Лявонція ў адстойванні сваіх перакананняў, у абароне веры продкаў заслугоўвае захаплення і павагі.

Чытанні пачаліся з Ліціі ў памяць архімандрыта Лявонція Карповіча ў дамовай царкве Мінскага Епархіяльнага Упраўлення.

Вёў рэй а. Георгій Латушка. Уступнае слова сказаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх Беларусі Філарэт. Уладыка прывітаў удзельнікаў чытанняў, якія прыехалі з розных гарадоў і нават краінаў, распавёў пра сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы 31 студзеня гэтага года, які прыняў рашэнне аб кананізацыі Экзарха Нікіфара Кантакузіна. Святы Нікіфар гэтак жа, як і Лявонцій Карповіч, прыняў пакуты за адстойванне праваслаўнай веры. Уладыка Філарэт адзначыў, што наступным можа быць кананізаваны архімандрыт Лявонцій.

Любоў Ляўшун, кандыдат філалагічных навук, дацэнт факультэта тэалогіі ЕГУ, займаецца даследаваннем жыцця і дзейнасці Лявонція Карповіча досыць працяглы час. Вынікам стала кніга, якая пабачыла свет зусім нядаўна і была прадстаўлена ўдзельнікам чытанняў. Л.Ляўшун адзначала, што асоба Л.Карповіча — вельмі загадкавая. Доўгі час пра гэтага дзеяча нават не згадвалася ў гістарычных крыніцах. А між тым дакладчыца вядома, што пасля яго смерці труна з яго нятленнымі мошчамі, на якіх былі бачныя сляды катаванняў, захоўвалася ў Свята-Духавым саборы ў Вільні. На сённяшні дзень месцазнаходжанне мошчаў невядомае. Выклікае здзіўленне, што Лявонцій Карповіч, хваравіты ад прыроды, змог вытрываць два гады падземнай турмы і штодзённых катаванняў, не адрокся ад сваёй веры. Знясілены хваробай, стаўся рухавіком арганізацыі братскага руху, кнігадрукавання, духоўнай палемікі.

Пра экзарха Нікіфара Кантакузіна і Брэсцкі царкоўны сабор 1596 года распавяла Валянціна Цяплова, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУ, прафесар МнДА і С. У той нялёгкі час, калі грамадства нашай краіны падзялялася на тых, хто ішоў на рэлігійны кампраміс і такім чынам захоўваў ляяльнасць у вачах уладаў, і тых, хто заставаўся верны рэлігіі бацькоў, і такім чынам апынуўся "апазіцыянерам", вельмі шмат залежала ад мужнасці і непадкупнасці іерархаў царквы і асоб, маючых свецкую ўладу. Святы благаверны князь Канстанцін Астрожскі быў адным са свецкіх асобаў, што супрацьстаялі палітычна-рэлігійнаму ўціску. А экзарх Нікіфар стаяў на чале царкоўных іерархаў, што , не збаяўшыся пераследаванняў, адстойвалі права праваслаўных спавядаць сваю веру на гэтай зямлі. Св. Нікіфар быў пасаджаны ў Мальбаргскі замак як "турэцкі шпіён" і там закатаваны голадам.

Даклад протаіерэя Сергія Гардуна , кандыдата багаслоўя, дацэнта МнДА і С , быў прысвечаны традыцыі падзвіжніцтва і святасці ў Праваслаўнай Царкве. А. Сергій расказаў пра сем прынцыпаў, па якіх вызначаецца прылічэнне асобы да ліку святых. Гэта вера царквы ў святасць гэтай асобы, пакутніцкая смерць або пакуты за веру Хрыстову, цудатварэнні па малітве святога або ад яго мошчаў; а таксама высокае царкоўнае служэнне, вялікія заслугі перад царквой, дабрадзейнае і святое жыццё, праяўленне знаменняў і цудаў. Ёсць і восьмы прынцып — вялікая пашана народа да асобы святога. Айцец Сергій адзначыў, што факты біяграфіі Лявонція Карповіча адпавядаюць названым патрабаванням. Варта адзначыць хаця б факт пахавання цела Лявонція Карповіча толькі пасля шасці тыдняў — сведчанне нятленнасці.

Пра гісторыю друкарні Віленскага Свята-Духава праваслаўнага брацтва распавалі Пётр Хомік, магістр гісторыі, навуковы супрацоўнік Інстытута сацыялогіі універсітэта ў Беластоку, прадставіў грунтоўны даклад, а таксама расказаў пра праваслаўную літаратуру, якая сёння выходзіць у Польшчы. Доктар філалагічных навук, загадчык аддзела Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікола Нікалаеў.

Пасля перапынку прагучала прывітальнае слова да ўдзельнікаў чытанняў ад прадстаўнікоў Літоўскай епархіі праваслаўнай царквы.

Протаіерэй Міхаіл Пінчук, кандыдат багаслоўя, сакратар Пінскага ЕУ расказаў пра праваслаўе на Піншчыне ў XVI-XVII стст. Кандыдат эканамічных навук Уладзімір Кісялёў прысвяціў свой даклад незаслужана забытаму твору беларускай палемічнай літаратуры — "Палінодыі" Захарыя Капысценскага. Грунтоўны даклад Алены Яскевіч, кандыдата філалагічных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры, меў назву "Архімандрыт Лявонцій Карповіч і этапы станаўлення школы старабеларускага біблейскага перакладу". З цікавасцю былі выслуханыя таксама даклады протаіерэя Георгія Сокалава, дацэнта Мінскай духоўнай акадэміі у Жыровічах і іераманаха Паула Цімафеенкава, бакалаўра багаслоўя, загадчыка Рэгентскай школы пры МнДС у Жыровічах. Прадстаўнік навуковай грамады Брэста, Алег Брэскі, аспірант Маскоўскага універсітэта, ахарактарызаваў час, у якім жыў Лявонцій Карповіч, як у многім аналагічны сённяшняму. Тады, як і цяпер, перад нашым народам паўставалі культурна-нацыянальныя праблемы. Царква пачынала памылкова ўспрымацца як культурны тып, палеміка між канфесіямі набыла нацыянальны характар.

Прафесар БДУ, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры славянскіх літаратур Іван Чарота прысвяціў свой вострапалемічны даклад часу і асяроддзю архімандрыта Лявонція Карповіча ў сучасным асвятленні. І.Чарота адзначыў шматлікія памылкі ў асвятленні постацяў гісторыі праваслаўя, якія допускаюцца ў сучаснай інфармацыйнай прасторы, неаб'ектыўнасць гістарычнай ацэнкі уніі, якой часта прыпісваецца "прагрэсіўная" роля ў параўнанні з "кансерватыўным" праваслаўем, і такім чынам хрысціянская мадэль светаўспрымання падмяняецца антрапацэнтрычнай, а рэлігія — палітыкай.

Генадзь Шэйкін, каардынатар прадстаўніцтва ЦНЦ "Праваслаўная энцыклапедыя" пры Беларускім Экзархаце, рэферэнт МЕУ распавёў пра стан царкоўна-гістарычных даследаванняў на сучасным этапе. Дакладчык адзначыў, што мы яшчэ мала ведаем пра мучанікаў за веру перыяду апошняй вайны, а таксама ганенняў на веру 60-70-х гадоў, пра беларускіх святароў, што ў выніку пераследаванняў апынуліся за мяжой, дзе працягвалі сваю дзейнасць.

Інак Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра Мікалай, вядомы беларускаму грамадству як паэт Алег Бембель, пачаў сваё выступленне з верша. Інак Мікалай выказаў занепакоенасць іншаверная акупацыяй, якая адбываецца праз сродкі масавай інфармацыі, а таксама распавёў пра выданне "Жыровіцкая абіцель", 26 выпускаў якога ўжо пабачылі свет. Закончыў сваё выступленне дакладчык зноў жа вершам.

Напрыканцы чытанняў Уладыка Філарэт падзякаваў усім, хто браў у іх удзел, выказаў надзею, што супрацоўніцтва паміж царквой і навукова-творчай інтэлігенцыяй працягнецца надалей і будзе мець гэткі ж плённы характар.

**Л.ШНІП**

●

Узаемасувязь нацыянальнай літаратуры з эканомікай часам значна перабольшваецца. Прынамсі, на развіццё нацыянальнай літаратуры, думаецца, куды больш уплывае літаратура сусветная — незвычайны стымул-допінг "на любых дыстанцыях".

●

Зацяжная вайна *ў літаратуры*, хочам мы таго ці не, адначасова з'яўляецца яшчэ і вайной *з літаратурай*. Як і ў любой вайне, у ёй неабавязкова могуць быць пераможцы, але ў ёй непазбежна бываюць страты.

●

Не першы дзень ходзяць чуткі пра тое, што быццам бы некаторыя нашы літаратары хочуць аддзяліцца і стварыць свой Саюз пісьменнікаў. Стварыць, вядома, можна: і два, і тры, і чатыры саюзы. Але слова "аддзяліцца" не такое бяскрыўднае, у дадзенай сітуацыі, як можа падацца на першы погляд. У пэўным сэнсе яно сінанімічна слову "разбурыць". Разбурэнне ж справа няхітрая, а вось аб'яднанне... Ці гатовы да гэтага тыя, хто хоча аддзяліцца? І якія важкія прычыны пабуджаюць іх рашыцца на такі крок? Ідэалагічныя? Нешта я не чуў, каб калі пісьменнікі па ідэалагічных прычынах хапаліся за чубы. Ды і якая ідэалогія ў пісьменніка: абарона роднай мовы, культуры, сваёй годнасці і годнасці сваіх калег, ну, а шырэй — годнасці сваёй Айчыны. Гэтай ідэалогіі прытрымліваліся Купала і Колас, Куляшоў і Мележ, Танк і Панчанка, Караткевіч, Стральцоў... Няўжо сёння яе трэба мяняць? Прычыны ж, думаецца, хутчэй іншыя — матэрыяльнага характару. Яно, вядома, галодны заўсёды злосны, але дальбог няма нічога больш непрыемнага, чым назіраць за барацьбой за кавалак мяса (яшчэ незабітага зайца): раз для таго, каб атрымліваць добрую матэрыяльную падтрымку, патрэбны новы (яшчэ адзін) саюз, значыць, з гэтага вынікае (па разуменні тых, хто да яго імкнецца), што і фінансавацца будзе толькі ён — інакш навошта аддзяляцца?!

●

Некалі румынскія пісьменнікі займелі для патрэб свайго саюза не проста памяшканне, а цэлы палац у цэнтры Бухарэста. Цяпер яны яго здаюць пад казіно, атрымліваючы праз гэта немалы прыбытак. Плюс — у краіне існуе закон, згодна якому з кожнай кнігі, што выходзіць у Румыніі, 1 — 2% ад яе кошту пералічваюцца на рахунак Саюза пісьменнікаў.

Такім чынам былі вырашаны адразу некалькі праблем — як палітычнага, так і эканамічнага характару. Здзіўляе не тое, якім простым аказалася рашэнне даволі далікатнай праблемы. Здзіўляе, як мала патрэбна нацыянальнай літаратуры, каб, прынамсі, не адчуваць сябе прыніжанай. А прыніжанасць літаратуры, як вядома, прыніжае і саму нацыю.

І не трэба думаць, што Румынія з'яўляецца нейкім выключэннем у адносінах дзяржавы да сваёй літаратуры. Так, напрыклад, калі Польшча знаходзілася прыкладна ў такой сітуацыі, у якой знаходзімся мы сёння, выдаўцоў абавязалі плаціць творцу за *аўтарскі ліст* суму, якая прыраўноўвалася да месячнага заробку высокакваліфікаванага рабочага. А што ўжо казаць пра даволі распаўсюджаную ва ўсім свеце форму падтрымкі ў тым ліку і нацыянальнай літаратуры, калі падаткаплацельшчыкі маюць права частку сваіх падаткаў пералічваць менавіта на развіццё культуры. Увогуле, варыянтаў шмат — аж да таджыкскага: у краіне, далёка не самай багатай, два гады таму пісьменнікам устанавілі штомесячную стыпендыю ў 100 даляраў. Не думаю, што таджыкская літаратура пасля гэтага адразу паднялася на значна больш якасны ўзровень, але і хлебароб, выходзячы ўвесну ў поле, не ведае, які ўраджай ён збярэ ўвосень. Аднак жа сее, бо без гэтага не выжыве фізічна, як нацыя без уласнай культуры асуджана на духоўнае вынішчэнне.

**Кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя БДУ выказвае глыбокае спачуванне члену-карэспандэнту НАН Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару Алегу Антонавічу ЛОЙКУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці жонкі Лідзіі Іванаўны.**

**Рэктарат БДУ, дэканат і калектыў філалагічнага факультэта выказвае глыбокае спачуванне члену-карэспандэнту НАН Беларусі доктару філалагічных навук, прафесару Алегу Антонавічу ЛОЙКУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці жонкі Лідзіі Іванаўны.**

**Калектыў супрацоўнікаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае шчырае спачуванне даўняму сябру музея, вядучаму купалазнаўцу, члену-карэспандэнту НАН Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару Алегу Антонавічу ЛОЙКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Святлане Алексіевіч з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці маці Яўгенні Пятроўны.**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## У Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі

**3-4 кастрычніка 2002 года ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі мае адбыцца Міжнародная навуковая канферэнцыя "Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі.**

У канферэнцыі акрэслена наступная праблематыка:
— Янка Купала і Якуб Колас — класікі сусветнай літаратуры;
— параўнальна-гістарычнае вывучэнне творчасці Купалы і Коласа;
— эдыцыйная еўрапейская практыка і праблема навуковага выдання спадчыны Купалы і Коласа;
— традыцыі Купалы і Коласа ў сучаснай беларускай паэзіі, прозе, драматургіі, літаратуразнаўстве, публіцыстыцы і інш.

У канферэнцыі, мяркуецца, прымуць удзел вядомыя літаратуразнаўцы Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі і іншых краін.

Канферэнцыя, трэба спадзявацца, пазначыць новы ўзровень асэнсавання літаратурна-мастацкай спадчыны Купалы і Коласа і распачне новы этап у коласазнаўстве і купалазнаўстве.

**Аргкамітэт**

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

*кафедра гісторыі музыкі*
дацэнт — 1;
*кафедра спецыяльнага фартэпіяна*
загадчык кафедры — 1;
дацэнт — 2;
*кафедра кампазіцыі*
прафесар — 1;
*кафедра фартэпіяна*
старшы выкладчык — 1;
*кафедра струнных народных інструментаў*
прафесар — 1;
дацэнт — 1;
*кафедра харавога дырыжыравання*
старшы выкладчык — 1;
*кафедра філасофіі*
дацэнт — 1;
*кафедра моў*
старшы выкладчык — 1;
*кафедра харэаграфіі*
прафесар — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.

Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.

## Запрашаем!

16 красавіка а 19 гадзіне ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зьніч" адбудзецца творчая вечарына паэтаў Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай "Мы прыдумалі..."

На вечарыне будуць прадстаўленыя новыя кніжкі: вершаў Віктара Шніпа "Інквізіцыя" і прозы Людмілы Рублеўскай "Старасвецкія міфы горада Б*".

У вечарыне бяруць удзел акцёры: Г. Дзягілева, Л. Горцава, У. Шэлестаў, М. Лявончык, музыкі з гурта "Харошкі", барды А. Мельнікаў, П. Русаў, А. Галіч, краязнаўца і выдавец М. Казлоўскі.

Імпрэза адбудзецца ў дольнай зале Чырвонага Касцёла на Плошчы Незалежнасці.



*Шпаку — па шпакоўні*

*Фота Ю.ЗАХАРАВА*

# ПАРОДЫІ

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Каханне па калена

Я цалаваў твае калені
. . . . . . . . . . . . . .
...Абдыму твае калені...
. . . . . . . . . . . . . .
Я быў тады нясмелы і дурны.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Пачытаю Сяргея Ясеніна.

**Міхась БАШЛАКОЎ**

Ты сказала, что Саади
Целовал лишь только в грудь.

**Сяргей ЯСЕНІН**

*Я тады пра кропкі эрагенныя*
*Чуць не чуў (вядома, малады).*
*Цалаваў цябе абы куды,*
*А найбольш — у чашачкі каленныя.*

*Ты ж мяне, дурнога і няўмелага,*
*Позіркам сярдзітым апякла.*
*Мроіліся мне калені белыя,*
*Калі ты за Прыпяць уцякла.*

*Я гукаў, а ты не адклікалася.*
*Як цябе мне сёння не стае!*
*Можа б, сумна так не атрымалася,*
*Каб зірнуў на грудзі я твае.*

*У самоце пачытаў Ясеніна,*
*І такі адкрыўся мне сакрэт,*
*Што пакуль душу не заасеніла,*
*Цалавацца мушу, як паэт.*

*А раней пра кропкі эрагенныя*
*Чуць не чуў (вядома, малады).*
*Цалаваў дзявок абы куды,*
*А найбольш — у чашачкі каленныя.*

### Далікатная просьба

*Ты — брат мой,*
*бо ты трошачкі сястра...*
*Людка Сільнова*
*Хоць з табой*
*пуд солі з'ела,*
*І раднімся мы*
*здаўна,*
*Я пакуль*
*не зразумела:*
*Ці ты — ён,*
*Ці ты — яна.*

*Разам бавім*
*час на працы*
*Зранку*
*і да цемнаты...*
*Каб даведацца,*
*хто ты,*
*Можна мне*
*цябе памацаць?*

***Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 26 красавіка 2002 г.***

# На хвалях Беларускага радыё

**У панядзелак, 15 красавіка, у 22.10 — "Музейныя тайны"**. Суразмоўца журналісткі Ганны Кашубы — пісьменнік, навуковец Вячаслаў Рагойша.

У праграме **"Роднасць"** у аўторак слухачы будуць мець магчымасць пазнаёміцца з навінамі літаратурнага працэсу Расіі.

**"Белы аркуш"** — так называецца аўтарская праграма журналісткі Святланы Шалімы. **У сераду, у 22.10,** яна знаёміць з маладой актрысай купалаўскага тэатра Юліяй Міхневіч.

Васіль Макарэвіч у праграме да 120-годдзя Купалы і Коласа гутарыць з дырэктарам філіяла коласаўскага музея ў Мікалаеўшчыне Юрыем Міцкевічам.

Героем праграмы Алёны Казлені **"Альфа і Амега"** ў пятніцу будзе вядомы рускі журналіст Улас Дарашэвіч.

У той жа дзень, у **17.30**, у праграме Святланы Дзевяткавай **"Пераплёт"** будзе рэпартаж з кніжнага рынку, гутарка з паэтам Алесем Бадаком.

У нядзелю, у 11.15, прагучыць перадача **"Роднае слова"**, а ў 15.30 **"Літаратурны праспект"** — аўтарская праграма Маргарыты Прохар — пазнаёміць вас з падзеямі літаратурнага жыцця, а рубрыку "Кніжныя навіны" на гэты раз будуць прадстаўляць пісьменніца Людміла Рублеўская і літаратуразнаўца Ганна Кісліцына.

## Новыя праекты

**"Сучасная літаратура ад задумы да твора"**, — так называецца новы праект Беларускага радыё, мэта якога — пазнаёміць слухачоў краіны з творчай лабараторыяй пісьменніка, прасачыць шлях ад задумы да ўвасаблення ў паэтычныя ці празаічныя радкі думак і пачуццяў творцы. Аўтары — Навум Гальпяровіч і Галіна Шаблінская — пачалі цыкл перадач з сустрэчы з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Шамякіным, прасачылі, як нараджаюцца яго "Начныя ўспаміны". **Перадача з цыкла "Сучасная літаратура: ад задумы да твора" будзе гучаць па пятніцах на першым канале радыё ў 22 гадзіны 10 хвілін.**

Яшчэ адзін праект Галіны Шаблінскай носіць назву **"Класіка: погляд сучасніка"**. Разам з крытыкамі і літаратуразнаўцамі аўтар паспрабуе па-новаму прачытаць ужо вядомыя класічныя творы, асэнсаваць іх.

Праект пад умоўнай назвай **"Тэатральны пад'езд"** падрыхтавала журналіст Святлана Шаліма. Ён адрасуецца аматарам тэатра. Слухачоў чакаюць цікавыя сустрэчы з вядомымі артыстамі, драматургамі, тэатральнымі крытыкамі, прагучаць унікальныя матэрыялы з фондаў радыё.

Яшчэ адна навінка радыёэфіру — **"Калі разгараюцца зоркі"** — зацікавіць тых, хто хоча бавіць час з вобразамі паэзіі і прозы. Яна будзе гучаць па пятніцах з нуля гадзін да гадзіны ночы. У арыгінальна аформленай праграме знойдзецца месца беларускай і сусветнай класіцы, дэтэктыву, прыгодніцка-фантастычнаму апавяданню, навеле, кампазіцыі паводле вершаў. Над праграмай будуць працаваць пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Ала Канапелька, Уладзімір Дзюба, Васіль Макарэвіч, журналісты Галіна Шаблінская, Зоя Каваленка, рэжысёр Валянціна Кернажыцкая і іншыя.

***Як самую звонкую ў свеце навуку,***
***Як ратных вякоў памінальную спадчыну,***
***Прымаю па складу,***
***па смаку,***
***па гуку,***
***Мову маю матчыну!***

Гэтыя радкі Пімена Панчанкі стануць эпіграфам для гадзіннай аўтарскай праграмы пісьменніцы Людмілы Рублеўскай, работа над якой ідзе на канале "Культура". Разам з Галінай Шаблінскай аўтар павядзе паворку пра гісторыю і сённяшні дзень роднай мовы.

Павел САКОВІЧ

## Эпіграма — як рэклама

### Мікола Мятліцкі

*Дух "зубровачкі" пякучы*
*У пародый свежанькіх.*
*Іхні почырк, стыль — бліскучы,*
*Толькі подпіс — "Шэранькі"...*

### Міхась Пазнякоў

*Не спалохаеш яго*
*Ні дубцом, ні ножыкам:*
*На крыўдзіцеля свайго*
*Нацкуе ён... "Вожыка".*
*Не сумуе разам з ім*
*Наш Міхась ніколечкі.*
*Апранаецца прытым*
*Ён заўжды — з іголачкі!*

### Галіна Тычка

*У мяне ніколі з Тычкай*
*Не было, дальбог, сутычкі.*
*А прызнацца, мо й дарэмна —*
*Сутыкнуцца з ёй прыемна,*
*Бо ў яе, на што ні глянь,*
*Кожная натхняе грань!*

### Наталля Чуева — дырэктар абласной бібліятэкі імя Пушкіна

*Да гасцей і чытачоў,*
*Як заўсёды чулая,*
*Баль спраўляе для сяброў*
*"Пушкіністка" Чуева.*

*Прыгажуня. Наталі.*
*Як і жонка генія.*
*Маладзейшы быў калі б,*
*Стаў бы*
*на калені я!*





ЗАСНАВАЛЬНІК
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-7985**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2626
Нумар падпісаны ў друк 11.04.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2259

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12